КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 48 (271) ◂ 23 снежня ◂ 2011 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ЛАРЫСА ГЕНІЮШ І ЖЫРОВІЧЫ

Стар. 30

**ЗАСТЫЛАСЦЬ У МІЖНАРОДНЫМ ЧАСЕ**

У Новы год Беларусь перамяшчаецца аднакрылай самотнай птушкай. Адносіны з Захадам пасля прэзідэнцкіх выбараў так і не наладзіліся нават у гіпатэтычным рэчышчы дыялогу, кантакты з Расіяй зведзеныя да прагматычных

Стар. 5

**ЯК СМЯЯЦЦА ПРЫ ДЫКТАТУРЫ**

Польшча адзначае 30-я ўгодкі ўвядзення вайсковага становішча. Перамагчы дыктатуру Ярузельскага палякам у той час дапамог гумар

Стар. 28

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144



**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**НАСТУПНЫ НУМАР «НОВАГА ЧАСУ» ВЫЙДЗЕ 6 СТУДЗЕНЯ 2012 ГОДА**



# СА СВЯТАМ БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ І НОВЫМ ГОДАМ!

*Беларусь пражыла няпросты год, няпросты для дзяржавы і для яе грамадзян.*

*Год разбітых спадзяванняў для тых, хто верыў у перамены.*

*Год развенчаных міфаў для тых, хто верыў у непахісную стабільнасць.*

*Але ж менавіта на руінах закарузлага паўстае часам нешта новае. У беларусаў нават ёсць адпаведны спосаб гаспадарання: ляды — спалі старое, каб вырасла новае. На лядах высякалі і спальвалі лес, і ўжо на падрыхтаванай, чорнай ад вуглёў і галавешак зямлі сеялі і вырошчвалі патрэбную культуру.*

*Магчыма, Беларусь акурат цяпер праходзіць праз гэты няпросты перыяд, па якім будзе ўзгадаваная новая фармацыя нацыі, людзей, культуры. Калі згадка беларуса за мяжой пра краіну свайго паходжання будзе выклікаць у суразмоўцаў больш чым адну асацыяцыю. Калі веды пра Беларусь будуць пазітыўнымі. Калі ўрэшце на чале дзяржавы стане чалавек, якога з гонарам можна будзе прэзентаваць суседзям як сумленне нацыі. Калі халуйства і падданства не будуць звязвацца з патрыятызмам, а выраз «дзяржава — гэта я» і для Беларусі сыдзе ў гістарычныя аналы. Будзем спадзявацца, што перыяд трансфармацыі будзе хуткім, не балючым і завершыцца пазітыўным вынікам.*

*Рэдакцыя ж «НЧ» зычыць сваім чытачам моцных сем'яў, бадзёрасці духу, здароўя, дабрабыту. І каб нішто не магло пахіснуць вашу веру ва ўласныя сілы ў здзяйсненні добрых намераў і задумаў.*

*Віншуем з Калядамі і Новым годам!*

З НАГОДЫ

# ЕС НЕ АДМЕНІЦЬ САНКЦЫІ

**Еўрапейскі саюз не адменіць санкцыі ў дачыненні да прадстаўнікоў афіцыйнай улады Беларусі да таго часу, пакуль на свабоду ў гэтай краіне не будуць адпушчаныя ўсе палітычныя вязні, гаворыцца ў заяве прэзідэнта ЭС Германа ван Ромпэя, з якой ён выступіў 19 снежня.**

«Пэўных абмежавальных захадаў мы не здымем да таго часу, пакуль усе палітычныя зняволеныя не будуць на волі», — сказаў ён на прэс-канферэнцыі ў Кіеве.

Герман ван Ромпэй адзначыў, што ў панядзелак спаўняецца роўна год, як беларускія ўлады разагналі мітынг пратэсту ў Мінску супраць фальсіфікацыі на прэзідэнцкіх выбарах.

«19 снежня мінулага году былі растаптаны прынцыпы дэмакратыі. Гэта прывяло да пераследу палітычнай апазіцыі, прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці. На працягу апошніх 12 месяцаў атмасфера пераследу застаецца такой жа», — сказаў ван Ромпэй.

Пры гэтым, паводле яго, Брусэль працягне падтрымліваць дачыненні з грамадзянскай супольнасцю Беларусі.

СУД

# ЖУРНАЛІСТ «НОВАГА ЧАСУ» АСУДЖАНЫ ДА 10 СУТАК АРЫШТУ

**Справу затрыманага 19 снежня ўвечары ля Чырвонага касцёла пазаштатнага карэспандэнта «Новага часу» Мікіты Броўкі слухалі ў судзе Партызанскага раёна.**



На працэсе прысутнічаў у якасці сведкі шэф-рэдактар выдання Аляксей Кароль. Ён перадаў суду пісьмовае пацвярджэнне, што Броўка быў на акцыі з нагоды ўгодкаў падзей на Плошчы па рэдакцыйным заданні.

Далучанае да справы рэдакцыйнае заданне не паўплывала на рашэнне суддзі. У агучанай пастанове гаварылася, што Броўка паводзіў сябе на акцыі актыўна, і таму яго прысутнасць там была расцэненая як удзел. Па словах Мікіты, ён не быў удзельнікам акцый, а быў яе назіральнікам, як тое і належыць журналісту.

Адбываць пакаранне хлопец будзе ў цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна ў Мінску.

Па інфармацыі Беларускай асацыяцыі журналістаў, 19 снежня ў Мінску пад затрыманні трапілі дзевяць журналістаў.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# СУПРАЦЬ ПЛЫНІ

Сяргей ПУЛЬША

**21 снежня ў мінскім офісе Партыі БНФ прайшла прэзентацыя кнігі журналіста Аляксандра Тамковіча «Супраць плыні».**

Паводле слоў Тамковіча, новая кніга адрозніваецца ад тых, што ён пісаў раней, — гэта не інтэрв'ю з яе героямі, а эсэ пра іх, сказаў аўтар, падкрэсліўшы яе пэўную сугучнасць з тэмай «Будзіцеляў» — сваёй кнігай, выдадзенай прыкладна год таму. У кнізе апісаны лёсы 18 чалавек, якія пасля падзей 19 снежня 2010 года трапілі пад рэпрэсіі.

Аляксандр Тамковіч паведаміў, што ў выданні кнігі яму дапамог закрыты ўладамі праваабарончы цэнтр «Вясна». «Калі мы абмяркоўвалі з Алесем Бяляцкім, кіраўніком цэнтра, ідэю гэтай кнігі, мы не меркавалі, што ён сам апынецца ў зняволенні і, магчыма, будзе фігурантам маёй наступнай кнігі другой часткі «Супраць плыні». Аднак з арыштам Бяляцкага нічога не змянілася, і кніга, нягледзячы на тое, што ён цяпер у зняволенні, выйшла», — сказаў аўтар.

На прэзентацыі выступілі фігуранты крымінальнай справы аб падзеях 19 снежня 2010 года і героі кнігі: экс-кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў, прэс-сакратар Андрэя Саннікава Аляксандр Атрошчанкаў, былы міліцыянер Аляксандр Класкоўскі і іншыя.

АКЦЫЯ

# ПЛОШЧА–2011. РЭКАНСТРУКЦЫЯ

Вольга ХВОІН

**19 снежня, у гадавіну сумных падзей, у сталіцы Беларусі сілавікі зладзілі рэканструкцыю падзей. Падзей 19 снежня 2010 года, калі брутальна была разагнаная шматтысячная акцыя пратэсту супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў, а цягам наступных месяцаў палітычна і грамадска актыўная частка насельніцтва жыла паміж судамі, пасадкамі, вобшукамі.**



Яшчэ днём у цэнтры Мінску назіралася канцэнтрацыя спецтэхнікі, спецназу і ўнутраных войскаў. Хаця ніякіх арганізаваных акцый у гэты дзень не планавалася і не анансавалася.

Вечарам невялікія купкі людзей, і людзі паасобку пайшлі са свечкамі ў бок плошчы Незалежнасці і Чырвонага касцёлу, каб такім чынам «адзначыць» гадавіну сваіх разбітых надзеяў і практычнага зацвярджэння статуса «апошняй дыктатуры Еўропы».

Малітвы і свечкі скончыліся прадказальна — грубымі затрыманнямі людзьмі ў цывільным (амаль сімвал Беларусі, а не белакрылы бусел, як думаюць некаторыя наіўныя грамадзяне), арыштамі і штрафамі. Мінскі ГУУС паведаміў, што ў Мінску было затрымана 46 найбольш актыўных удзельнікаў акцыі. Пасля высвятлення асобаў 14 удзельнікаў акцыі былі адпушчаныя, а ў дачыненні да 32 складзеныя адміністрацыйныя пратаколы па артыкулах 09.04 (невыкананне абавязкаў па выхаванні дзяцей), 23.34 (парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства або пікетавання) і 17.1 (дробнае хуліганства) Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Малітвы перад касцёлам, свечкі ў руках, шпацыры па горадзе ў знакавыя дні — справа небяспечная. За якую няўмольна пагражае пакаранне. Пакаранне за думкі і бяздзеянні. Год таму беларусам зладзілі публічнае і масавае збіццё за нязгоду мець усё таго ж чалавека ў кіраўніцтве дзяржавы. Сёлета каралі за неартыкуляваны пратэст, сумныя ўспаміны, і толькі вярхоўнаму галоўнакамандуючаму ведама, за што яшчэ. Як згадана ў адным з матэрыялаў гэтага нумару, шалі лаяльнасці да ўладаў усё больш і больш адхіляюцца ў «мінус». Адпушчаная струна страху можа адгукнуцца ў любы момант.

ДА ЮБІЛЕЮ

# ВЫШЫВАНЫ «ВЯНОК»

Сяргей ЧЫГРЫН

**Вучні 7 «Б» класа СШ №8 Слоніма да 120-годдзя класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча зрабілі незвычайны падарунак.**

Яны вышылі копію вокладкі адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў Максіма Багдановіча «Вянок».

Вышываны «Вянок» сямікласнікі паказалі на навуковай канферэнцыі, прысвечанай паэту. Гэта канферэнцыя адбылася ў школе. Да яе настаўнікі і вучні рыхтаваліся некалькі месяцаў. Яны не толькі вышылі «Вянок», а наведалі тыя мясціны, якія былі звязаныя з жыццём і дзейнасцю Максіма Багдановіча, наведалі музей паэта ў Гродна, выдалі кніжку вершаў Багдановіча ў перакладзе на рускую мову, правялі шэраг іншых мерапрыемстваў.

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# АДНОСІНЫ З ЕС ЗАМАРОЖАНЫЯ

Вольга ХВОІН

**Польшча завяршае сваё старшынства ў Еўрасаюзе. Наступныя шэсць месяцаў старшынстваваць у ЕС будзе Данія.**

Пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка на адмысловай прэс-канферэнцыі заявіў, што вынікам працы польскае кіраўніцтва задаволена.

«Гэта было смелае старшынства, — мяркуе Лешак Шарэпка, — хаця крызіс еўразоны і падзеі ў Паўночнай Афрыцы ўскладнілі працу... Мы больш інтэнсіўна пайшлі ў інтэграцыі з Харватыяй, далі новы імпульс інтэграцыі з Ісландыяй. Цяпер гавораць пра крызіс ЕС, але ёсць краіны, якія вельмі хочуць стаць сябрамі Еўрасаюза».

Дыпламат паведаміў, што ў часе старшынства Польшча вяла перамовы з Украінай, падпісанае пагадненне з Расіяй па малому памежнаму руху для Калінінградскай вобласці. «Вы ведаеце, што падобныя планы ёсць і з Беларуссю, але, калі глядзець на тэмпы працы, то з Расіяй мы хутчэй завершым працу па ўвядзенні спрошчанай візавай палітыкі», — сказаў Лешак Шарэпка. «У чэрвені мы таксама зноў агучылі прапанову пачаць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і Еўрасаюзам. Афіцыйны адказ мы так і не атрымалі. Неафіцыйна адзін з чыноўнікаў нам сказаў, што гэтае пытанне не з'яўляецца прыярытэтам для беларускага боку, — паведаміў дыпламат. — У Беларусі, напэўна, жывуць багатыя людзі, якія могуць плаціць 60 еўра за візу».

Ён канстатаваў, што дасягненняў у палітычных адносінах з Беларуссю цягам гэтага паўгоддзя не было. Польшча рабіла ўсё, каб беларускае пытанне знаходзілася ў цэнтры ўвагі ЕС, імкнулася актыўна падтрымліваць дыялог з грамадзянскай супольнасцю Беларусі.

Кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майра Мора заявіла, што спыненне супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Еўрасаюзам наносе страты краіне. «Мы прапануем Беларусі прыняць еўрапейскія нормы і стандарты, сучасныя метады кіравання, напрацоўкі ў такіх сферах, як экалогія, вышэйшая адукацыя, кіраванне межамі, барацьба супраць гандлю людзьмі і наркотыкамі, — удакладніла дыпламат. — У грашовым выражэнні цяперашнія праекты ацэньваюцца ў 50 мільёнаў еўра, праекты, што знаходзяцца ў стадыі распрацоўкі у 85 мільёнаў еўра».

Лешак Шарэпка таксама паведаміў, што ў жніўні польскае пасольства ад імя ўсіх паслоў краін ЕС у Беларусі накіроўвала ў МЗС ноту з просьбай дазволіць сустрэчу з усімі палітвязнямі, што знаходзяцца ў турме. Адказ прыйшоў напрыканцы верасня, і ён быў адмоўны. Лешак Шарэпка мяркуе, што еўрапейскія дыпламаты могуць звярнуцца ў МЗС Беларусі з аналагічнай просьбай яшчэ раз, але не ўпэўнены, што адказ будзе станоўчы.

1 студзеня 2012 года старшынства ў Еўрасаюзе пераходзіць да Даніі. Кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майра Мора патлумачыла: у сувязі з тым, што ў Беларусі няма амбасады Даніі, выконваць функцыі старшыні на гэты перыяд будзе прадстаўніцтва ЕС.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЯК ПАДСТАВІЦЬ БЕЛАРУСЬ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларускія ўлады, здаецца, вырашылі пасварыцца з усім сусветам, акрамя Расіі.**




19 снежня ў Мінску тры актывісткі Femen Іна Шаўчэнка, Аксана Шачко і Аляксандра Нямчынава правялі перформанс каля будынка КДБ. Агаліўшыся па пояс, дзяўчаты на працягу некалькіх хвілін трымалі плакаты з надпісамі «Freedom to political prisoners» («Свабоду палітычным зняволеным») і «Жыве Беларусь!». Гэты ж лозунг, «Жыве Беларусь!», яны скандавалі. Акцыя была прымеркаваная да гадавіны разгону апазіцыйнага мітынгу 19 снежня 2010 года, удзельнікі якога былі не згодныя з афіцыйнымі вынікамі прэзідэнцкіх выбараў.

Вечарам невядомыя людзі затрымалі іх на Усходнім аўтавакзале Мінска, адкуль дзяўчаты планавалі накіравацца ў Гомель. Паводле слоў актывістак Femen, адразу ж пры затрыманні ў іх адабралі мабільныя тэлефоны і дакументы, затым вывезлі ў лес, дзе пагражалі і ўсяляк здзекаваліся, прымушалі распранацца дагала, трымаць плакаты з фашысцкай свастыкай, аблілі галовы зялёнкай. Усё гэта здымалася на відэакамеру. Украінкі сцвярджаюць, што іх выкінулі з машыны голымі ў лесе, адкуль яны, блукаючы, дабраліся да найбліжэйшай вёскі Бекі і звярнуліся па дапамогу да мясцовых жыхароў.

Потым яны былі затрыманыя мясцовай міліцыяй і дастаўлены ў Ельскі РАУС на той падставе, што знаходзіліся ў памежнай зоне без дакументаў. Дзяўчат таксама вазілі на медагляд у мясцовую бальніцу.

Прыблізна а першай гадзіне ночы 21 снежня ў Ельскі РАУС прыбыў з Мінска консул Украіны. Дзяўчат дэпартавалі на радзіму праз пункт пропуску «Новая Рудня». Зараз яны знаходзяцца ва Украіне.

Сварка з Украінай — ці не занадта? Украінскі Femen ужо прапанаваў выкрасці беларускага пасла, пагаліць яго, выкінуць у лесе без дакументаў. У прынцыпе, хто потым дакажа, што гэта зрабіў Femen?

Інцыдэнт з актывісткамі украінскай арганізацыі Femen з'яўляецца найгрубейшай правакацыяй, заявіў старшыня КДБ Беларусі Вадзім Зайцаў, адказваючы на пытанні журналістаў 21 снежня ў парламенце.

«Развіваецца найгрубейшая правакацыя, характар і мэты якой трэба будзе вызначыць», — сказаў ён.

Зайцаў зазначыў, што яго людзі актывістак руху «не чапалі, як бы гэтага камусьці не хацелася». Паводле яго слоў, яны могуць гаварыць, што хочуць, але гэта з'яўляецца «іх выдумкамі».

Ну, канешне ж, гэта правакацыя! Калі такім чынам вывозілі Змітра Дашкевіча, Артура Фінькевіча, іншых актывістаў — гэта таксама была правакацыя. А калі зніклі Зміцер Завадскі, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі, Юры Захаранка? Таксама правакацыя? Чаму гэтыя справы належным чынам не расследаваныя? Гэта зноў правакацыя? Ужо шмат змянілася старшыняў КДБ, МУС, Генпракуратуры. І — ніякага выніку.

І, дарэчы, правакацыі маюць мэту. А ў выпадку з Femen — хто каго правакуе? Правакацыя тут толькі адна — зганьбіць Беларусь перад вачыма, найперш, нашага ўсходняга суседа, Украіны. Зганьбіць Беларусь перад вачыма замежнай супольнасці. Femen гэта не трэба — не той фармат, не міжнародны. Адно, каму гэта трэба — нядобразычліўцам беларускай улады. Якія ва ўладзе і акапаліся?

Ну, пастаялі 5 хвілін напаўаголеныя дзяўчаткі перад беларускім КДБ. Ну, каму ад гэтага шкода была? З чаго іх вывозіць у лес, рабіць з гэтага міжнародны скандал?

А між іншым, Лукашэнка заяўляе, што «сёння КДБ Беларусі знаходзіцца на пярэднім краі барацьбы з экстрэмізмам і злачыннасцю, надзейна абараняе інтарэсы радзімы, забяспечвае сацыяльна-палітычную стабільнасць у грамадстве». Пра гэта гаворыцца ў віншаванні Аляксандра Лукашэнкі вайскоўцаў, супрацоўнікаў і ветэранаў органаў дзяржбяспекі з прафесійным святам, якое яны адзначалі 20 снежня.

Акрамя істэрычнага смеху, гэтае віншаванне зараз не выклікае аніякіх эмоцый. «Надзейна абараняючыя інтарэсы радзімы», проста прашляпілі тэракт у мінскім метро 11 красавіка 2011 года, неналежным чынам расследавалі тэракт на Дзень незалежнасці 2008 года, а вось з дзяўчатамі з Femen, з барацьбой з журналістамі, з людзьмі, якія проста маліліся 19 снежня 2011 года каля Чырвонага касцёла, — «надзейна абаранілі інтарэсы радзімы, забяспечылі сацыяльна-палітычную стабільнасць у грамадстве». Малайцы!

Канешне, шмат хто ў КДБ сапраўды абараняе нацыянальную бяспеку. Але на іх месцы я б не ўспрымаў віншаванне Лукашэнкі сур'ёзна.

А тым часам крызіс прыціскае. Беларусь абвясціла новы конкурс па продажу СТАА «Мабільныя ТэлеСістэмы» («МТС»). «Былі тры прапановы, але таргі не адбыліся», — паведаміў 21 снежня журналістам віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін. Сярод прычын ён назваў неадпаведнасць прапаноў па цане і няпоўны пакет пададзеных дакументаў.

«Будзе абвешчаны новы конкурс па продажу «МТС», — сказаў віцэ-прэм'ер, падкрэсліўшы, што Беларусь не плануе зніжаць кошт выстаўленага пакета акцый.

Нагадаем, першапачаткова аўкцыён планаваўся на 1 снежня, затым без тлумачэння прычын яго перанеслі на 23 снежня. У сакавіку Аляксандр Лукашэнка заяўляў, што Беларусь гатова саступіць расійскаму аператару «МТС» сваю 51-працэнтную долю ў беларуска-расійскім СП за 1 мільярд долараў, у іншым выпадку пакет будзе выстаўлены на аўкцыён. Што і робіцца.

Ну і сумная навіна. Дадатковых выхадных на Новы год у Беларусі не будзе з-за эканамічнага крызісу, заявіў віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін, адказваючы 21 снежня на пытанні парламентарыяў на сумесным пасяджэнні дзвюх палат.

«Мы абмяркоўвалі гэту тэму ва ўрадзе дастаткова бурна. Прынялі рашэнне, што эканоміка, якая склалася ў нашай краіне, не дазваляе нам адпачываць па пяць і больш дзён», — сказаў ён.

Такім чынам, 2 студзеня будзе ў Беларусі першым працоўным днём у 2012 годзе. Навагоднія святы — 1 студзеня 2012 года, а таксама каталіцкае (25 снежня) і праваслаўнае (7 студзеня) Божае Нараджэнне выпадаюць на нядзелю.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МАРЫНА АДАМОВІЧ



І ў нас час шлюб можа быць каштоўнасцю, якой людзям, што любяць адзін аднаго, трэба дамагацца доўгі час. Асабліва калі жаніх — асуджаны экс-кандыдат у прэзідэнты. Палітвязень Мікалай Статкевіч і Марына Адамовіч пабраліся шлюбам у шклоўскай калоніі. Афіцыйнай рэгістрацыі адносінаў яны дамагаліся каля года.

«Гэты час цягнуўся так доўга, што, акрамя трывогі, чакання і страху, я нічога не адчуваю, — прызналася Марына Адамовіч у гутарцы з карэспандэнтам «Салідарнасці». — За год мы з Мікалаем бачыліся толькі на судзе і 30 мая размаўлялі праз шкло. Дакрануцца да яго магчымасці не было».

Марына Адамовіч пасля арышту Статкевіча спачатку імкнулася пазбягаць персанальнай увагі, але абставіны прымусілі яе ўліцца ў спіс публічных асобаў, што змагаюцца за вызваленне палітзняволеных.

«Мне хапала публічнасці ў маім «нармальным» жыцці, працоўнай, прафесійнай. Я доўгія гады працавала выкладчыцай у медыцынскім універсітэце — мела аўдыторыю кожны дзень. На першым этапе я расцэньвала ўвагу СМІ да сябе як умяшанне ў асабістае жыццё. І я спадзявалася, што мне ўдасца дапамагчы Міколу, не пускаючы нікога ў тое наша, што патрабуе абароны, што мы заўсёды лічылі належным толькі нам. Але, на жаль, сітуацыя не дазволіла мне захоўваць ізаляванай гэтую ракавіну. Я мушу даводзіць да людзей інфармацыю пра Міколу», — распавяла спадарыня Адамовіч у адным з нядаўніх інтэрв'ю.

Беларуская пенітэнцыярная сістэма прадугледжвае роспіс на працягу дзесяці хвілін. Як правіла, вяселле ў турме праводзіцца без сведак. Напярэдадні вяселля Мікалай Статкевіч правёў пяць сутак у СІЗА як «злосны парушальнік» рэжыму, а потым быў змешчаны ў памяшканне камернага тыпу. Блізкія палітвязня звязваюць гэта з публікацыямі яго лістоў, якія трапілі на волю, абыходзячы адміністрацыю.

### ТАМАРА ВЫСОЦКАЯ



Старшыня Савецкага суда горада Мінска Тамара Высоцкая адмовіла ў сустрэчы асуджанаму вядомаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму з бацькам, стан здароўя якога крытычны. Алесь Бяляцкі ўтрымліваецца ў следчым ізалятары ў Жодзіна.

Жонка зняволенага праваабаронцы атрымала другі па ліку адказ ад Тамары Высоцкай наконт магчымасці спаткання Бяляцкага з бацькам. «Суд Першамайскага раёна г. Мінска лічыць магчымым ажыццявіць яго [спатканне] прадастаўленне, у тым ліку з канваіраваннем абвінавачанага да месца спаткання за межы СІЗА № 8 пры ўмове арганізацыі бяспекі падчас шляху следавання і спаткання і неадкладнага вяртання да месца ўтрымання пасля спаткання», — гаворыцца ў пісьмовым адказе Высоцкай. На пытанне, чым па сутнасці гэты адказ адрозніваецца ад папярэдняга, суддзя толькі заўважыла, што «і так пайшла насустрач».

Пасля такога адказу сваякі Алеся Бяляцкага апынуліся ў поўнай разгубленасці. Хто ім зможа даць адказ, якім чынам можа адбыцца спатканне Алеся Бяляцкага з цяжка хворым бацькам, якое суд «лічыць магчымым»?

У жонкі Алеся Бяляцкага была невялікая надзея, што вырашэнне гэтага пытання знаходзіцца ў кампетэнцыі Дэпартамента выканання пакаранняў, аднак разам з адвакатам яна аднесла адпаведную заяву. Аднак з дэпартамента паведамілі, што паводле заканадаўства асобы, якія ўтрымліваюцца пад вартай, маюць права на спатканне са сваякамі ў адведзеных для гэтага памяшканнях у месцах утрымання пад вартай.

### ІГАР МАКАРАЎ



Беларускі дзюдаіст Ігар Макараў (вагавая катэгорыя звыш 100 кілаграмаў) заваяваў золата на міжнародным турніры серыі Гран-пры ў кітайскім Ціндао. Алімпійскі чэмпіён–2004 Ігар Макараў атрымаў перамогу «іпон» над прадстаўніком Паўднёвай Карэі Сунн Мін Кімам за 2 хвіліны 7 секунд.

На шляху да фіналу Ігар Макараў атрымаў таксама перамогі над Малка эль Мехдзі з Марока, Махамедам Родакі з Ірана, Ісламам эль Шэхабі з Егіпту і Рафаэлем Сільвай з Бразіліі. Ігар Макараў — беларускі дзюдаіст, адзіны ў гісторыі алімпійскі чэмпіён па дзюдо ад Беларусі. Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Пераехаў у Беларусь з Расіі разам з сям'ёй у 1987 годзе. Доўгі час жыў у Гомелі.

Яшчэ адзін прадстаўнік Беларусі Аляксандр Сцяшэнка (вагавая катэгорыя да 81 кілаграмаў) заняў 9-е месца, у 1/16 фіналу ўзяўшы верх над Махамедам Дарвішам з Егіпту.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# НЕЧАКАНАЯ РЭАКЦЫЯ НА ЗВЫКЛУЮ ФАЛЬСІФІКАЦЫЮ

Сяргей НІКАЛЮК

**Вынікі галасавання 4 снежня паказалі, што магчымасці мабілізацыі адміністрацыйнага рэсурсу ў Расіі вычарпаныя.**



«У мяне адчуванне, што мы знаходзімся ў самым пачатку нейкіх вялікіх і (цьфу-цьфу-цьфу) пазітыўных зменаў». Пісьменнік Барыс Акунін сплюнуў тры разы не выпадкова. Ён выдатна разумее, што чалавеку ўласціва ўважаць жаданае за сапраўднае. 10 снежня ў Маскве на Балотнай плошчы прайшоў мітынг пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў у Дзярждуму, які сабраў не меней 50 тысяч чалавек. Гэта самая масавая палітычная падзея ў расійскай сталіцы пасля 1993 года.

Аднак прычыны, якія прымусілі масквічоў выйсці на плошчу, не такія відавочныя, як гэта можа здацца на першы погляд. На думку дырэктара «Левада-цэнтра» Льва Гудкова, «узровень фальсіфікацый быў звычайным — у межах 5–8%». Табліца гэтыя высновы пацвярджае. Звярніце ўвагу на высокую ступень супадзення вынікаў ЦВК і апытанняў на выхадзе з участкаў, праведзеных «Фондам грамадскай думкі» (ФОМ). Выключэнне — «Адзіная Расія»(«ЕР» або «ЕдРо»).

Але гэта «тэмпература» ў цэлым па расійскай «бальніцы». У Маскве несупадзенне вынікаў «Адзінай Расіі» паміж дадзенымі ЦВК і ФОМ склала 19,1 пункта (46,6% супраць 27,5%). Асноўны метад падвышэння вынікаў «Адзінай Расіі» традыцыйны — гэта ўкідванне дадатковых бюлетэняў. Калі пабудаваць графік залежнасці галасоў, пададзеных за партыі, ад яўкі, то павінна атрымацца гарызантальная прамая. Павінна, але не атрымліваецца. У «Адзінай Расіі» яна чамусьці заўсёды ідзе ўгару, а ва ўсіх астатніх партый — уніз.

ПРАЦЭНТ ГАЛАСОЎ ВЫБАРЦАЎ, ПАДАДЗЕНЫХ ЗА ФЕДЭРАЛЬНЫ СПІС КАНДЫДАТАЎ (АД КОЛЬКАСЦІ ТЫХ, ХТО ПРЫНЯЎ УДЗЕЛ У ГАЛАСАВАННІ)

| | «Адзіная Расія» | КПРФ | ЛДПР | «Справядлівая Расія» | «Яблоко» |
|---|---|---|---|---|---|
| Афіцыйныя дадзеныя ЦВК | 49,3 | 19,2 | 11,7 | 13,2 | 3,3 |
| Прагноз «Левада-цэнтра»* | 50,8 | 15,8 | 13,3 | 15,7 | 1,5 |
| Exit poll (ФОМ) | 45,5 | 21,0 | 13,2 | 14,0 | 3,6 |

* На падставе ўсерасійскага апытання, праведзенага 25–28 лістапада.

## Памылка Пастухова

У Беларусі парламенцкія выбары прынята праводзіць у «сумным рэжыме». У гэтым ёсць свая логіка. Бо электарат складаецца не з адных толькі прыхільнікаў улады. Мабілізуючы прыхільнікаў, улада міжволі мабілізуе і апанентаў, чым стварае сабе дадатковыя праблемы. Гэта Сталін абапіраўся на энергію мас, яго спадчыннікі абапіраюцца на іх пасіўнасць. Падмацую сказанае словамі Уладзіміра Пастухова, аднаго з самых цікавых, на мой погляд, расійскіх паліталагаў: «Пуцін валодае добрай інтуіцыяй і адчувае народныя настроі. Таму ён не напружвае народ «празмернымі» гістарычнымі выклікамі, не дамагаецца мэтаў, якія патрабуюць самаахвяраванні, не высоўвае задач, якія народу не па плячы. Ён прымае народ такім, які ён ёсць, і народ плаціць яму ўзаемнасцю. Разам з народам яны так і коцяцца па наезджанай каляіне, змазанай прыбыткамі ад звышприбытковых продажаў нафты і газу. Ім абодвум добра адзін з адным, а думаць пра заўтрашні дзень ім не хочацца».

Цытата зусім свежая. Яна з'явілася на сайце polit.ru 5 снежня. Зразумела, што артыкул быў напісаны яшчэ да падвядзення вынікаў галасавання. За дзень да выбараў у аналагічным ключы выказваўся і эксперт «Маскоўскага цэнтра Карнэгі» Мікалай Пятроў: «Найменш яркая, энергічная і прыкметная выбарчая кампанія падышла да канца. Яна была сумбурнай і надзвычай беззмястоўнай: ні нейкіх ідэяў, ні ворагаў, ні новых твараў». Але прайшлі два дні, і той жа аўтар у сваіх ацэнках зрабіў разварот на 180°: «Фінал выбараў у Дзяржаўну думу VI склікання прайшоў на рэдкасць жыва і цікава...»

Расійскае грамадства, як адзначаў Юрый Левада, можа знаходзіцца ў двух станах: у сонным і ўзбуджаным. Апошні раз яно ўзбудзілася напачатку 90-х гадоў. Нават дэфолт 1998 года не вывеў яго са звыклага стану, а тут нейкія 5% галасоў, укінутых на карысць партыі «жулікаў і злодзеяў». А з тым, што «Адзіная Расія» гэтаму вызначэнню адпавядае, за тры месяца да выбараў быў згодны кожны трэці грамадзянін Расіі (апытанне «Левада-цэнтра»).

Дык з-за чаго сыр-бор, і чаму снежаньскае галасаванне займела пратэстны характар, пра




што сведчыць той факт, што па меры набліжэння даты выбараў рэйтынг «Адзінай Расіі» змяншаўся, у той час як рэйтынгі яе асноўных канкурэнтаў раслі? Чаму «сумныя выбары» абудзілі палітычную актыўнасць рускіх і паставілі тым самым пад сумнеў сакрэтную дамову паміж уладай і грамадствам: «мы не лезем у вашы справы, вы не лезеце ў палітыку»?

## Неабходная перазагрузка

Безумоўна, не варта блытаць нагоду з прычынай. Звернемся да дакладу «Палітычны крызіс у Расіі і магчымыя механізмы яго развіцця», падрыхтаванага яшчэ ў кастрычніку вельмі лаяльным да ўлады «Цэнтрам стратэгічных распрацовак». На думку аўтараў дакладу, палітычны крызіс у краіне ўжо ідзе поўным ходам, хоць яшчэ і не вырваўся на паверхню. Сутнасць крызісу — у хуткім нарастанні недаверу да ключавых лэйблаў: прэзідэнта, прэм'ер-міністра і «партыі улады». Калі тэндэнцыя падзення даверу да ўладаў захаваецца хоць бы на працягу найбліжэйшых 10–15 месяцаў і калі не будзе зроблена дзеянняў па «перазагрузцы даверу», то па сваёй інтэнсіўнасці палітычны крызіс цалкам можа ўшчыльную наблізіцца да эпохі канца 1980-х гадоў.

Галоўную прычыну крызісу аўтары дакладу бачаць у тым, што «грамадства перарасло палітычную сістэму». Гэта робіць немагчымым выхад з крызісу за кошт змены персаналій. Неабходная глыбокая трансфармацыя самой сістэмы, каб яна пачала больш эфектыўна рэагаваць на запыты шматлікіх пластоў насельніцтва, якое сябе ў гэтай сістэме наогул не бачыць. Узровень недаверу да ўладаў сёння такі высокі, што грамадства не прыме новай палітычнай павесткі, калі яна будзе выходзіць ад старых лідараў. З іншага боку, вылучэнне новых асобаў пад ранейшую павестку таксама бесперспектыўнае.

«Грамадства перарасло палітычную сістэму» — гэта азначае, што пра сябе пачынае заяўляць постсавецкае пакаленне, чые запыты не абмяжоўваюцца хлебам і відовішчамі. Зразумела, што гаворка ідзе пераважна пра жыхароў вялікіх гарадоў. Сёння яны цалкам усвядомлена прад'яўляюць попыт на такую, здавалася б, абстракцыю, як «жыццёвыя шанцы», якія, паводле знаёмага нам па ранейшых «Азбуках паліталогіі» Ральфа Дарэндорфа, з'яўляюцца «спецыфічнай камбінацыяй правоў і іх забеспячэння». Аднак «суверэнная дэмакратыя», сфармаваная ў Расіі пад кіраўніцтвам падпалкоўніка КДБ, такую камбінацыю забяспечвае толькі абраным.

## Тандэм у ролі тэрмінатара

Сацыёлаг Курт Левін увёў у навуковы абарот панятак напружаных сістэм. Такая сістэма можа знаходзіцца ў адносна стабільным стане, у той час як узрастае ўнутранае напружанне. І ў нейкі момант яна дэстабілізуецца пад уздзеяннем непрадказальнай падзеі. У тым, што падстаў для росту напружання ў расійскім грамадстве больш чым дастаткова, сумнявацца не даводзіцца. Дастаткова згадаць узровень няроўнасці прыбыткаў, што зашкальвае.

Падстаў для росту напружанасці ў беларускім грамадстве не менш. Нездарма ж палітычныя аптымісты з пачатку лета прагназавалі наступленне «гарачай восені». Але на Плошчу выйшлі не збяднелыя беларусы, а рускія, чые прыбыткі працягваюць расці. Па тлумачэнне парадоксу звернемся да паліталога Аляксандра Цыпко: «Цуд нулявых стаўся магчымым не толькі таму, што Пуцін спачатку быў найперш «прэзідэнтам надзеі», але і таму, што страх перад хаосам, запыт на парадак як бы замарожвалі ўсе іншыя запыты... Зараз жа адбываецца тое, што павінна было адбыцца 10 гадоў таму: незадаволеныя сваім жыццём людзі адварочваюцца ад улады».

Аднак узровень падзення даверу да улады ў Беларусі сёння вышэй, чым у Расіі. Мне ўжо неаднаразова даводзілася адзначаць, што сама па сабе незадаволенасць «сваім жыццём» не вядзе ў нас да пратэсту. Пакуль улада ўспрымаецца як маналіт, «чалавек дзяржаўны», які складае аснову «большасці», будзе працягваць спадзявацца, што дзяржава ўрэшце ўсе праблемы вырашыць.

Расійскі ўладны маналіт і да тандэму істотна не дацягваў па сваіх характарыстыках да беларускага. Гэта і зразумела: іншы маштаб краіны, іншы ўзровень яе ўнутранай складанасці. «Тандэм, які прыйшоў на змену традыцыйнай расійскай аўтакратыі, прынялі за новую форму ўлады, і гэта стала неспадзяваным стрэсам як для эліты, так і для значнай часткі грамадства. У адных гэта спарадзіла новыя надзеі, у іншых — новыя страхі. Справу разбурэння рэжыму давяршылі бесталковыя паводзіны самога Мядзведзева, які па шэрагу пытанняў як знешняй, так і ўнутранай палітыкі дазволіў сабе ўступіць у публічную палеміку з Пуціным» (Аляксей Вязаўскі, эканаміст).

## Праблема гаечнага ключа

Нявызначанасць спараджае патрэбу ў сцэнарах. «Закручванне гаек» — адзін з самых папулярных. У Пуціна, маўляў, няма іншага спосабу ўтрымацца ва ўладзе. Гэта сапраўды так, але дзе Пуцін возьме гаечны ключ? Ніколі раней у гісторыі Расіі мяккі аўтарытарызм не змяняўся цвёрдым. Апошні заўсёды з'яўляўся рэакцыяй на мяккую лібералізацыю. Так, НЭП спарадзіў сталінізм, а перыяд саборнай дэмакратыі пры першых Раманавых — Пятра.

Не варта перабольшваць ролю асобы ў гісторыі. Гарбачоў і Ельцын прыйшлі да ўлады на ліберальнай хвалі. Калі яна адышла, пакінуўшы пасля сябе разбураную эканоміку, грамадства зноў запатрабавала «моцную асобу», і з'явіўся Пуцін. Сёння людзей на Плошчу вывела патрэба ў справядлівых выбарах.

Для закручвання гаек неабходна гатовая да самаабмежавання эліта. Цвёрды аўтарытарызм пачынаецца з кантролю эліты — узгадаем Сталіна. Дый досвед Беларусі гэтую выснову пацвярджае. Расійская ж эліта цалкам камфортна сябе адчувае і адмаўляцца ад віл на Лазурным беразе не збіраецца.

Вынікі галасавання 4 снежня паказалі, што магчымасці мабілізацыі адміністрацыйнага рэсурсу вычарпаныя, як вычарпаны і патэнцыял апеляцыі да ранейшых поспехаў і куплі галасоў за кошт сацыяльных выплат. «Каціцца па наезджанай каляіне» ва ўлады больш не атрымаецца. Грамадства пачынае дыктаваць павестку дня. Да сакавіка ў Пуціна яшчэ ёсць час, каб унесці адпаведныя карэктывы ў сваю выбарчую кампанію. Уласна, ён гэта ўжо і пачаў рабіць, калі прапанаваў падчас тэлевізійных зносін з народам вярнуцца да абрання губернатараў.

ГЕАПАЛІТЫКА

# ЗАСТЫЛАСЦЬ У МІЖНАРОДНЫМ ЧАСЕ

Вольга ХВОІН

**У Новы год Беларусь перамяшчаецца аднакрылай самотнай птушкай. Адносіны з Захадам пасля прэзідэнцкіх выбараў так і не наладзіліся нават у гіпатэтычным рэчышчы дыялогу, кантакты з Расіяй зведзеныя да прагматычных праграм «актывы наўзамен лаяльнасці».**




Па выніках года атрымалася так, што «КДБ Беларусі ў цеснай звязцы з іншымі праваахоўнымі структурамі абараніў стабільнасць у развіцці дзяржавы, выбар беларускага народа і не дазволіў умешвацца ва ўнутраныя справы Беларусі», — заявіў кіраўнік КДБ Вадзім Зайцаў, падводзячы вынікі дзейнасці камітэта. Гэтая фраза добра праілюстравала ўнутраную і — як вынік — знешнюю палітыку дзяржавы цягам гэтага года і накопleny багаж на бліжэйшы час — сілавыя метады вызначаюць сёння і заўтра Беларусі.

Напрыканцы года ЕС пашырае візавыя санкцыі, Злучаныя Штаты ідуць далей і маюць намер пашырыць эканамічны ціск на ўлады Беларусі. Палата прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША ўхваліла законапраект, які прадугледжвае пашырэнне санкцый супраць Беларусі «за парушэнне правоў чалавека». Дакумент пад назвай «Закон аб дэмакратыі і правах чалавека ў Беларусі ад 2011 года» быў прыняты аднагалосна. Аналагічны дакумент ухваліў Сенат. Цяпер ён павінен паступіць на подпіс прэзідэнту Бараку Абаме.

Адзначаецца, што Вашынгтон павінен дамагацца «неадкладнага і без якіх-небудзь умоў вызвалення ўсіх палітвязняў у Беларусі, у тым ліку тых, хто быў затрыманы ў сувязі з выбарамі 19 снежня 2010 года» і «працягваць падтрымліваць памкненні народа Беларусі да дэмакратыі, правоў чалавека і вяршэнства закона».

Разважаючы аб стратэгіі кіраўніцтва дзяржавы, акадэмічны дырэктар BISS, палітолаг Аляксей Пікулік, перакананы, што стратэгіі няма, ёсць толькі тактыка выжывання. «Ніякай стратэгіі няма. Па максімуму захоўваць статус-кво, што прывядзе да большага зношвання эканамічнай мадэлі. Тым, што Лукашэнка падпісаў з Расіяй, ён забяспечыў сабе магчымасць нічога не рабіць яшчэ год-паўтара. А калі прадаць яшчэ частку актываў, то гэтага хопіць на прэзідэнцкі тэрмін», — гаворыць палітолаг.

Аднакрылая Беларусь з Еўразійскім саюзам у галаве насамрэч выглядае дзяржавай без канкрэтнай палітычнай лініі, тактыка флюгера — куды вецер дуне. Ды і палітолагі скептычна глядзяць на перспектывы гэтага новаўтварэння. «Гэта палітычны праект, піяр. Пуціну трэба нечым займацца цягам наступнага прэзідэнцкага тэрміну, калі ён зноў узначаліць Расію. Разам з тым у Расіі кепскі інвестыцыйны клімат, ёсць сістэмныя праблемы ў эканоміцы, ёсць вялікія складанасці з палітычнымі структурамі. Таму Расія наўрад можа дазволіць сабе гэта ўсур'ёз», — адзначае Аляксей Пікулік.

На хвалі эканамічных праблем грамадская думка таксама не ёсць адзінай у адстойванні суверэнітэту Беларусі. Геапалітычны выбар беларусаў найперш звязаны з эканамічнымі выгадамі, канстатуюць аналітыкі НІСЭПД. Ацэньваючы нядаўнюю заяву прэм'ер-міністра Расіі Уладзіміра Пуціна аб тым, што рэальнае аб'яднанне Расіі і Беларусі «магчымае, вельмі пажаданае і цалкам залежыць ад беларускага народа» і што «прыхільнікі гэтай ідэі павінны змагацца за яе рэалізацыю», 11,6% сказалі «я супраць аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву і буду супраць гэтага змагацца», 38,2% — «я супраць аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву, але не буду супраць гэтага змагацца», 34% — «я за аб'яднанне Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву, але не буду за гэта змагацца» і 6,7% — «я за аб'яднанне Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву і буду за гэта змагацца».

Калі б на гіпатэтычным рэферэндуме беларусам давялося выбіраць паміж аб'яднаннем з Расіяй і ўступленнем у ЕС, за першы варыянт прагаласавалі б 41,5%, а за другі — 42% рэспандэнтаў. Але чым бліжэй да рэальных знешнепалітычных праблемаў, тым больш ясным становіцца і іх выбар. Напрыклад, на пытанне аб пажаданасці ўвядзення на тэрыторыі Беларусі расійскага рубля дзеля ўмацавання эканомікі ў сувязі з крызісам, станоўчы адказ далі 38,1%, а адмоўны — палова апытаных. Увядзенне з боку ЗША і ЕС «новых эканамічных санкцый супраць некалькіх беларускіх прадпрыемстваў, даходы ад якіх, на іх думку, умацоўваюць палітычны рэжым» станоўча ацанілі каля 20%, а адмоўна — каля 40% рэспандэнтаў восеньскага апытання.

Шматвектарнасць у галовах кіраўніцтва і грамадзян не настройвае на пабудову цвёрдай лініі развіцця дзяржавы. Першыя думаюць, як бы дзень прастаяць ды ноч пратрымацца, другія — як бы звесці сямейны дэбет з крэдытам ці «звінціць» у больш камфортныя для жыцця краіны.

«Заходні вектар сёлета быў замарожаны і можна сказаць, што ўвогуле ліквідаваны, — падсумоўвае палітолаг Валер Карбалевіч. — Застаўся толькі ўсходні, расійскі вектар, але і тут стасункі развіваліся напружана. Толькі ў другой палове года была ўключаная палітыка субсідавання, што стала кіслароднай падушкай для беларускага рэжыму. Што тычыцца наступнага года, то адносіны з Захадам так і не знойдуць развіцця. А ўзаемаадносіны з Расіяй будуць залежаць ад таго, якую пазіцыю зойме яе кіраўніцтва пасля прэзідэнцкіх выбараў. Але сітуацыя выглядае статычна, і чакаць нейкага прарыву не выпадае».




КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ЕШ, ПАКУЛЬ ДАЮЦЬ!



**Як паведаміла БелТА, А. Лукашэнка паставіў перад урадам і суб'ектамі гаспадарання 8 асноўных задач у галіне імпартазамяшчэння.**

Асноўная іх мэта не патрабуе тлумачэння, а стыль цалкам нагадвае метады камандна-адміністрацыйнага кіравання мінулых часоў. Што праўда, запаветы беларускага правадыра яшчэ не высякаюцца ў мармуры, як гэта было з «каштоўнымі ўказаннямі» таварыша Кім Ір Сена, першага з дынастыі Кіраў у сацыялістычнай Паўночнай Карэі.

Значыць, ёсць куды імкнуцца. Не толькі ў сэнсе формы, але і зместу. Акрамя поўнай перамогі ў Народнай Карэі прынцыпаў рэальнага гуманізму, гэта краіна маўкліва ганарыцца тым, што нічога за сваімі межамі не купляе. Калі не хапае рысу, ядуць траву. Але за межамі не купяць ні зярнятка.

Ядуць і п'юць выключна сваё. І, зразумела, забяспечваюць паўсюдную і «жэстачайшую» эканомію ўсіх рэсурсаў. Гэтая ж задача пад першым нумарам значыцца і ў спісе А. Лукашэнкі. А задача нумар сем патрабуе ажыццяўляць імпартазамяшчэнне на спажывецкім рынку шляхам вырабу якаснай і канкурэнтаздольнай (!) айчыннай прадукцыі.

Як той казаў, ёсць куды расці і развівацца. Так, спадар Касінец, што кіруе Віцебскай вобласцю, яшчэ летам запатрабаваў усталяваць дыктатуру імпартазамяшчэння на, так бы мовіць, падмандатнай тэрыторыі. Кіраўнікі прадпрыемстваў звыкла падпарадкаваліся, і справа закіпела. З канвеераў пайшла імпартазамяшчальная і экспартна арыентаваная прадукцыя, але ў пошуках плацежаздольнага пакупніка трапіла на склад. Не вельмі шмат, але ў выглядзе складскіх запасаў вобласць замарозіла абаротных сродкаў на 1 трыльён рублёў. Вось так яно бывае — пайшоў небарака па воўну, а вярнуўся стрыжаным!

Справа ў тым, што дэвальвацыя мела на мэце абмежаваць спажывецкі ды вытворчы імпарт, каб змусіць купляць сваё. Але, здаецца, нечакана для нашых слынных эканамістаў ад вертыкалі, выклікала амаль што гіперінфляцыю, а рост коштаў прывёў да катастрафічнага скарачэння спажывання ўвогуле. Каб купляць, грошай няма, а без грошай таксама не даюць.

Зусім як у тым анекдоце пра дыялектыку: лазню будуюць для мурзатых, а ходзяць у яе чыстыя. Спрабуючы вырашыць гэтае спрадвечнае непаразуменне, спадар Касінец (урач, эканаміст і адміністратар), патрабуе правесці інвентарызацыю складскіх запасаў. Нарабілі самі не ведаюць чаго. І зараз, як казала гераіня Міхаіла Зошчанкі — «*они сами не знают, чего они хочут*».




Ва ўсім свеце такія інвентарызацыі заканчваюцца маштабным распродажам заляжалага тавару. Каб атрымаць хоць нейкія грошы. І не выраблялі болей нічога неліквіднага. У нас жа наадварот, чым цяжэй прадаць прадукцыю, тым яе болей выпрабляюць. Прычым спрабуюць знайсці спажыўцоў на беларускі неліквід не столькі ў самой Беларусі, колькі за яе межамі. Так задача нумар два патрабуе дасягнуць у бягучай пяцігодцы росту экспарту тавараў і паслуг у 2,2 разы. Але справа ў тым, што на сусветным рынку купляюць збольшага ці абсалютна таннае, ці абсалютна якаснае. Беларусі, якая прапануе на продаж толькі «адносна таннае і адносна якаснае», знайсці пакупніка не проста. Па «таннаму» ёй не ўгнацца за Кітаем, па «якаснаму» — за лепшымі ў свеце брэндамі і за тым жа Кітаем. Гэта краіна часу не марнавала, і сама ўжо стала сусветным брэндам.

Таму, у адпаведнасці з трэцяй задачай, адносна плацежаздольнага пакупніка на беларускае будуць шукаць «з улікам рэалій Адзінай эканамічнай прасторы». То бок у Расіі, Казахстане ды іншых не вельмі развітых краінах, якія да гэтай прасторы далучацца. Што тут сказаць? Калі верыць, што прастора гэта пачне багацець, то яе насельнікі аддадуць перавагу больш якаснай прадукцыі. Калі ж яны, што больш верагодна, застануцца беднымі яшчэ на дзесяцігоддзі, то галоўным і адзіным экспарцёрам для іх застанецца Кітай.

А што застанецца Беларусі? У адказе на гэта пытанне цяжка памыліцца. Перад краінай адкрываюцца два шляхі. Адзін — да стану Паўночнай Карэі, «еш пакуль даюць». Другі — да адмовы ад кіравання эканомікай на аснове вертыкальных дырэктыў, задач і загадаў, а значыць, да росквіту і дабрабыту.

Апошняе найбольш верагодна, хаця і патрабуе радыкальных змен.

КРУГЛЫ СТОЛ

# ПЕРАМОЖЦАЎ НЯМА

Вольга ХВОІН

**Напрыканцы каляндарнага года прадстаўнікі апазіцыйных партый і рухаў сабраліся за круглым сталом, каб фактычна ўпершыню публічна абмеркаваць памылкі леташніх прэзідэнцкіх выбараў. Фінал палітычнай кампаніі, які адкінуў грамадска-палітычнае жыццё Беларусі, як гэта ацэньвалі многія палітыкі і праваабаронцы, ледзь не ў 1937 год. Гэтая публічная дыскусія паказала, што свае памылкі апазіцыя прызнае з цяжкасцю. А ці вынесіць урокі і робіць высновы — увогуле адкрытае пытанне.**

## Не сорамна прасіць прабачэння

Сярод памылак, якія публічна назвалі палітыкі, факт, што апазіцыя так і не змагла правесці праймерыз, выйсці на адзінага кандыдата, дзевяць кандыдатаў не працавалі на агульную стратэгію. У выніку, на думку кіраўніка партыі «Справядлівы свет» Сяргея Калякіна, пераможцаў няма. «У кампаніі 2010 года не перамагла ні ўлада, ні апазіцыя. Праўда, трэба сказаць, што апазіцыя панесла моцныя страты і ў чалавечым плане, і ў плане таго, што ўладзе ўдалося нагнаць такую тэмпературу страху, ад якой мы дагэтуль не можам астудзіць грамадства», — заўважыў лідар левых.

Міхаіл Пашкевіч, прадстаўнік кампаніі «Гавары праўду», пад сцягамі якой і балатаваўся Уладзімір Някляеў, гаворыць аб тым, што фактычна паміж кандыдатамі ў прэзідэнты, нягледзячы на іх заклікі «на Плошчу!», не было цэласнага разумення, што ж на той Плошчы рабіць: «Стратэгія апошнія два месяцы перад 19 снежня працавала на адно: «Пабачымся на Плошчы!». І менавіта ў гэтым была памылка. Мы не маглі даць адказ людзям, а што далей? Канешне, быў план. Але пагадзіцеся, што гэта за план, які заваліўся адразу пасля таго, як тры-чатыры акцёры кампаніі папросту былі выключаны!»

Паказальна: усе ўдзельнікі круглага стала, большасць з якіх прадстаўлялі тых ці іншых экс-кандыдатаў у прэзідэнты, у адзін голас заявілі, што не ведалі пра планы адно аднаго на Плошчы. І ўвогуле, большасць туды ішла без канкрэтнага плану дзеяння — стаяць як Бог на душу паложыць. Некаторыя экс-кандыдаты ў прэзідэнты, як, напрыклад, Віталь Рымашэўскі, загаварылі, што ім усё ж трэба было гнуць сваю лінію паводзінаў, а не кідацца ў агульную плынь падзей.

Але галоўным цвіком абмеркавання падзей 19 снежня стала пытанне ад Дар'і Каткоўскай — яна была ў ліку валанцёраў, што пасля масавых арыштаў людзей збіралі і адвозілі сотні перадачаў для


Грамадская кампанія па збору рэчаў і прадметаў гігіены ва Управе БНФ для перадачы іх затрыманым пасля акцыі апазіцыі 19 снежня 2010 года.

зняволеных. «Ці не сорамна вам, палітыкам, за тое, што вы заклікалі людзей выйсці на Плошчу, а самі нават не мелі ўцямнага плану, што там рабіць?» — спыталася грамадская актывістка.

Некаторыя палітыкі сваю віну публічна прызналі. «Думаю, калі мы кажам, што дапусцілі памылкі, а сёння ўсе пра гэта казалі, то не сорамна сказаць, што нам сорамна за гэтыя памылкі. Мне сорамна, бо я частка апазіцыі і таксама ўплываю на яе рашэнні. Не было адзінага кандыдата, і мая віна ў гэтым ёсць. Мне сорамна, што было дзевяць стратэгій на Плошчы, і мне сорамна, што мы не змаглі арганізаваць элементарныя рэчы — дружыннікаў на Плошчы. Гэтага не было, за што я прашу прабачэння. Думаю, усім не сорамна так сказаць, бо канкрэтна гэты факт прывёў да той трагедыі. І не трэба заломваць рукі, пасыпаць галаву попелам, але ў наступны раз не маем права на такія памылкі, каб потым зноў казаць, што нам сорамна», — агучыў свае выбачэнні Аляксандр Мілінкевіч.

Праўда, Мілінкевіч у часе гэтай жа размовы распавёў і пра сваё ранейшае ідэалістычнае бачанне «Плошчы», якое вельмі здзіўляе, бо Аляксандр Уладзіміравіч не мусіў забыцца на падзеі 2006 года, і ўвогуле, ён выдатна разумее, у якой дзяржаве жыве. «Сцэнар у нечым быў падобны на кіеўскі — мы спадзяваліся, што атрымаецца арганізаваць мірную Плошчу, і на наступны дзень прыйдзе больш людзей. Таму што людзі пачуюць, што не б'юць, не саджаюць. Для нас было прынцыпова захаваць мірны стан Плошчы», — заявіў палітык.

А кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька папярэдзіў, што і надалей ніхто нікому не дасць гарантый, што падобных разгонаў не будзе. А самаахвярнасць? — дык на ёй і трымаецца альтэрнатыўная Беларусь.

Большасць палітыкаў гаварылі, што мэты іх палітычных партый у той ці іншай ступені па выніках прэзідэнцкай кампаніі выкананыя. Рэжым дэлегалізаваны, народ пабачыў яго сутнасць, пазнавальнасць апазіцыйных партый павялічылася. Але як скінуць з шаляў бязвер'е ў тое, што апазіцыя можа нешта вырашыць, татальны страх і вялізную падаўленасць у грамадстве? Хаця можна прыкрывацца словамі, што вінаваты рэжым з дубінкамі наперавес, супраць якога не папрэш.

## Сам сабе прыгожы

У наступным годзе ў Беларусі мусяць адбыцца парламенцкія выбары. Тое, як рыхтуюцца апазіцыйныя палітыкі да гэтай кампаніі, паказвае, што згоды па-ранейшаму няма і кожны «са сваім планам у галаве».

«Кааліцыя шасці» (партыі БНФ, АГП, Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», аргкамітэт партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Рух «За Свабоду» і кампанія «Гавары праўду!») абяцае вызначыцца з фарматам удзелу ў парламенцкіх выбарах не пазней за 20 студзеня. Па словах лідара партыі «Справядлівы свет» Сяргея Калякіна, на маючых адбыцца выбарах апазіцыя мусіць ставіць рэальныя мэты, бо недасяжныя задачы негатыўна ўплываюць на псіхалагічны настрой прыхільнікаў дэмакратычных кандыдатаў. Таксама Калякін паведаміў, што яго партыя да выбараў рыхтуецца маштабна: «Рыхтуем кандыдатаў, людзей у камісіі і г. д. Па поўнай праграме!»

Некаторыя прадстаўнікі палітычных сілаў радыкальна настроеныя на байкот. Але праблема ў тым, што да дыялогу калегі па цэху іх не завуць. «Я думаю, што на сённяшні дзень большасць грамадзян краіны супраць удзелу ў гэтых выбарах, і нам трэба гэта толькі абвесці, каб гэта было не проста галасаванне за нейкіх нязначных кандыдатаў, якія нікому не цікавыя, а байкот Лукашэнку. Байкот палатачных выбараў як байкот Лукашэнку. Пакуль нас на размовы не запрашаюць, бо кажуць «вы ж байкатуны, а мы на выбары ідзем», — гаворыць прадстаўнік кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Віктар Івашкевіч.

Кіраўніку Руху «За свабоду» Аляксандр Мілінкевіч выступае за жорсткі цэнз кандыдатаў ад апазіцыі. Рух не будзе складаць канкурэнцыю палітычным партыям, але возьме актыўны ўдзел у самой кампаніі. «Свае рэсурсы мы выкарыстаем на падтрымку тых, хто падзяляе нашы прынцыповыя погляды. Гэта — дэмакратыя, незалежнасць і еўрапейскі шлях развіцця Беларусі, — гаворыць Мілінкевіч. — Наша мэта, каб у грамадстве было больш праеўрапейскіх, прадэмакратычных настрояў. Каб людзі адчувалі, што ад іх залежыць у тым ліку і ўлада. Каб павялічылася актыўнасць людзей, стала менш страху. І яшчэ важна, каб людзі бачылі, што ёсць альтэрнатыва. Якасць кандыдатаў будзе адыгрываць велізарную ролю. Ёсць такія кандыдаты, якім лепш не хадзіць, бо яны памяншаюць рэйтынг апазіцыі».

Аргкамітэт партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД) мае некалькі варыянтаў — байкот і ўдзел у выбарах. На прапанову сустаршыні БХД Паўла Севярынца (пасля падзей на Плошчы ў снежні 2010 года ён адбывае «хімію» ў Пружанскім раёне) удзел у выбарах магчымы толькі пры выкананні трох умоў: вызваленне палітвязняў; унясенне зменаў у выбарчае заканадаўства, каб выбары прайшлі сапраўды дэмакратычна; допуск назіральнікаў да падліку галасоў. Але шанец на выкананне гэтых умоў блізкі да нуля. Таму ідэйны бацька БХД Павал Севярынец заклікаў партыю рыхтавацца да актыўнага байкоту парламенцкіх выбараў.

Аб'яднаная грамадзянская партыя ўвогуле не мае цікаўнасці да выбарчай кампаніі. Пачынаючы з красавіка партыйцы будуць несці ў шырокія народныя масы «пазітыўную альтэрнатыву — антыкрызісную праграму, праграму «Мільён працоўных месцаў», Малую Канстытуцыю». Па словах Лябедзькі, унутры краіны стаіць задача дабіцца адзінства паміж суб'ектамі кааліцыі па фармату кампаніі, а на міжнародным узроўні мець агульную ацэнку выбараў.

## Тэндэнцыя на пратэст

Гэты год, нягледзячы на разбіты стан апазіцыі, стаў пераломным для грамадскай думкі беларусаў. Эканамічны крызіс спрацаваў на тое, чаго гадамі дамагалася апазіцыя, — рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі (24,5% паводле верасьнёўскага апытання) і давер да ўладаў абваліліся. Сацыёлаг прафесар Андрэй Вардамацкі паведаміў, што сацыялагічныя даследаванні паказалі ў гэтым годзе два зломы грамадскай думкі. Першы — вясною, калі беларусы перасталі думаць, што яны жывуць у квітнеючай краіне, то бок зафіксавалі падзенне свайго ўзроўню жыцця. Другі злом восеньскі — на 3,5% павялічылася колькасць людзей, якія мяркуюць, што іх становішча за гэты час палепшылася, а тых, хто ўжо без трывогі глядзіць у будучыню, — на 4,8%.

Верасьнёўскае апытанне НІСЭПД паказала таксама, што народная незадаволенасць не толькі пачынае распаўсюджвацца на грамадска-палітычную сферу, але і паступова набывае палітычныя формы. Сёння лічаць сябе ў апазіцыі да цяперашняй улады ўжо 28% — са снежня мінулага года рост амаль на 10%.

Паколькі фактычнага паляпшэння эканамічных паказчыкаў напрыканцы года не было, злом негатыўнай ацэнкі можна патлумачыць тым, што пачаў працаваць механізм «негатыўнай адаптацыі», калі людзі прыстасоўваюцца да сітуацыі, зніжаючы свае патрэбы і чаканні. На хвалі затарможанага падзення адлік свайго стану ў сістэме каардынат пачынаецца ад тут і цяпер. Але давер да ўлады страчаны, і як толькі сітуацыя хіснецца ў бок пагаршэння, грамадская думка зноў пачне спаўзаць у мінус.

І на гэтым фоне паказальна тое, што давер да палітычнай апазіцыі з мёртвай кропкі не скрануўся. Сукупны рэйтынг лідараў апазіцыі па-ранейшаму складае не больш за 20%. Пратэстны патэнцыял грамадства пакуль не канцэнтруецца ні на якіх рэальных альтэрнатывах (апазіцыйных структурах, праграмах, лідарах), канстатуюць сацыёлагі.


Арышты людзей пасля малітвы ля Чырвонага касцёла 19 снежня 2011 г.

## 28 снежня, серада



**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.20** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.15** Выпадковыя сувязі.
**10.00** Серыял «Шырокая рака».
**11.00** Меладрама «Закладнікі кахання».
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.35** Казка-мюзікл «Прыгоды Бураціны» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**13.40** Мультфільм.
**13.50** «Толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.40** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.30** Серыял «Шырокая рака».
**17.40** Крымінальная меладрама «Закладнікі кахання» (Расія). Заключная серыя.
**18.45, 01.45** Зона Х.
**19.35** Зямельнае пытанне.
**20.00** Выпадковыя сувязі.
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.55** Дзень спорту.
**21.55** Адмысловы рэпартаж АТН.
**22.10** Навагодні тыдзень.
**23.40** Камедыя «Прафесар у законе» (Украіна).



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.10** «Да смерці прыгожая». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Участковы дэтэктыў».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Да смерці прыгожая». Шматсерыйны фільм.
**22.15** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.25** Фільм «Вялікая амерыканская дзірка 3». 3-я серыя.
**00.30** «След».
**01.15** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Фантамас». Францыя, 1964г.
**10.40** «Прагнасць».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Навальнічныя вароты». Серыял.
**15.35** «Дурні, дарогі, грошы».
**16.50** « Прыгоды дылетанта».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** Фільм «Фантамас усхадзіўся». Францыя-Італія, 1965 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.30** «Дабро пажаліцца».
**23.55** «Навальнічныя вароты». Серыял.
**00.50** «Дурні, дарогі, грошы».



**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Спорт-кадр.
**09.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**10.30** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма (Расія).
**12.30** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.30** Серыял «Гарачы лёд».
**15.35** Мультсерыял «Гара самацветаў».
**16.00** Пазакласная гадзіна.
**16.20** Нянудны глобус.
**16.50** Камедыйны серыял «Зайцаў+1».
**17.25** Жаночая ліга.
**17.55** Серыял «Гарачы лёд».
**18.55** Хакей. Адкрыты чэмпіянат Беларусі. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Беларуская часіна.
**22.45** Камедыйны серыял «Зайцаў+1».
**23.20** Жаночая ліга.
**23.50** Серыял «Маргоша» (Расія).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Маршрут літасці».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Кулагін і партнёры».
**12.00** Тэлесерыял «Громавы».
**12.55** «Прамы эфір».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.35** Навіны - Беларусь.
**14.30** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**15.25** «З новай хатай!». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.45** Тэлесерыял «Сёстры па крыві».
**18.50** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**20.30** Тэлесерыял «Громавы».
**21.35** Прэм'ера. Тэлесерыял «Я цябе нікому не аддам». 2010 г.
**23.35** «Яе лёдавая Вялікасць. Алена Чайкоўская».



**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Дачны адказ».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.25** «Судовы дэтэктыў».
**14.25** «Цэнтр дапамогі «Анастасія».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Шаман».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-2».
**23.15** «Сёння. Вынікі».
**23.40** Прэм'ера. Серыял «Фармат А4».



**10.30** Аўтаспорт. Акадэмія GT. Часопіс.
**10.45, 16.15, 19.00, 02.30** Вось дык так!!!
**11.45** Ралі. Ралі рэйд. Часопіс.
**12.15** Live. Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам-гігант. Лієнц (Аўстрыя). Спроба 1.
**13.15** Ралі. Ралі рэйд. «Курс на Дакар». Часопіс.
**13.45** Live. Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Хуткасны спуск. Трэніроўка.
**15.00** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам-гігант. Лієнц (Аўстрыя). Спроба 1.
**15.30** Live. Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам-гігант. Лієнц (Аўстрыя). Спроба 2.
**17.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 137. Энгельберг (Швейцарыя).
**18.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 137. Энгельберг (Швейцарыя).
**20.00, 21.00** Футбол.
**22.00** Фігурнае катанне. Паказальны выступ. Opera on Ice.
**23.30** Спартовыя бальныя танцы. Чэмпіянат свету па лацінаамерыканскіх танцах. Масква (Расія).
**00.30** Спартовыя бальныя танцы. Масква (Расія).
**01.35** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам-гігант. Лієнц (Аўстрыя). Спроба 2.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Арол», серыял: 22 серыя.
**08.35** Два на два (тэледыскусія).
**08.55** «Мой родны горад», серыял.
**09.20** На колах.
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**11.15** Беларусы ў Польшчы.
**11.30** «Ранча», серыял: 17 серыя.
**12.20** «Арол», серыял: 22 серыя.
**13.15** Два на два (тэледыскусія).
**13.40** «Мой родны горад», серыял: 14 серыя.
**14.05** На колах.
**14.35** Рэпартэр.
**15.00** Асабісты капітал.
**15.15** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.30** Эксперт.
**16.00** Беларусы ў Польшчы.
**16.15** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.30** «Euromaxx» (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.00** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 2 серыя.
**17.30** Невядомая Беларусь: «Мінск. Горад пад чужым сонцам», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Прыстань», дэтэктыўны серыял: 13 серыя.
**18.55** Хто ёсць кім?: «Віктар Скорабагатаў».
**19.10** Асабісты капітал.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Праект «Будучыня».
**20.25** Навігатар.
**20.45** «Апантаныя», дак. цыкл: 4 серыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** «Каралева Бона», тэлесерыял: 8 серыя.
**22.45** Два на два (тэледыскусія).
**23.10** Аб'ектыў.
**23.35** Гарачы каментар.

## 29 снежня, чацвер



**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.20** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.15** Выпадковыя сувязі.
**10.00** Меладраматычны серыял «Шырокая рака» (Расія- Украіна).
**11.05** Крымінальная меладрама «Закладнікі кахання» (Расія). Заключная серыя.
**12.10** Зямельнае пытанне.
**12.35** Казка-мюзікл «Прыгоды Бураціны» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**13.45** Мультфільм.
**13.55** «Здароўе». Ток-шоў.
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.40** Зона камфорту.
**16.05** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.45** Серыял «Шырокая рака».
**17.50** Дак. цыкл «У пошуках ісціны».
**18.45, 01.15** Зона Х.
**19.35** Сфера інтарэсаў.
**20.00** Выпадковыя сувязі.
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.25** Дзень спорту.
**21.55** Адмысловы рэпартаж АТН.
**22.10** Навагодні тыдзень.
**23.40** Калядная меладрама «Раман па перапісцы» (ЗША-Канада).



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.10** «Да смерці прыгожая». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Участковы дэтэктыў».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Да смерці прыгожая». Шматсерыйны фільм.
**22.15** Прэм'ера. «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.25** Фільм «Вялікая амерыканская дзірка 3». 4-я серыя.
**00.30** «След».
**01.15** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Дабро пажаліцца».
**08.50** Фільм «Фантамас усхадзіўся». Францыя-Італія, 1965 г.
**10.40** «Зорныя гісторыі».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Навальнічныя вароты». Серыял.
**15.35** «Дурні, дарогі, грошы».
**16.50** «Пяць гісторый».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** Фільм «Фантамас супраць Скотлэнд-Ярда». Францыя-Італія, 1966г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.35** «Аўтапанарама».
**23.55** «Навальнічныя вароты». Серыял. Заключная серыя.
**00.50** «Дурні, дарогі, грошы».



**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Страсці па культуры.
**09.50** Гаспадар.
**10.40** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма (Расія).
**12.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.20** Серыял «Гарачы лёд».
**15.20** Мультсерыял «Гара самацветаў».
**15.55** Пазакласная гадзіна.
**16.15** Нянудны глобус.
**16.45** Камедыйны серыял «Зайцаў+1».
**17.20** Жаночая ліга.
**17.55** Серыял «Гарачы лёд».
**18.55** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма (Расія).
**20.30** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.05** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.40** Камедыйны серыял «Зайцаў+1».
**23.15** Жаночая ліга.
**23.45** Серыял «Маргоша» (Расія).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Маршрут літасці».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Кулагін і партнёры».
**12.00** Тэлесерыял «Громавы».
**12.55** «Прамы эфір».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**15.25** «З новай хатай!». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.45** Тэлесерыял «Сёстры па крыві».
**18.50** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** Тэлесерыял «Громавы».
**21.35** Прэм'ера. Тэлесерыял «Я цябе нікому не аддам». 2010 г.
**23.35** «Мая цудоўная лэдзі. Тацціяна Шмыга».
**00.35** Навіны - Беларусь.



**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Таямнічая Расія».
**09.30** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі…».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.25** «Судовы дэтэктыў».
**14.25** «Цэнтр дапамогі «Анастасія».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Шаман».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-2».
**23.15** «Сёння. Вынікі».
**23.40** Прэм'ера. Серыял «Фармат А4».



**10.30, 03.00** Ралі. Ралі рэйд. «Маршрут Дакара». Часопіс.
**11.00** Вось дык так!!!
**11.45** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам-гігант. Лієнц (Аўстрыя). Спроба 2.
**12.15** Live. Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам. Лієнц (Аўстрыя). Спроба 1.
**13.15** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Хуткасны спуск. Трэніроўка.
**13.45** Live. Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Хуткасны спуск.
**15.15** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам. Лієнц (Аўстрыя). Спроба 2.
**16.15** Live. Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Жанчыны. Оберхоф (Германія).
**16.45** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Хуткасны спуск.
**17.15** Live. Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Мужчыны. Оберхоф (Германія).
**18.15** Live. Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Турнэ 4-х трамплінаў. Кваліфікацыя. HS 137. Оберсдорф (Германія).
**20.00** Live. Біятлон. «Калядная гонка». Гельзенкірхен (Германія).
**22.00** Баявыя мастацтвы. Байцоўскі клуб. Турнір The Battle.
**23.30** Вось дык так!!!
**00.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Турнэ 4-х трамплінаў. Кваліфікацыя. HS 137. Оберсдорф (Германія).
**01.00** Покер. Лондан (Вялікабрытанія).
**02.00** Спартовыя бальныя танцы. Сусветны турнір па лацінаамерыканскіх танцах. Інсбрук (Аўстрыя).



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Каралева Бона», тэлесерыял.
**08.30** «Прыстань», дэтэктыўны серыял.
**09.15** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 2 серыя.
**09.50** Праект «Будучыня».
**10.15** Навігатар.
**10.30** Хто ёсць кім?: «Віктар Скорабагатаў».
**10.50** Два на два (тэледыскусія).
**11.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.35** «Апантаныя», дак. цыкл: 4 серыя.
**11.45** Невядомая Беларусь: «Мінск. Горад пад чужым сонцам», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**12.15** «Каралева Бона», тэлесерыял.
**13.10** «Прыстань», дэтэктыўны серыял.
**14.00** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 2 серыя.
**14.25** Праект «Будучыня».
**14.55** Навігатар.
**15.15** Хто ёсць кім?: «Віктар Скорабагатаў».
**15.30** Два на два (тэледыскусія).
**15.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.15** «Апантаныя», дак. цыкл: 4 серыя.
**16.30** Невядомая Беларусь: «Мінск. Горад пад чужым сонцам», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**17.00** «Зорны пірат», тэлесерыял: 6 серыя.
**17.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**17.30** Басанож па свеце.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Леанід Злотнікаў: Свая парадыгма».
**18.20** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.40** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 7 серыя.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** «Euromaxx» (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Эксперт.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.50** Незвычайнае жыццё звычайных людзей: «Мітумба: шляхам сэканд-хэнду», дак. фільм, 2005 г., Італія–Германія.
**22.45** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял, 2011 г., Польшча: 1 серыя.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** Гарачы каментар.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №12 (64) (снежань)

www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс



**ФОРУМ**

**Паважаныя сябры! Як паведамляла раней наша газета, 10 снежня ў Палацы Мастацтваў у Мінску прайшоў чарговы XVI справаздачна-выбарчы З'езд ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». З 416 членаў старэйшай творчай арганізацыі Беларусі на Форуме прысутнічалі 219 літаратараў, а таксама ганаровыя госці і журналісты.**

**У гэтым нумары змешчаны прынятыя пісьменніцкім Форумам дакументы, а таксама вітальныя словы (стар. 10 (2)) і найбольш цікавыя выступленні (стар. 12 (4)).**



Фота А.Казловай

## РЭЗАЛЮЦЫЯ XVI З'ЕЗДА ГА «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»

Мы, удзельнікі XVI З'езда ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» адзначаем, што Рэспубліка Беларусь перажывае сёння ці не самы цяжкі, драматычны этап свайго гістарычнага шляху. Вырашаецца лёс нацыі, беларускай мовы, нашай гісторыка-культурнай спадчыны. У гэтых умовах, нягледзячы на пастаянны ціск з боку ўладных структураў, пагрозу ліквідацыі нашага творчага аб'яднання, Саюз беларускіх пісьменнікаў застаецца адной з самых аўтарытэтных і дзеяздольных творчых арганізацый краіны, усю сваю дзейнасць скіроўвае на развіццё і прапаганду набыткаў нацыянальных літаратуры і культуры, пашырэнне сферы ўжывання беларускага слова, захаванне канстытуцыйных правоў літаратараў на свабоду слова і друку.

Выказваем глыбокую занепакоенасць сітуацыяй, якая склалася ў краіне з беларускай мовай. Нягледзячы на афіцыйна абвешчанае двухмоўе, мова тытульнай нацыі дыскрымінуецца на ўсіх узроўнях. Колькасць беларускамоўных школ і класаў кожны год скарачаецца, па-ранейшаму ў Беларусі няма ніводнае ВНУ, дзе ўсе прадметы выкладаліся б па-беларуску. Справаводства ў дзяржаўных установах па-беларуску практычна не вядзецца, чыноўнікі адкрыта грэбуюць роднай мовай. На дзяржаўным тэлебачанні па-беларуску вядуцца толькі асобныя перадачы, а на асабліва папулярных цяпер FM-радыёстанцыях беларуская мова амаль не гучыць. І гэта нягледзячы на тое, што паводле перапісу 2009 года 84 % жыхароў краіны назвалі сябе беларусамі. Дэлегаты З'езда СБП настойліва патрабуюць ад кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь практычнага забеспячэння дзяржаўнага статуса беларускай мовы.

Асуджаем скарачэнне колькасці беларускамоўных выданняў. За апошнія дзесяць гадоў перасталі выходзіць часопісы «Крыніца», «Беларусь», «Першацвет», газеты «Чырвоная змена», «Раніца», пад пагрозай знікнення знаходзяцца часопісы «Бярозка» і «Вожык». На дзяржаўным тэлебачанні практычна зніклі перадачы, прысвечаныя літаратуры і творцам. У дзяржаўных выдавецтвах і СМІ практыкуецца непаважнае стаўленне да выдатных нацыянальных творцаў, пісьменнікаў-юбіляраў, існуюць забароны на публікацыю твораў і нават узгадванне імёнаў членаў ГА «СБП» — такім чынам груба парушаюцца іх грамадзянскія правы.

Падкрэсліваем неабходнасць шырокай дзяржаўнай падтрымкі літаратараў і дзеячаў беларускай культуры замежжа: Польшчы, Літвы, Расіі, Украіны... На наш погляд, даўно наспела неабходнасць стварэння ў гэтых і іншых краінах Інстытутаў Беларусі, якія сталі б цэнтрамі нацыянальнай ідэнтычнасці, асяродкамі падтрымкі нашых суайчыннікаў у іх імкненні захаваць духоўную повязь з Бацькаўшчынай.

Запэўніваем беларускае грамадства, што Саюз беларускіх пісьменнікаў і надалей не саступіць з абранага яго сябрамі шляху на дэмакратычныя пераўтварэнні ў дзяржаве, будзе паслядоўна адстойваць і абараняць нацыянальную культуру і мову. Мы заклікаем дэмакратычныя сілы краіны дзейнічаць згуртавана і самааддана дзеля лепшай будучыні нашай Радзімы, захавання яе дзяржаўнага суверэнітэту.

## ЗАЯВА XVI З'езда ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»

Рэспубліка Беларусь знаходзіцца ў стане духоўнага крызісу, звязанага з вынішчэннем мовы беларускай нацыі. Апошні перапіс насельніцтва краіны засведчыў істотнае скарачэнне прыхільнікаў беларускай мовы. За дзесяць гадоў колькасць тых, хто лічыць яе роднай, скарацілася на 20,5 % і склала 53,2 % усіх грамадзян Беларусі.

Гэта вынік ігнаравання канстытуцыйных нормаў аб дзяржаўнасці нашай мовы і яе шматгадовага выцяснення з афіцыйнага і грамадскага жыцця. Гэта вынік паўторнай постсавецкай русіфікацыі Беларусі і грэблівага стаўлення кіраўніцтва дзяржавы да нацыянальнай культуры і яе найважнейшага складніка — мовы.

Стагоддзямі найлепшыя сыны і дочкі Беларусі захоўвалі сваю мову, распрацоўвалі і ўзбагачалі яе слоўнікавае і выяўленчае багацце, зберагалі ў віхурах імперскай і палітычнай залежнасці ад знішчэння, з'ядноўвалі з ёй свае творчыя лёсы, чым праславілі і праслаўляюць Беларусь.

Сёння ж беларуская мова зноў на мяжы выжывання. Беларусь — адзіная не толькі ў Еўропе, але і ў свеце краіна, якая не забяспечвае поўнага цыклу адукацыі на сваёй мове — пачынаючы ад дзіцячых садкоў і заканчваючы вышэйшымі навучальнымі установамі. Ні ў Еўропе, ні ў Азіі, ні ў Афрыцы няма падобных ганебных прыкладаў адмаўлення ад сваёй «адзежы душы», як назваў родную мову класік беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч. Якраз агульнасусветны досвед яскрава сведчыць: мова краіны — адзін з наймагутнейшых фактараў жыццядзейнасці краіны і дзяржаўнай незалежнасці, без якой, у сваю чаргу, немагчымая ні палітычная, ні эканамічная суверэннасць.

Адмаўляючыся ад сваёй мовы, беларусы страчваюць не толькі сваю нацыянальную самабытнасць і культурную адметнасць, але і будучыню сваёй нацыі, дзяржавы.

Удзельнікі XVI З'езда ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» звяртаюць увагу на недапушчальны і катастрафічны стан беларускай мовы ў нашай краіне і заклікаюць усіх грамадзян паўстаць на яе абарону.

Далучаючыся да іншых грамадскіх ініцыятыў па выратаванні і ўшанаванні мовы тытульнай нацыі Беларусі, удзельнікі XVI З'езда ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» патрабуюць неадкладна распрацаваць дзяржаўную праграму ўсебаковага развіцця беларускай мовы.

## ЗАЯВА XVI З'езда ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»

Мы, удзельнікі XVI З'езда ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», патрабуем неадкладнага вызвалення з-за кратаў сяброў нашага Саюза Паўла Севярынца і Алеся Бяляцкага, прававой рэабілітацыі раней асуджаных пісьменнікаў Уладзіміра Някляева і Аляксандра Фядуты, вызвалення ўсіх палітвязняў;

- патрабуем ад дзейных уладаў выканання іх непасрэдных абавязкаў у справе захавання беларускай культуры і мовы;
- выказваем рашучы пратэст сучаснаму кіраўніцтву краіны ў сувязі з яго дзеяннямі, якія ставяць пад пагрозу незалежнасць Беларускай дзяржавы, патрабуем спыніць гандаль агульнанароднай уласнасцю, матэрыяльнымі і духоўнымі здабыткамі многіх пакаленняў беларусаў;
- патрабуем неадкладна прыняць мараторый на выкананне смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь.

## ЗАЯВА XVI З'езда ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»

Васіль Быкаў — найвыбітны беларускі пісьменнік XX-га стагоддзя. Прайшло ўжо больш за восем гадоў з дня смерці Васіля Уладзіміравіча, а памяць аб ім належным чынам не ўшанаваная ў Беларусі, у якой ён нарадзіўся і якой прынёс сусветную славу.

Звяртаемся да Савета міністраў Рэспублікі Беларусь, да міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і персанальна да міністра П. П. Латушкі з прапановай аб наданні Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь імя народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

**Прынятыя на XVI З'ездзе ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Мінск, 10 снежня 2011 г.**

▸ ВІТАННІ

## «СЯБРЫ, ЦУДОЎНЫ НАШ САЮЗ!» —

мяноўна наш пісьменніцкі саюз меў на ўвазе Пушкін.

У шалёным моры русіфікацыі і дэнацыяналізацыі мы застаемся як не апошняй выспай, дзе жыве беларускі дух, беларускае слова.

На чатырох кітах трымаецца нашая непарушнасць — Янка Купала, Якуб Колас, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч.

Што мы будзем жыць і гучаць у свеце, зарукай нашая моладзь. Яна ў нас таленавітая!

Хай З'езд пройдзе ў атмасферы даверу, узаемапавагі і ўзаемаразумення.

Галоўнае — клопат пра будучыню, пра беларускае слова!

**Рыгор Барадулін**



### «Еўрапейская Пісьменніцкая Рада (EWC) Саюзу беларускіх пісьменнікаў

Шаноўныя сябры,

для нас гонар бачыць Саюз беларускіх пісьменнікаў сярод сяброў Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады.

Літаратары і пісьменнікі маюць справу з адным з самых небяспечных рэчываў у свеце — са словамі. Але гэта адзнака цывілізаванага грамадства, што ўсім нам — не толькі пісьменнікам, і не толькі не-пісьменнікам — дазволена выкарыстоўваць словы, каб выказаць свае ідэі, памкненні і крытыку, якія змаглі б зрабіць свет лепшым і больш справядлівым месцам. Адмовіць пісьменнікам у гэтым праве — значыць пазбавіць грамадства найбагацейшага і найбольш канструктыўнага сродка дыскусіі.

Час і зноў жа адмаўленне права на свабоду слова прывялі ў выніку да выкарыстання нашмат больш небяспечных рэчываў, чым словы, рэчываў, што больш разбураюць, чым ствараюць, што больш напаўняюць страхам, чым надзеяй. І калі права на свабоду слова было аднойчы замацавана, хоць яго і належыць пільна ахоўваць, усё тое сведчыць: яно вартае таго на ўсе часы.




Многім з нас удаецца трымацца свайго права на свабоду слова ўжо доўгі час, мы разумеем і вітаем адвагу беларускіх пісьменнікаў і ў іх справе!

**Савет Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады: Нік Яп (Вялікабрытанія), сябра Савета; Доктар Пір'ё Хіідэнмаа (Фінляндыя), Старшыня Савета; Ана Дуэнэбіер (Германія), віцэ-прэзідэнт; Сільвестр Кланшэр (Францыя), віцэ-прэзідэнт; Торб'ёрн Остром (Швецыя); Іштван Турчы (Венгрыя); Хану Нікландэр (Фінляндыя)».**

**Брусэль, 10 снежня 2011 г.**

### «Саюзу беларускіх пісьменнікаў

Дарагія калегі! У думках мы заўжды з вамі і жадаем, каб ваш З'езд 10 снежня прайшоў паспяхова. Шчыра спадзяемся, што вы зможаце правесці яго, як планавалася.

Спадзяемся на далейшае супрацоўніцтва і сяброўства.

Зычым поспеху!

**Балтыйская Пісьменніцкая Рада.**
**Яніна Арлоў, старшыня»**
**9.12.2011**

### «Саюзу беларускіх пісьменнікаў з нагоды З'езда

Шаноўныя сябры і калегі!

Ад імя Саюза шведскіх пісьменнікаў я хачу звярнуцца з вітальным словам да сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Як старшыня Саюза шведскіх пісьменнікаў я хацеў бы даць высокую ацэнку паспяховай працы Саюза беларускіх пісьменнікаў і выказаць сваю ўдзячнасць за супрацоўніцтва паміж абодвума нашымі саюзамі, якое пачалося яшчэ некалькі гадоў таму.

Як у еўрапейскіх пісьменнікаў, у нас шмат агульных зацікаўленасцяў, праблемаў і пытанняў, якія варта вырашаць. Адна з нашых асноўных місіяў — гэта абарона і падтрымка свабоды слова — свабоды слова, якая ў поўным сэнсе гэтага выразу азначае не толькі свабоду прамаўляць свае думкі, але таксама свабоду прамаўляць на той мове, якая падаецца нам найбольш натуральнай.

Я хачу выказаць сваю вельмі моцную занепакоенасць пераследам, які адчулі на сабе Саюз беларускіх пісьменнікаў і яго сябры з боку ўладаў і фактам, што тры сябры вашай арганізацыі — Алесь Бяляцкі, Павел Севярынец і Уладзімір Някляеў — цяпер знаходзяцца ў турме ці пад хатнім арыштам. Еўрапейская пісьменніцкая грамада з пільнай увагай і заклапочанасцю сочыць за лёсам гэтых пісьменнікаў.

Я зычу вам плённага правядзення З'езда і поспеху ў вашай важнай справе.

Будзем спадзявацца, што ў будучым усе беларускія пісьменнікі змогуць выказвацца вольна і без аніякага страху.

**З павагай,**
**Матс Сёдэрлунд,**
**Старшыня Саюза шведскіх пісьменнікаў».**
**10 снежня 2011 г.**

# ПРАМОВА НА XVI З'ЕЗДЗЕ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ



Паважаныя дэлегаты, дарагія калегі і сябры!

Над нашай роднай мовай, як ніколі раней злавесна, навісла смяротная пагроза.

Падкрэсліваю: як ніколі раней злавесна. Дарэшты агалілася стратэгічная мэта аб'яднаных антыбеларускіх сіл — задушыць канчаткова нашу мову, пазбавіць наш народ нацыянальнай самасвядомасці, гістарычнай памяці, умярцвіць у ім даастатку нацыянальны дух і цалкам асіміляваць. На ажыццяўленне гэтай нялюдскай, гэтай подлай мэты мабілізаваны ўсе такія ж нялюдскія спосабы і сродкі, а менавіта: поўнае ігнараванне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, паводле якой беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай, поўнае выгнанне беларускай мовы з дзяржаўных устаноў і з арміі, поўнае выгнанне беларускай мовы з дзіцячых садкоў, дзе пачынаецца фарміраванне чалавека, грамадзяніна, патрыёта, масавая ліквідацыя беларускіх школ і беларускіх класаў, звядзенне да ганебнага мізэру колькасці беларускамоўных перадач у тэлепраграмах, закрыццё беларускіх газет і часопісаў і многае іншае. Процістаяць гэтаму франтальнаму дзікунскаму наступу ворагаў беларушчыны на мову нацыі, на душу народа — свяшчэнны абавязак пісьменнікаў. Не толькі пісьменнікаў, а і ўсёй інтэлігенцыі Беларусі, але пісьменнікам адводзіцца ў гэтым процістаянні асобная роля: так распарадзілася гісторыя.

Наш Саюз заўсёды быў галоўным, вядучым сярод іншых творчых саюзаў краіны. Таму я заклікаю вас і ў творчасці і ў грамадскай чыннасці пастаянна помніць пра гэты наш найпершы клопат. Калі мы не ўратуем мову — страціць сэнс існаванне самой нашай прафесіі, самога пісьменніцкага прызвання, якое палягае ў працы са словам, і літаратура як жыватворная сіла нацыі перастане існаваць, а значыць — народ страціць сваю самую надзейную духоўна-маральную апору. Што ж у выніку? Вядома, што. Нашы нашчадкі, якія ўжо не будуць беларускім народам, адно горка ўсміхнуцца, зразумеўшы, як бяздарна мы на пачатку XXI стагоддзя распарадзіліся сваім і іхнім лёсам.

Моцна веру, што гэтага не здарыцца, і ўнукі-праўнукі нашы ў памяць сваіх дзядоў-прадзедаў удзячна скажуць: «Гонар і слава! Вытрымалі, не зламаліся, перамаглі! Гонар і слава!» Як кажам сёння гэта самае мы ў памяць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, у памяць Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Янкі Брыля, Івана Мележа, Ларысы Геніюш, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, і многіх-многіх іншых, — у памяць тых, хто стварыў вялікую беларускую літаратуру, на ніве якой мы пакліканы боскаю воляй працаваць. Мы ведаем чалавечыя і творчыя лёсы нашых слаўных папярэднікаў, некаторых ведалі асабіста.

Успомнім, з якім пачуццём адказнасці за ўзяты на сябе абавязак яны жылі і працавалі.

Хіба ім было лёгка? Знявечанаму ў засценках ГПУ Кузьму Чорнаму было лёгка? Катаржанцы ГУЛАГу Ларысе Геніюш было лёгка? Ці, можа, было лёгка Васілю Быкаву? Ці Уладзіміру Караткевічу? Але яны з годнасцю прайшлі праз усе выпрабаванні, праз усе пакуты.

І не дай Бог таленавітаму пісьменніку пакваліца на чын прыдворнага пісакі або спакусіцца роляй літаратурнага блазна і скамароха! Зрэшты, з сапраўдным талентам такое здараецца рэдка.

Дзякую за ўвагу.

**Ніл Гілевіч**

### «Згуртаванне беларусаў Канады шчыра вітае XVI З'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў!

Дарагія сябры, мы ведаем, як цяжка сёння прабіваецца беларускае слова да чытача, як нялёгка творцам выконваць сваю спрадвечную задачу — абуджаць святло ў душах і любоў да Бацькаўшчыны.

Мы выказваем вам сваю падтрымку і глыбокую пашану. Мы ведаем, што разам мы адбудуем паслядыктатарскую вольную і магутную Беларусь.

Жыве Беларусь! Жыве беларуская літаратура!

**Удзельнікі 43 З'езда Згуртавання Беларусаў Канады і, у прыватнасці, Вольга Іпатава»**




Фота А. Стрэчнан

Прэзідыум З'езда: Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Лявон Баршчэўскі

ФРАГМЕНТЫ

# ТУРМА

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

*1*
*Цяпер, калі ты не са мной,*
*Не на плячы маім, не побач,*
*З турмой я засынаю ў поўнач*
*І прачынаюся з турмой.*

*З турмы ў турму пішу лісты:*
*«Каханая мая! Святая!..».*
*І што не прачытала ты —*
*Турма ўначы са мной чытае.*

*Збірае ўсе да аднаго*
*Мае маленні, таямніцы,*
*І тое сніць са мной, чаго*
*Табе ніколі не прысніцца.*

*Я цалаваўся з ёю ў сне,*
*Яна ў маіх абдымках спала!*
*«Ты закахаешся ў мяне!» —*
*Турма мне горача шаптала.*

*І не было такога сна,*
*Каб у якой нары ваўчынай*
*Табой не снілася яна*
*І не была маёй жанчынай.*

*У пошуках уцех начных*
*Яна мяне ва ўсіх эпохах*
*Цягала тайна па сваіх*
*Скляпеннях,*
*сутарэннях,*
*лёхах.*

*І ўсё, што бачылі яны,*
*І ўсё, што чулі сярод ночы,*
*Турма ў мае ўплятала сны,*
*Якімі засціла мне вочы.*

*І голасам тваім турма,*
*Душу мне змучыўшы да болю,*
*Шаптала, што пішу дарма*
*Лісты*
*з няволі*
*у няволю.*
*<…>*

*4*
*Мне ад Турмы ў турме нідзе*
*Няма ні сховы, ні збавення,*
*Паўсюль знаходзіць — і вядзе*
*У склепы,*
*лёхі,*
*сутарэнні.*

*У сутарэннях — цэлы свет:*
*Героі... здраднікі... сексоты...*
*Яны мяне пыталі: «Хто ты?».*
*Турма адказвала: «Паэт».*

*«Сексот ён,*
*здраднік,*
*ці герой? —*
*Пыталі здані. — Наш ён? Твой?..*
*А што паэт, дык нам не дзіва!»*
*Турма казала: «Ён са мной», —*
*І здані ўкленчвалі пачціва.*

*«Ты маніш!» — я крычаў. «Маню? —*
*Турма пытала. — Не мяне ты*
*Хіба кахаеш?.. Ах, паэты!..» —*
*Яна ўздыхала, і шкілеты*
*Ківалі, доўжылі гульню.*

*Іх тысячы, мільёны іх*
*У павуцінні, пыле, цвілі,*
*І ў іх патыліцах — ва ўсіх! —*
*Чарнелі дзіры.*
*Іх забілі.*

*«За што, Турма?..»*
*«Ты не ў мяне*
*Пытайся, а ў суддзі ці ў ката...»*
*І здані ўсе крычалі: «Не!*
*Турма ні ў чым не вінавата!»*

*Яны сцялілі нам кілім,*
*На ім, не знаючы спатолі,*
*Кахаўся я з Турмой і Воляй,*
*І ўжо не помніў:*
*дзе я?.. з кім?*

*І ўсё было мне шалу мала,*
*І ў шале тым у міг любві*
*Турма ці Воля прашаптала:*
*«Адна з нас лішняя. Забі!». <…>*

*8*
*Ах, Воля, Воля! Яска, Яска!*
*У снах маіх струменіць ласка*
*Твая — між пальцамі ручай...*
*Прачнуся:*
*Ноч.*
*Турма.*
*Адчай.*

*І чую: «Ты не прыручай*
*Турму — яна цябе прыручыць!*
*Спачатку прадаваць навучыць,*
*А потым забіваць!..»*
*Не ты*
*Казала гэта, з пустаты*
*Быў голас, з дальніх сутарэнняў,*
*Дзе я блукаў між здапяў, ценяў,*
*Ужо прыручаны Турмой,*
*Якая здапям: «Ён са мной», —*
*Кідала, і яны кілім*
*Сцялілі мне,*
*Турме і Волі...*

*«З Турмой ты можаш быць нікім,*
*Ты з ёй... ты ў ёй... таго даволі, —*
*Той голас доўжыў. — Век ад веку*
*Турма найперш у чалавеку*
*Ламае не хрыбет, а дух».*

*Я адчуваў: цяпер мы ўдвух...*

*«Так, — ён казаў, — я ў той праклятай*
*Каменнай камеры дзявятай*
*На верхніх нарах, як і ты*
*Гібеў... Я рваўся з немаоты*
*З той моваю, што даў нам Бог,*
*Што не жыве ў нас, а начуе,*
*І я не вырваўся, не змог!*
*Ты зможаш, калі Бог пачуе,*
*Як знойдзеш,*
*што сказаць Яму...»*

*9*
*Тайком, на вуха, аднаму*
*Я ўсё сказаў Яму... Ці мала,*
*Раз голас той, бы ў сэрцы джала,*
*Не вырваць — што з ім ні рабі?*
*Раз Воля ці Турма сказала:*
*«Адна з нас лішняя. Забі!».*

*Каго?..*
*Ні мне, ні ветру ў полі*
*Няведама —*
*не знаем мы:*
*Навошта нам турма без волі?*
*Навошта воля без турмы?*

*Бо ёсць адно — як ёсць другое,*
*Як дым з агнём,*
*агонь з вадою,*
*Які шалее без вады,*
*Як толькі тое дарагое,*
*Што страчанае назаўжды.*

*Як тая ноч... той ранак... дотык...*
*Як Бога шэпт на вуха ўпотай...*

*Як голас, у якога: «Хто ты?» —*
*Пытаюся, а мне ў адказ*
*Ручай між пальцамі — і праз*
*Глухія сцены чую глуха*
*Не шэпты Бога мне на вуха,*
*А стогны з дальніх, цёмных лёхаў,*
*З усіх вякоў, з усіх эпохаў,*
*І плач, і енк, і крык нямы*
*З абдымкаў волі і турмы!*

*10*
*Турма ў турме — і воля ў ёй.*
*Усе за кратамі ў краіне,*
*Дзе дух крывіцкі нема гіне,*
*Разняты з моваю сваёй.*

*Ён тут. Загнаны ў самы дальні*
*І цесны лёх, у змрочны кут,*
*Ён тут са мной у катавальні,*
*Са мной на допытах ён тут.*



*І калі кат мяне катуе,*
*І боль дратуе нажавы,*
*Крывіцкі дух мяне ратуе,*
*Хоць сам ад болю ледзь жывы.*

*Як ён Турме не даспадобы!*
*Яна каля яго заўжды*
*У чорным, нібы ў дзень жалобы,*
*Бурносе, нібы ў халады.*

*Змушае жыць каля парашы*
*На крапіве і лебядзе,*
*Не дакладзе паўміскі кашы,*
*На лусту хлеба абкрадзе.*

*Найлютаму аддасць канвою,*
*Каб той зламаў,*
*скруціў у рог!..*

*Ён дух... ён вольны... ён з Турмою,*
*Са мною б развітацца мог.*

*Але ў падменным і падманным,*
*Кайданным і закратаваным*
*Турэмным свеце, у лайне*
*Мой дух з хрыбтом пераламаным*
*Не пакідае ўсё ж мяне!*

*Ён сам абраў такую долю:*
*Цягнуць мяне з ярма, з дзярма, —*
*І ненавідзіць больш, чым Волю,*
*Яго*
*раўнівая Турма. <…>*

*14*
*О, Божа! Толькі аднаму*
*Табе*
*магу сказаць такое!*
*Народу — нельга! Ён — святое!*
*Яго нічым не зачапі!..*

*— Як хочаш піць — бяры і пі,*
*Іначай смагу не спатоліш, —*
*Той голас доўжыў. — Так і з воляй!*
*Як хочаш волі, дык бяры*
*Яе абеcруч! І памры,*
*Але трымай яе аберуч!*
*Хай рыкае драпежным зверам,*
*Рве жылы, пырскае крывёй —*
*Пі кроў яе! Яна тваёй*
*Крывёю стане! І ніколі*
*Ты ўжо не зможаш*
*жыць без волі!..*

*15*
*І піў, не знаючы спатолі,*
*Я кроў тваю! Кіпела ў ёй*
*Каханне, пырскала крывёй,*
*Сцякала па грудзях, якія*
*Я цалаваў, і па клубах,*
*Якія абдымаў, і ў пах*
*Струменіла з клубоў, і тыя,*
*Акругла-пругкія, літыя,*
*Як рыбы, то ныраць давалі*
*Да дна жыцця, то, як дзве хвалі,*
*У вышыню ўздымалі, дзе*
*Няспраўджанае ў чарадзе*
*Чакае спраўджання, дзе вечны*
*Шлях семені, што ў небе Млечны,*
*А ў нетрах вулканічны шлях:*
*Шлях лавы, магмы, плазмы…*
*«Ах!..» —*
*Ва ўлонне!.. і глыбей!.. і болей!..*
*Каб Воля нарадзіла Волю!..*
*З крыві і болю!.. тут!.. пры мне!.. <…>*

*20*
*«Ты будзь маім, маім, маім,*
*Са мной, адзінаю, адзіным...» —*
*Шыпела голасам змяіным*
*Турма...*
*Дык не яна на дзідзе*
*Круцілася?!.*
*«Хай Воля прыйдзе!» —*
*Крыкнуў я…*
*І ўсю ноч Турма*
*Шаптала мне: «Яе няма...*
*Яе ніколі ўжо не будзе,*
*Бо ты прабіў ёй дзідай грудзі*
*І вырваў сэрца, выпіў кроў...*
*Цяпер ты вольны... Рык звяроў,*
*Крык птушак гэткі самы вольны,*
*Як ты, як дух твой неспатольны,*
*Што прагне волі зноў і зноў...».*

*21*
*«Праз волю я згубіў любоў?*
*Праз волю загубіў паэта?..»*

*«І не шкадуй, згубіўшы гэта*
*І ўсё, што згубіш, — доўжыў дух. —*
*Ніякіх страт, ніякіх скрух*
*Не бойся! Бо нічога болей,*
*Чым кроў, пралітая за волю,*
*Няма чысцей,*
*няма святой.*
*І кроў старых, і кроў дзяцей,*
*І кроў каханых волі варта!..»*
*<…>*

*24*
*Нябесны Ойча! Той праклён*
*На ўсе вякі? Такі наш кон:*
*Згубіць свае і жыць з чужога?..*
*Такі наш лёс*
*па волі Бога?*

*Дом,*
*што не воляю сваёй*
*Пастаўлены,*
*стае турмой!*

*Турма — не сцены.*
*Для турмы*
*Не камяні сабраны. Мы.*

*Мы — краты і ключы астрога.*

*Без волі Бога быць нічога*
*Не можа! Волас не ўпадзе*
*Без волі Бога!..*

*На Судзе*
*Ахвяры злічаць, згубы, страты,*
*Спытаюць: «Хто ў тым вінаваты?..».*
*Ніхто, ніхто! Турма і каты*
*Не вінаваты!*
*Доля… Крыж...*

*Турмой і Воляю*
*паміж*
*Ударыў я! Паміж вякамі,*
*Што выцiскалі волю з нас,*
*З якіх крывёю ліўся час*
*І глінай застываў, пяскамі,*
*Ставаў балотамі, а намі —*
*Ніяк, ніяк, ніяк, ніяк!..*

*І з прорвы часу быў мне знак:*
*Вякі рассунуліся, як*
*У парадзіхі дол — і ў доле*
*Я ўбачыў немаўлятка:*
*Волю!*
*<…>*

*25*
*Сцяна між намі межавая —*
*Турэмная сцяна. Ах, Яска!*
*Даруй, даруй мне, калі ласка,*
*Сцяну! Вы, камяні ў сцяне,*
*Даруйце мне, даруйце мне!*

*Вы ў садзе камянёў маглі*
*Ляжаць — ды воля на зямлі*
*Альбо свая, альбо чужая!..*
*Яна ў вязніцы выжывае*
*У гэтым краі страт і скрух,*
*Але расце, але мужае,*
*І разам з ёй мужае дух,*
*Якому толькі воля трэба —*
*Нічога болей!..*

*Гэты дым,*
*Які чапляецца за неба*
*І растае высока ў ім…*

**25–31. 12. 2010, унутраная турма КДБ**

**Цалкам паэму можна прачытаць у снежаньскім «Дзеяслове»**

ТРЫБУНА

# СЛОВА ПРЫ АДКРЫЦЦІ XVI З’ЕЗДА СБП

Генадзь БУРАЎКІН


Фота www.budzma.org

Дарагія сябры!

Шаноўныя госці!

Я, вядома, не буду арыгінальным, калі скажу, што наш З’езд сабраўся ў складаны і трывожны час. Сапраўды: па роднай краіне распаўзаецца фінансава-эканамічны крызіс, брутальна звужаецца поле дзейнасці дэмакратычных сіл, у грамадстве праз шэры асфальт абыякавасці квола прабіваюцца парасткі зняверанасці і адчаю, вусцішна робіцца ад каркання змрочных замежных пракокаў і загадкавых айчынных палітычных варажбітоў.

Мы — сыны і дочкі гэтай зямлі, і нашы сэрцы таксама баляць за яе будучыню, за ўсе раны і памылкі ўчарашняга і сённяшняга дня. У няпростых умовах дзяржаўнага станаўлення, у штодзённых клопатах пра дзяцей і ўнукаў таму-сяму (асабліва чамусьці ў высокіх эшалонах улады) не да літаратуры. Яны вельмі лёгка і проста могуць без яе абысціся (і, дарэчы, многія гады абыходзяцца). А вось мы абысціся без яе не можам, бо яна — наша пакліканне, наш лёс, справа жыцця, наша самае галоўнае апраўданне перад Усявышнім за свой прыход у гэты свет. Таму мы так востра, нават хваравіта адчуваем трагічныя наступствы масавай страты цікавасці да кніг, зніжэння маральнай «планкі» ў службовых і асабістых узаемадачыненнях, глухаты моладзі да мастацкага слова.

Паўвека таму назад выдатны паэт Аляксандр Твардоўскі сказаў: «Зносіны з кнігай — вышэйшая і незаменная форма інтэлектуальнага развіцця чалавека». Гэта была формула, прадыктаваная сталым вопытам глыбокай, мудрай асобы, выведзеная з нядрэмнага роздуму над шляхамі развіцця зямной цывілізацыі, пацверджаная шматстайнай і часам горкай гісторыяй многіх краін і народаў. Так, тэхнічны прагрэс апошнім часам даў надзвычайныя, унікальныя магчымасці хуткага задавальнення людской цікаўнасці, імкнення да адчування сваёй далучанасці да самых модных і яркіх навінак сучаснай культуры. Кіно, тэлебачанне, а цяпер і інтэрнет, акрамя ўсяго іншага, укралі дарагі час у чытання кніг. І ад гэтага факта нікуды не падзенешся. Але хіба могуць замяніць крывавыя тэлесерыялы, безгалосая, крыклівая папса, наспех сплеценыя кашалі сенсацый і скандалаў духоўнага сумоўя з Шэкспірам і Пушкіным, Купалам і Шаўчэнкам, Сэрвантэсам і Чэхавым, Коласам і Хэмінгуэем, Гарэцкім і Міцкевічам і многімі іншымі непаўторнымі талентамі, названымі калісьці валадарамі дум? Ці не ад таго, што нашы сучаснікі залішне рэдка чытаюць і перачытваюць (а то і зусім не бяруць у рукі) іх геніяльныя творы, мы скаланаемся ад жаху, пачуўшы, як дзеці забіваюць бацькоў, як у алкагольным ці наркатычным полымі згараюць зусім юныя жыцці, як на шыкоўных іншамарках раўнадушна праносяцца міма пакалечаных і сканалых пешаходаў распанелыя, самазадаволеныя дзялкі?

Вядома, чытаць Фёдара Дастаеўскага ці Кузьму Чорнага нялёгка. Гэта не танныя пустыя дэтэктывы, не парнаграфічныя, хай сабе і прыпудраныя палітычнай кан’юктурай, анекдоты. Тут патрабуецца засяроджаная праца душы і розуму. Але скажыце, калі тое, што даецца без працы, без напружанага пошуку і мэтанакіраванай самаадддачы, прыносіла чаканы плён і заставалася ва ўдзячнай памяці?.. Перакананы, што нам усімі сіламі трэба абуджаць цікавасць суайчыннікаў, грамадства да сур’ёзнай, класічнай літаратуры, да ўдумлівага пастаяннага чытання. Як гэта зрабіць, што прадпрыняць — давайце супольна падумаем і на нашым З’ездзе. Спакойна глядзець, як непрыкметна, ціхай сапай разбураецца падмурак нашай ментальнасці, нашых гістарычных традыцый, калечыцца наш нацыянальны характар, даруйце мне гучныя словы — маральнае злачынства над нашчадкамі.

Разважаючы аб месцы літаратуры ў духоўным жыцці народа, аб ролі мастацкага слова ў станаўленні і сталенні нашай адроджанай (і ўсё яшчэ маладой) дзяржаўнасці, я хачу вярнуцца да старой і агульнапрызнанай ісціны: без валодання роднай мовай чалавек не можа спасцігнуць мудрасць і прыгажосць літаратуры, а без развітай, багатай літаратуры ён не зможа ў поўнай меры авалодаць роднай мовай. Здавалася б, гранічна ясна і дакладна. А што мы рэальна бачым у нашым тлумным і жорсткім XXI стагоддзі?

Высокія чыноўнікі не без злараднасці папракаюць пісьменнікаў у мізэрных накладах кніг, у нізкай папулярнасці іх сярод чытачоў. І, як кажуць, крыць няма чым: і выданні нашыя малатыражныя, і чэргаў за імі ў кнігарнях і бібліятэках не відно. Адно толькі забываюць (ці наўмысна ўтойваюць) нашы ўсемагутныя і ўсюдыісныя афіцыйныя начальнікі — каб чытаць беларускія кнігі, трэба — як мінімум — ведаць беларускую мову.

А адкуль возьмуцца веды, калі ў школах матчына мова паслядоўна выганяецца ўжо з пачатковых класаў, калі бедная падчаркай пачуваецца яна ў вышэйшых навучальных установах, калі практычна не гучыць ні ў парламенце, ні ў міністэрскіх кабінетах, калі не хочуць прызнаць яе гаспадыняй у нашых хатах ні тэлебачанне, ні эстрада, калі карыстацца ёю саромеюцца тыя, хто так смела і так часта заяўляе свае правы прадстаўляць Рэспубліку Беларусь? Я не буду прыводзіць факты і статыстычныя выкладкі. Вы іх усе цудоўна ведаеце і помніце. Самае ж страшнае, самае трагічнае, што пры ўсім жаданні цяжка ўгледзець светлую перспектыву і імкненне дзяржавы выпрацаваць цывілізаваную і ўцямную палітыку ў адносінах да мовы карэннай нацыі.

Дык што ж вы хочаце ад пісьменнікаў, на што спадзяецеся ў такіх абставінах? Колькі год мы крыкам крычым аб бядотным становішчы нашай мілагучнай, нашай старажытнай, нашай трывушчай і занядбанай мовы, заклікаючы ў саюзнікі і мудрацоў мінуўшчыны, і нават класікаў марксізма-ленінізма. Але заткнулі свае вушы і душы ваяўнічыя і цынічныя манкурты, якія ўзабраліся вунь як высока і ўпарта не хочуць зразумець, што ігнараванне нацыянальнага пытання, пагардлівая абыякавасць да стану дзяржаўнай беларускай мовы ні да чаго, акрамя непатрэбных канфліктаў і крыўдаў, прывесці не можа. Нам патрэбна, гэтага патрабуе сусветны гістарычны працэс — яднанне нацыі, згуртаванасць вакол святыняў роднай зямлі, адной з галоўных сярод якіх з’яўляецца Богам дадзенае матчына слова.

Аднак, як гэта ні горка ўсведамляць, мова, на жаль, — не адзіны наш непазбыўны боль. Нядаўнія падзеі на постсавецкай прасторы, калі даволі актыўна ствараюцца не зусім зразумелыя дзяржаўныя альянсы, дзе на першы план высоўваецца вайсковае супрацоўніцтва, калі да нашых прыродных багаццяў, да вынікаў працы многіх пакаленняў нашых землякоў хціва цягнуцца валасатыя рукі суседскіх алігархаў, калі ўсё больш хітра, усё больш настырна лезе ва ўсе дзіркі бандыцкі глабалізм, зноў востра і надзённа паўстае пытанне аб нашай незалежнасці, аб гарантыях і падвалінах суверэнітэту нашай нацыянальнай дзяржавы. Захапіць лепшыя беларускія прадпрыемствы, купіць панскімі зарплатамі і спакуслівымі дабротамі высокапрафесійных, вопытных інжынераў і майстроў, як гэта робіць ужо сумна вядомы «Газпрам», заманіць шчодрымі і вельмі своечасовымі крэдытамі ў пастку, адкуль няма выйсця — хіба не вядзе гэта да страты эканамічнай самастойнасці і не адчыняе шырока дзверы для ціхай інкарпарацыі нашай краіны ў новую магутную, ахмялелую ад газавых і нафтавых барышоў імперыю?

Многія беларусы ніяк не могуць, а то і чамусьці не хочуць зразумець катастрафічную небяспеку, якая грознаю чорнаю хмараю навісае над зямлёю пад белымі крыламі, над будучыняй нашых дзяцей і ўнукаў. Мне здаецца, надышоў час схамянуцца і яшчэ раз сабе і ўсяму свету заявіць аб непарушнасці нашага дзяржаўнага суверэнітэту, аб нашай цвёрдай волі жыць гаспадарамі ў сваім доме, на роўных сябраваць і супрацоўнічаць з суседзямі, адчуваць сябе годнаю часткаю людства, але быць — заўсёды і назаўсёды — самастойнымі, варта спадзявання продкаў і надзей нашчадкаў. Трэба, я думаю, склікаць Другі ўсебеларускі сход за незалежнасць і на ім «усім народам» акрэсліць шляхі і лёс і роднай дзяржавы, і роднай мовы, і роднай літаратуры.

Што ж датычыць канкрэтных дасягненняў і праблем сённяшняй беларускай паэзіі, прозы, драматургіі, крытыкі — я спадзяюся, на З’ездзе адбудзецца грунтоўная, вострая, шчырая, зацікаўленая гаворка аб іх. Яны вартыя гэтага. Мы маем творы, за якія не сорамна ні перад строгімі чытачамі, ні перад мудрымі папярэднікамі, ні перад патрабавальнымі калегамі ў вялікім свеце.

З гэткім настроем, з гэткай упэўненасцю я і абвяшчаю XVI справаздачна-выбарчы З’езд Саюза беларускіх пісьменнікаў адкрытым.

# ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

…Сёння нам застаецца толькі звяртацца зноў да Янкі Купалы, на гэты раз да яго верша 90-гадовай даўнасці, маніфеста «Стаім мы перад будучыняй нашай…».

Падзеі развіваюцца так, у такім кірунку, што ўспрымаеш гэты верш — як рашучую спробу актуальнай на сённяшні дзень нашай нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, спробу адказаць на пытанне: «Хто мы? Што мы? Якія мы? Што рабіць?».

Мала сказаць: надзённае пытанне. Пытанне застаецца драматычна адкрытым. Бо самаідэнтыфікацыя па-беларуску мае вельмі ўжо спецыфічны характар. То адзін, то другі прэзідэнт, ніcolчуе сумняшся, заяўляюць, што такога народа, як беларускі, няма, ёсць адзін, рускі. Інакш, як часткай нейкага саюза, таго альбо іншага інтэграцыйнага аб’яднання не ўяўляем. Эпітэт «свядомасць», паняцце «самасвядомасць» — прадмет здзеклівай публічнай насмешкі. Затрымліваюць жанчыну, якая хоча ўскласці кветкі да помніка Янкі Купалы ў дзень 25 сакавіка. Пры адкрыцці помніка Якубу Коласу забываюць даць слова ягонаму сыну, шаноўнаму Міхасю Канстанцінавічу. Магілёўскага юнака (нядаўні факт) арыштоўваюць і вядуць у пастарунак за тое, што меў неасцярожнасць гаварыць з міліцыянтамі па-беларуску. <…>

Не ўсё добра і ў нашым пісьменніцкім асяродку. Апроч іншага — і ў плане нашага духоўнага і нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння, у плане гэтай самай самаідэнтыфікацыі. У той час, калі француз Алексіс Жэні атрымоўвае Ганкураўскую прэмію за раман, прысвечаны асэнсаванню французскіх каштоўнасцяў, — некаторыя нашы маладзейшыя калегі ўзяліся актыўна, мякка кажучы, рэвізаваць нашыя нацыянальныя скарбы, ці, кажучы словамі Рыгора Сітніцы, «цынічна апляўваць лепшыя набыткі нацыі, нашы нацыянальныя святыні». Я прывёў цытату з незвычайнага па сваёй прынцыповасці, грамадзянскай адказнасці і прафесійнай аргументацыі артыкул выдатнага мастака і паэта Рыгора Сітніцы «Развагі нязгоднага быць хобітам» (ён змешчаны ў 5-ым нумары часопіса «Верасень»).


Фота А.Спрынчан

<…> Беларускі верш ніколі не аддзяляў сябе ад Беларусі, горача, часам да самазабыцця, любіў яе, прысягаў ёй, яна была для яго своеасаблівым сімвалам веры, ледзь не рэлігійнай святыняй. Пра што сведчаць найбольш характэрныя ў гэтым сэнсе вершы Максіма Багдановіча, Ларысы Геніюш, Уладзіміра Караткевіча, сябра нашага Саюза Ніла Гілевіча.

<…> Паэзія — абярэг, гарант, носьбіт нашага нацыянальнага коду. З мэтай напісаць прадмову перачытаў нядаўна Кастуся Цвірку, у прыватнасці ягоную паэму «Хат вячысты дар» і кнігу «Будзіла вёску берасцянка». Чытаў і пераконваўся, што <…> наяве існуюць рэальныя каштоўнасці і традыцыі, якія даюць права беларусам «людзьмі звацца», быць паўнавартаснай нацыяй…

…Не магу не падзяліцца хаця б у двух словах уражаннямі ад нядаўняй паездкі на Лепельшчыну з Эдуардам Акуліным і Леанідам Дранько-Майсюком.

Заспяваў пад гітару Эдуард Акулін, стройна гучаў хор звонкіх дзіцячых галасоў. Асабліва стараліся самыя малыя… І я адчуў: па спіне пабеглі мурашкі. Адчуў усёй істотай: жыве нашая беларуская справа!

Доказам таго, што яна жыве, з’яўляецца той відавочны факт, што мы сабраліся на гэты З’езд, мы, хто верай і праўдай служыць святой беларускай справе — справе Дабра, Праўды, Шчасця роднай Беларусі.

Будзьма!

ВЕРШЫ

# СЛЯЗА КАМЕНЯ

Алесь КАСКО



* * *

*Было. Не вярнуць. Ды ніколі не сцерці.
Мне б заўтра не страціць таго пачуцця,
якое ёсць сёння: не боязна смерці,
а проста да смерці шкада мне жыцця.*

*Як шпарка ні бег бы мой час танканогі
і лёс мой кульгавым ні быў бы якім,
павек не зракуся пачатку дарогі:
яна праз Айчыну ішла напрамкі.*

*Праз душы сяброў і праз сэрцы каханых.
Сягала скрозь вырак і вокрыкі «стоп».
Але каб паўторна мной шлях быў абраны —
Не ўпэўнены я, што ўсё тое ж было б.*

*Зноў выстаяць перад прымусам, спакусай,
спыніцца ад здрады за хвілю, за крок?..
Такое бяды мне, што не паўтаруся,
шкада, што дарога ўпіраецца ў змрок.*

## Паэт-рака

*Нілу Гілевічу*

*Не выветрыцца дух Айчыны,
не сыдзе грунт яе на пыл:
нібы егіпецкай пустыні,
жывільны дар нясе ёй Ніл.*

*Шлях, бы ў ракі той, адзінокі,
ды не звужэе да бруі,
пакуль не высахлі вытокі —
глыбіннай мовы ручаі.*

*Ім волі брак, але ніколі
моц і крынічная краса
не ўчэзнуць: нетры Ніл натоліць,
з якіх сілкуецца ён сам.*

*Яго магутнае разводдзе
пакіне мноства ручаёў,
каб праз гады і праз стагоддзі
пустыня заквітнела зноў.*

## Споведнае

*Я не зважаў, што час бяжыць,
што я часовы на зямлі,
і ўсё жыццё збіраўся жыць,
сабраўся — жыць няма калі.*

## Алея імёнаў у Ганцавічах

*У Дзень пісьменства ў краі родным
блукаў адзін, настрою — брак,
як і сяброў; сабралі «ўгодных»,
а я прыдаўся, бо зямляк.*

*Зямляцтва весткаю сустрэла:
з «забранзавелых» творцаў кніг,
дальбог, ёсць ты, шукай на стэлах
сябе між мёртвых і жывых.*

*Знайшоў, спыніўся ў замяшанні,
спіс бы з акропаля счытаў…
Пад імем што ж — пліта пашаны
ці надмагільная пліта?*

*Адна суцеха: тут, дзе свята
для прыкарытнікаў-сквалыг,
быў шчэ жывы я літаратар
сярод паўмёртвых, паўжывых.*

## Віхор

*З разветранай і скурчанай лістоты,
з травы звішэлай на старым узмежку,
з пяску на абсследжанай дарозе —
сухі струмень, клубок, крутлівы стоўп.
За хаасам жа бачу ўсёй істотай
хаціны, вуліцы, двары і сцежкі,
крыжы над тымі, хто спачыў у Бозе,
цвінтар перад царквой, на ім — натоўп.*

*Святочны дзень; па службе малітоўнай
пасядуць разам за абрусам белым
хто жыў, жыве і той, каму з'явіцца, —
з'яднае ўсіх мядовая бруя…
Каб не віхор! Бурліць ён неўтаймоўна,
нібыта гэта памяць звар'яцела,
не ў змозе на сябе саму забыцца,
нібы віной не час, не лёс, а я.*

*Калі б у хаас нож маланкай выцяў,
кроў пырснула б не д'ябала — мая.*

## Санет прыродзе

*Хай дымам — лес, хай заплыла крыніца
і západae яр усё глыбей —
а першатворнасць мусіць паўтарыцца
і паўтарыць хоць некалі цябе.*

*Такі закон; пад ім ты і ў журбе
вытокамі шчаслівы наталіцца
ў траве сухой або ў сівой вярбе,
ці ў ручаіне, гэтакай жа іцай.*

*Дарма, калі і целам ты памёр.
Лес адрасце, паўстане зноўку бор
і яру дно падыме каранямі,
і звон крынічны з-пад зямлі абудзіць, —
і вобраз твой тут будзе жыць вякамі,
калі яго забудуць нават людзі.*

## Адсюль

*Яўгену Сергіеню*

*Даецца шлях адзін — адсюль,
сюды вяртаецца — не вярнуцца:
на хвілю не памаладзець,
на міг маленствам не ўваскрэснуць.*

*Час абрывае пакрысе
і за табою высцілае
пажухлай памяці лісцё,
атожылкі сухіх пачуццяў.*

*Ступаць па колішніх слядах
і не трапляць — крок да ўяўлення,
што іх няма і не было,
што ўсё — ілюзія былога.*

*І ўсё ж вяртаешся; няйнакш,
ёсць незямное моцы цяга
ў адцятай колісь пупавіне,
у першым пробліску нябёсаў.*

*Мо нездарма аблокі тут
са зменлівых кужэльных пасмаў
штораз уважлівей ткуць
твае дзіцячыя абрысы.*

* * *

*Я ўведаў, што такое ад'язджаць
з радзімы: азначае — паміраць,
чапляцца за саломінкі бяссоння
і пеставаць надзею, што не сёння
твой міг расстання, што, нібы ад'езд,
адкласці можаш свой апошні хрэст…
Даў Бог, тут ёсць яшчэ каму чакаць,
і ёсць вяртацца цяга — ажываць!*

## Радыёпрыёмнік у траве

*Звон марша.
Маршал.
Мроі…
Энергіі зарад —
парад,
героі.
І словапад —
эпітэтамі
зброі:
стралковая,
выбуховая,
халодная,
вадародная,
тактычная,
стратэгічная,
звышдальняя,
кантынентальная,
хімічная,
біялагічная,
нейтронная,
псіхатронная,
ідэалагічная…
Зычна
радыёпрыёмнік
крычыць у траве:
– Жывем!
– Крокам руш!
– Жывей!..
Ды маўчаць
на ўвесь свет,
нібы кожны аглух,
сон-дзьмухавец
і авечы пастух.*

* * *

*Не пад тваёй рукой званок дзвярны
кініць… Тваю руку і ў сне пазнаю…
Для ўсіх астатніх сёння хата з краю,
хай там званкі грымяць або званы.*

*Ды дзверы — дзіўна! — свецяцца.
Скрозь іх
у мой пакой заходзіць хто папала.
Я з кімсьці п'ю віно, гуляю ў кінг,
чытаю ліст, які ты не пісала.*

*Завітваюць знаёмыя і не:
сябры былыя, здрайцы, графаманы,
бяздомнікі, што маюць «маны-маны»
і спраў, як ты, не маюць да мяне.*

*Звіх набліжае кожны новы госць,
іх плойма навязала долю вязня.
«Вы хто такія? Вас я не заказваў!» —
крычу, хоць ведаю: без іх — шчэ горш…*

*Нарэшце днее. Зязнем яснаты
развейваецца мроя. Час да працы.
Нарасхрыст дзверы — і ўваходзіш ты,
нібы працяг начных галюцынацый.*

## Сосны на разбураных могліцах

*Ад старадрэвін — хлуд і пні,
сляды капцоў між новых соснаў,
чые галіны мкнуць высозна,
чые ў прадонні карані.*

*Пад іх карою — час, калі
чыніўся гвалт; вяршынны пошум
штодня вядзе шчымлівы пошук
тых душ, што неба абжылі.*

*З руінаў, з ямінаў, з вякоў
паўсталі дрэвы строма, дужа,
нясцерпна ім: тут стогнуць душы
глумліўцаў і рабаўнікоў.*

*І прэч ад іх, ад чорных сіл,
страляюць кроны так высока,
а карані — да чыстых сокаў,
глыбей, чым дол былых магіл.*

## Бюст гегемона

*Люструюцца дрэвы
ў ашклянелай сажалцы.
Зазірнуць баюся —
хіснуся і разаб'ю
сваёй чыгуннай галавою;
убачу таплякі, якія
нагадаюць людскія целы.
Не маю рук,
каб зачарпнуць вады
і змыць векавую ржу
з твару, што слыў
тварам гісторыі.*

## Сляза з каменя

*Гэты краявід рамантычна прыгожы. Не адчуваю, а ведаю. Маю вопыт мінулых перажыванняў.
Гэты краявід можна адлюстраваць вершам. Маю навык версіфікатарства. Камбінацыяй метафар падраблю пачуццё.
Мала хто здагадаецца, але памятаць буду я:
я той, хто выціскае слязу з каменя.*

## Чаша

*Час — гэта чаша трывання, што напаўняецца пакрысе, па краплінцы, слязой і атрутаю.
Заўважаем са скрухаю: слязы ачышчальнай меней і меней, а ліха ўсё больш.
І ўсё цяжэй нам даверыцца Творцу дабра — міжволі схіляемся да ягонага антыпода.
І ўсё часцей сумняваемся: хто ў момант апошні, як скончыцца звыклы наш свет, возьме верх назаўсёды?..
Перапоўніцца чаша трывання, і выцякуць слёзы з яе пад цяжарам атруты — раскоцяцца і стануць Божай расою.
Астатняе ж выпіць да самага донейка будзе змушаны ён, каму пакарыцца схіляліся, — калі чаша трывання няпоўнай была.*

ДЗЁННІКАВЫЯ ЗГАДКІ

# 1970–1973 ГАДЫ

Алесь ЖУК

Учора мокра захлюпаў снег, падаў цэлы дзень і сёння яшчэ цярусіць пакрысе. Дзеці зляпілі бабу. А на лясах, на соснах ваеннага гарадка снег ляжыць цяжка і звыкла па-зімоваму. Там, дзе не ходзяць, чыста і светла, а на вуліцах і тратуарах мокра і брудна. Вяршыні маладых тапаляў, абрэзаных вясною, цяпер на маладых парастках трымаюць яшчэ зеленавата-жоўты, пачарнелы паўз краі ліст. Казачна дзіўныя і прыкіданыя чыстым снегам яшчэ свежыя травінкі і лісцікі пад дрэвамі. Гэту чысціню, нерухомасць, прыгажосць і трагедыю, мабыць, немагчыма перадаць і фарбамі.

БМП па чыстым снезе па перакопаным траншэямі палігонным полі ідуць паслухмяна і лёгка, нават святочна.



Быў у вёсцы. Ішоў чорнаю ветранаю ноччу па амаль непрыкметнай на раллі сцежцы. Зямля ўзялася храпаю. Холадна, поле вышастана ветрам. Вецер на вясковай вуліцы яшчэ напорысцей, дрэвы чорныя ў чарнаце, як намаляваныя сажай. Ад ветру стукаюць непрывязаныя варотцы, парыпваюць вароты — дзіка, глуха, мёртва.

Учора бачыўся з Адамчыкам. Ён не адышоў яшчэ зусім пасля хваробы. Крыху бледны з твару, сумна ўсміхаецца. Прыйшоў з пахавання Гурскага, занёс туды вянок, да канца заставацца не захацеў ці не змог. Сказаў, што заязджаў у выдавецтва і пакінуў заяўку на раман «Чужая вотчына». Бачыў я, як ён пісаў яго ў Каралішчавічах, вучнёўскім пяром, мачаючы яго ў чарніліцу.

Хадзіў у лес, на палігон, дайшоў амаль да Зміяных вышынек. Жнівень цёплы, вільгаці мала. У асінніку і беразняку грыбоў мала, падняў некалькі бабак, дзве сямейкі свінушак. Падсінавікі браў у лагчыне, дзе трава і трымаецца раса, крыху там жа ваўнянак. І тыя і другія глядзяцца прыгожа, як кветкі. Хоць ты пішы апавяданне пра грыбное шчасце.

У «ЛіМ»е амаль на паласу матэрыялы пра пахаванне Гурскага, з фотапартрэтам, нават вершык Бялевіча, а знізу прыціснутае сціплае паведамленне групы таварышаў пра смерць Баразны. На фатаграфію месца не хапіла. А Баразна быў не проста шараговы мастак, а асоба беларуская.

Дзесьці ў сераду быў сігнальны экземпляр маёй кніжкі. Ляжыць цяпер на пісьмовым стале. І нейк не цікава: глядзіш, як сабака на забітага зайца. Учора зайшлі ў «Журавінку» з Толем і Адамчыкам. Пілі зусім мала, глядзелі на танцы, гаварылі. Было спакойна, хораша і добра. І з другога жыцця былі ўспаміны Адамчыка пра чырвонаармейцаў, расстраляных у глінішчах, да якіх ён поўз ноччу, каб забраць вінтоўку.

Толя ўспамінаў, як некалі прадавау арэхі і грыбы, перададзеныя мамай, на вакзале ў Бабруйску. Грошы трэба былі, каб паабедаць і даехаць з вучылішча ў вёску. Неяк спакойна ўспаміналі і адзін і другі ў рэстараннай зале, што некалі многа галадалі.

Тры-чатыры дні назад быў снег, багаты, роўны, і светлае, чуць ружовае сонца раніцай, пара з рота, светлы настрой. З вечара таксама церусіў снег, і апоўначы, пад раніцу пайшоў дождж, затым імжа, у паветры халодная вадзяністасць, праз два дні стала два градусы цяпла. На двары ад вялікіх снегавікоў, што скачалі дзеці, асталіся маленькія, брудныя, як мячыкі, камякі снегу. Машыны разбілі было замёрзлыя каляіны, у рэдзенькую поліўку восеньскай гразі. Пачатак снежня, мокры, хваравіты вецер, нудныя, на цэлы дзень, дажджы, імжа.

Першы дзень вясны. Раніцаю мароз да 14, а зімой сама болей было градусаў 18. Шчодры, бухматы іней.

Удзень сонца, ажно вочы баляць. Гэта першы такі шчодры дзень сонца ад самае восені праз усю адліжную, дажджлівую зіму. У прыдарожных дрэў ля самых камлёў растаў снег, да мёртвае шэрае травы.

Хадзіў у лес. Яшчэ мокра, не ўсюды сыйшоў снег, няма пакуль што пралесак, няма і грыбоў — тыдзень ці два да іх. Жоўта і свежа цвіце арэшнік, сама сочацца бярозы. Лічаныя дні застаюцца да прыпарыстага цяпла, да сну баравога.

З прыёму ў Саюз: самае няўтульнае — стаяць перад залам і адказваць на недарэчныя пытанні. Як ты пішаш? Ніколі не думаў пра гэта, пішу, як пішацца. Ці маеш кватэру? Гэта як разумець — ці не будзеш мне канкурэнтам пры наступным кватэрным дзяленні?

Дзіма ўчора выказаў мне сваё абурэнне:

— Ты нейкі дзікі свіння.

— Чаму?

— Ты Дзіму не любіш.

— Чаму не люблю?

— Ты ж у садзіку пакідаеш, а сам ідзеш на работу.

Загараў на Сляпянскім возеры, якое няўмольна зарастае і хутка ператворыцца ў балота. Побач немаладзенькая пара з хлопчыкам і дзяўчынкай. Яна поўненькая, са складачкамі лішняга на баках, ён светлавалосы, высокі, увесь у рабацінні не толькі на твары, але і на целе, што можна і не загарэць. І яна, гэтая таўстушка з шыракаватым ротам і нафарбаванымі вуснамі, ціхенька тулілася да яго і ўпотайкі цалавала. І калі ён устаў ісці да вады, шчаслiва збянтэжылася і мяне, і дзяцей, паказала на сабе мужу на шчаку.

А хлопчык сур'ёзна ўголас запытаўся ў мамы:

— Што, у пamадзе?

І яна зноў збянтэжылася, шчаслiва і молада.

Учора абедаў у рэстаране. Недалёка за столікам сядзела маладая дамачка, выглежданая, вылізаная, як сакратарка ў вялікага начальніка. Тоненькімі пальчыкамі прытрымлівала кавалачак курацiны, кусала сваімі роўненькімі зубкамі, быццам рабіла ласку гэтаму кавалачку. Падумаў, што гэта можна запісаць і так: «Прыгожая, далікатная з выгляду сцервачка па-тхарынаму вострa кармілася курацінаю». Ці неяк у такім жа плане, толькі абавязкова са «сцервачкаю».

Пад сонцам, на мураўцы, на беразе возера, амаль на пустынным пляжы перачытваў «Вітраж» Янкі Брыля, падпісаны мне «з сімпатыяй і надзеяй».

А паўз ваду час ад часу праходзіла павольна туды-сюды зграбная маладзічка з такімі прыгожымі формамі, што на іх здаваўся зусім лішнім даволі ўмоўны купальнічак. І пазірала ўсмешліва і прыязна.

А я, дурань, ляжаў і чытаў Брыля, і зразумеў, што дурань толькі вечарам.

Сумнае сонца жніўня, светлаватая, малочная чырвань рабін, жоўтыя сухія бярозавыя лісты ў мяккім бэзавым суквецці верасу, і трывожны густы пошум лісця на ветры, ужо часам тугім і моцным. Цвіце зверабой, сіне ад цыкорыя, дацвітае фіялетавым колерам паўз дарогу дзікі гарошак.

Заламалася лета асмужанаю гронкай прыдарожнай рабіны.

Падумалася, што як чалавек бяздарна за штодзённаю мітуслівасцю не заўважае, як роўна, няўмольна выцякае ў незваротнасць жыццё з усёй яго прыгажосцю, прамінаюць маладосць, сталасць і няўмольна набліжаецца адзінокая і халодная старасць.

Дзіўна, колькі гадоў ужо маю, а ўсё яшчэ адчуваю сябе хлапчуком у дарослым жыцці. Што дрэнна, подла, як не павінна быць, — ведаю, а вось цвёрда знаць, што правільна — не! І няхай, дай Бог, і да смерці не буду ведаць гэтага канчатковага правільна.

Вецер густы, пошумны, і хвалямі ходзіць пад ім лістота. Сонца не мучыць спякотаю, грэе цёпла і мякка, журботна, а нават ноччу на балконе трэцяга паверха душнавата, і месяц чырвоны, як вока ад бяссоння. Успамінаецца поле і начлег на свежай пахучай саломе.

Верасень сухі, ветраны з вялікімі шэрымі журавлямі ў полі, пераараным на зіму і шызым, як дзікі голуб. І болей быццам нічога, толькі нейкае абвостранае адчуванне: быццам да гэтага ніколі нічога не чытаў і не пісаў сам — амаль навобмацак адчуваю кожнае слова, інтанацыю, кропку. Магчыма, гэтая абвостранасць ад таго, што перад гэтым чытаў Марыяка і старонкі з Камю.

Падумалася пра доўгую цытату Андрэ Маруа з Марыякавай «Пустыні кахання» і яго рэмарку пасля цытаты: «Гэтыя двое ў тую ноч так і не змаглі пераадолець пустыню кахання». Мне далёка да Марыяка, быццам нечага і спрабаваць пісаць пра гэта, але яно будзе мучыць мяне, і будзе пісацца пра гэта, бо спрадвеку ў кожнага чалавека свая «пустыня кахання».

Пасля кароткае разрадкі дома, у сваіх палях, неяк горка і проста зразумеў, адчуў: у жыцці ўжо назаўсёды будзе папера, ручка і пісанне. Ад гэтага глухі, далёкі жаль пра тое, што можна проста жыць дзень за днём, радуючыся сябрам, сяброўкам, кампаніям!.. Ад гэтага разуменне адчулася палёгка, як ад свежага павеву ветру, гэтага, верасянёвага. З яшчэ цёплым прысмакам.

У гаворцы Аўрамчык дзівіўся сіле кнігі Брыля, Адамовіча і Калесніка «Я з вогненнай вёскі» і, крыху сумеўшыся, прызнаўся, што чытаў учора вечарам адзін у пакоі і часамі плакаў.

Мы з Міколам Якаўлевічам людзі вельмі рознага ўзросту і жыццёвага шляху, але са мной пры чытанні было тое ж самае.

Пішу ў гэтую сваю чырвоную кніжку, а на першай старонцы стаіць дата, калі яшчэ не быў у войску, калі далёка было да кніжкі, да членства ў Саюзе, да магчымасці займацца сваёй работаю. І тады далёка было яшчэ да канчатковага разумення, што так і не здарыласся ў жыцці цуда, што сэрца так і засталося адзінокім паляўнічым у халодным полі, дзе пацямнела ад першых прымаразкаў густая рунь, якая маецца стаць добрым ураджаем. А сэрца ўсё не можа змірыцца, не хоча стыць душа, толькі часцей і часцей бярэ ўсё на свой водкуп розум і цвярозая галава, распараджаецца, аб'ўяляе апошні і канчатковы прысуд. Што ж, папалюем і ў халодным полі, ад гэтай прахалоды ясней павінна быць галава і свежымі чалавечнымі думкі.

Стральцоў няхай і пад хмяльком, але цвяроза гаварыў пра сваю адметнасць, пра тое, што ён гэта даказаў — і няхай паспрабуюць зраўняцца з ім тыя, хто кідае камень у яго агарод. І гаварыў праўду. Тонкасць душы, талент такі, якому ў нас не магу знайсці роўнага. Толькі балюча думаць, што самы лепшы яблык, калі ён падточаны жыццём, падае першым. Можа гэта ведаў ці адчуваў Міхась, калі пісаў сваю «Загадку Багдановіча»? Верыць у адваротнае вельмі хочацца, і гэтаю вераю цешыш сябе.

Не вечнасць таму назад, у тыя трыццатыя гады, ды не, і праз пятнаццаць гадоў яшчэ, за зачыненымі дзвярыма пісьменнікі абмяркоўвалі кнігі калегаў, пісалі пратаколы, адзін экзэмпляр выносілі аўтару азнаёміцца, а адзін па старой завядзёнцы перасылалі ўсё «туды». І гэтыя жывыя не здані ходзяць і цяпер побач, вітаюцца, і ў іх такія прыстойныя і пародзістыя морды.

Сядзелі над ціхай вадою, пад ціхім жаўталістам, так спакойна і хораша, чуваць, як падае і торкаецца ў галіны жоўтае лісце. Гаварылі пра вечнае, і нават пра мужнасць чалавека на зямлі. А самі кожны сабе на ўме, нават не хапае мужнасці жыць так, як лічыш патрэбным, прытвараешся, што вымушаны падпарадкоўвацца ўмоўнасцям. Так зручней. Пастарэлі, палыселі, навучыліся паўтарацца. А зусім нядаўна пра сваю ардынарнасць не хацелі чуць, не тое, што гаварыць, калі і не думалі пра геніяльнасць, то спадзяваліся зрабіць нешта значнае, вартае. А цяпер пакорліва прызнаём сваю сярэднясць, нават пасрэднасць, пакінем толькі прыстойнасць, і самі не ўпэўнены, што заўсёды прыстойныя.

Цяжка думаць, што з народа можна выветрыць і яго гісторыю, і не пакінуць спадзявання на будучыню. Гэта роўна таму, што вытруціць у чалавеку чалавека, гаворачы яму пра вяршыні ягонага развіцця. Падзенне пачынаецца з таго, што чалавек забывае пра той кут, дзе нарадзіўся, пагарджае тым словам, якое пачуў упершыню. Часам становіцца страшна, што жывеш побач з мерцвякамі.

Страшна стаць прывычным да ўсяго і сумным, не патрэбным нікому чалавекам. У геаметрычнай прагрэсіі расце індывідуалізм, эгаізм разам з вялікім разумовым веданнем, уменнем чалавека здабываць сабе камфорт, які ў касмічных маштабах дае чалавеку магчымасць спажываць і аддаляе яго ад звярынага існавання. І адначасова развіваецца і вытанчваецца самае страшнае: здзеклівасць, жорсткасць, інстынкт з'ядання суперніка.

Які бедны і няшчасны чалавек з яго неабдымнымі амбіцыямі і кароткім імгненнем зямнога існавання перад мёртвым небыццём, якое было, ёсць і будзе.

Зноў чытаю Паустоўскага. Цудоўнае насяленне твораў вобразамі не толькі людзей, але і прыроды. І як добра і прыгожа гэтыя вобразы жывуць і думаюць. І ўсё ад пачатку да канца прасякнута дыханнем гуманізму, на які ў некаторых паваpочваецца язык гаварыць — «абстрактны».

Дні тры-чатыры марозік трымаецца пад дваццаць, снег сыпкі, сухі, пякучы тугі ветрык. Лыжная ліхаманка ў магазінах. Купіў і я лыжы, паставіў на балконе, сіненькія, прыгожыя. Упэўнены, што ў суботу пападу ў лес.

Ужо дваццаць шэсць год, а як хлапчук радуюся новенькім, галоўнае, сіненькім лыжам.

Сняжыць. Заснежана ў горадзе, а вёскі, відаць, завалены снегам. Сяджу, канчаю рыхтаваць для выдавецтва зборнік. Сказаць, што ён будзе лепшым за першы, не магу. Але ведаю, што ў ім будзе менш лірычнасці, будуць іншыя апавяданні, будзе «Чыгун».

ВЕРШЫ

# ПЕРАДКАЛЯДНАЕ: З БЛАКНОТНЫХ СТАРОНАК

Васіль ЗУЁНАК

## Мелі, маем, маем мецць…

*Мелі мы маразматыкаў*
*І багністы застой,*
*Зараз маем прагматыкаў*
*З траскатнёю пустой.*

*І на сконе стагоддзя нам*
*Засталося займець*
*На абодвух пародыю:*
*І дурнець, і грымець…*

1994

***

*Расейцы гуляюць у паддаўкі,*
*Ляціць на кручку «ССР-прынада»:*
*Хапайце, глытайце — гэй, мужыкі,*
*Гэй, беларусы, дзяліце пасады.*

*Вам і прэзідыумы, і чыны*
*Ад патыражна-міражнай дзяржавы, —*
*Покуль з плячэй паляцяць качаны,*
*Ля гістарычнай гарцуйце канавы…*

*Якія вы — такія й правы,*
*Нішто не даецца за так, за дзякуй:*
*Сёння з пацешнай уладаю вы,*
*А заўтра ўлады не будзе і знаку.*

*А заўтра — «Северо-западный край —*
*С ладаном сладостных благословений»…*
*Бачыце: едзе які каравай, —*
*Спіны рыхтуйце, рыхтуйце калені!..*

1996

## Вера

***Уладзіміру Някляеву***

*«Як шлях у нішто з нічога —*
*Да Бога дарога…» —*

*Так, грэшны, я разважаў*
*На радасць бяздушным вужам.*

*Ды грэшнаму Бог памог:*
*«Ідзі: дарога ёсць Бог…»*

1996

## Трэба ехаць…

*Трэба ехаць:*
*Ад спрэчак, што важней —*
*Кілаграм*
*Каўбасы*
*Ці свабоды агрэхі,*
*Ад «зімоўскіх тэлепанарам»,*
*Што ўслугоўваюць гаспадарам,*
*У якіх паехалі стрэхі, —*

*Трэба ехаць:*
*Ад фанаграм,*
*Дзе спявае — на зайздрасць курам —*
*Пад «фанеру»*
*Ўладная «п'еха»*
*І падспеўваюць —*
*Хоцькі ці нехаць —*
*«Вертыкальныя» пеўні праграм, —*

*Трэба ехаць:*
*Хоць бы на дзень*
*На гару, што Лысай завецца,*
*Дзе налысіў жнівень арэхаў*
*І не ўтойвае лысіну пень:*
*Лысы — лысым і застаецца, —*

*Трэба ехаць:*
*Дзе песні рэха,*
*Як па хвалях,*
*З гары на гару…*

*Ат, ды што я вам гавару!.. —*



*Трэба ехаць:*
*Электрычкай,*
*А потым пехам —*
*Трэба ехаць,*
*Каб зглузду не з'ехаць…*

*Ну а тое, аб чым пыталася,*
*Тое ўсё на паперы сталася:*
*Мне — на ўцеху,*
*Вам — на пацеху, —*

*З'ехаў…*

1997

## Стабілізацыя дэбілізацыі

*Самы надзейны — піўны хаўрус,*
*Апафеоз пралетарскай дактрыны:*
*Штодня па пляшцы на нос і плюс*
*Дэбілізацыя ўсёй краіны…*

1999

## Снягір

*Так-так, зусім не маладосць —*
*Зіма, мой дружа, надыходзіць,*
*То ўспомнім: дараванне*
*ёсць*
*Закон няпісаны ў прыродзе.*

*Таму — за тое, што было,*
*Даруй, прашу цябе, мой дружа,*
*Даруй, што вабіў у сіло*
*Цябе зярняткам злым у сцюжу.*

*Даруй, што ў час той хлапчуку*
*З лавецкім намыслам у сэрцы*
*Ты не садзіўся на руку,*
*Каб з'есці што і адагрэцца.*

*Цяпер успамінаю я,*
*Як хітравалі мы абодва,*
*І ў кожнага была свая*
*Надзея з крыўдаю нязводнай.*

*Я за табою цікаваў,*
*Нібы за райскаю жар-птушкай,*
*А ты мой «дар» не смакаваў*
*І голад на галінцы гушкаў.*

*Цяпер прашу цябе: даруй,*
*Хоць знаю — ты не той, ты іншы.*
*Прашу: са мною не хітруй —*
*Цяпер я ў ловах не зачыншчык…*

*Я сам у пастках быў не раз.*
*Жыццё засільвала знянацку…*
*Ну што ж, напэўна, самы раз*
*Паразумецца нам па-брацку.*

*Даруй — навек і наштодзень, —*
*І сам даверам падзяліся.*
*І на плячо, як на пляцень,*
*Ты смела да мяне садзіся.*

2003

## Пярынка

*Отта Ліліенталь,*
*Інжынер паэтычны ці паэт інжынерны,*
*Быў у небе птушкай амаль —*
*На планёрах вышыні мерыў.*

*І абрысы крыла разлічыў,*
*І лунання размах і замінку…*

*Смерці ж выдаў прычыну з прычын:*
*На адну памыліўся пярынку…*

2004

## Аб геніях

*Графаман графаману рэляцыю*
*Разграфляе, нібы па графіку,*
*Што ўсіх геніяў — як папуляцыю —*
*Час спісаць з парнаскай парафіі!*

*Бо ўсе геніі чымсьці плюгавыя:*
*То кароценькія істэрыкі,*
*То на ўсе чатыры кульгавыя,*
*То салодзенькія цукерыкі.*

*То з натхнёным вячэраю чэравам,*
*Дзе з Пегасамі ходзяць папасамі,*
*То з прыкусам сабачым ашчэраным,*
*На кавалкі славутасці ласыя.*

*То з інтымнаю эксплуатацыяй:*
*Каля кожнай нясушкі — пеўнікам,*
*То з няпэўнаю арыентацыяй*
*І з паэзіяй, значыць, няпэўнаю…*

*Кампенсуючы хібы фізічныя,*
*Рэшту духам вяртае прырода ім:*
*Дзе натурай хтосьці аблічаны,*
*Геній служыць узнагародаю.*

*Вось у гэтым, бадай, і тайна ўся, —*
*І шукаючы лінію генную,*
*Я цяпер у сябе пытаюся:*
*Ці хацелася б мне быць геніем?..*

2004

***

*Равеснікі, якіх даўно не бачыў,*
*Не сустракаў амаль што цэлы век,*
*Як на сябе, гляджу на вас — і плачу:*
*О страшны час! Які ты чыніш здзек!..*

*Не знаў, не ведаў іншых вас, чым тыя,*
*Што зберагалі ў памяці гады:*
*Якія ўсе былі вы маладыя,*
*Які і я быў з вамі малады!..*

*І раптам — як абрыў, як катастрофа:*
*Разбілася люстэрка на друзкі…*
*Аўтапартрэта падбіраю крохі —*
*Нібы магіл разгортваю пяскі…*

2005

***

*Каму спяваю і заву каго,*
*Перад чыёй схіляюся планідай, —*
*Глухі, не чуе голасу майго*
*І не пачуе на бяздушных выдмах.*

*З усіх шляхоў крыжуюцца вятры*
*Гісторыі — віхура за віхурай.*
*Жыццё — як вырак: з памяці сатры,*
*Што ты народ, — і памірай панура.*

*Стаю, як перад хатай нежылой,*
*Пакінутай у зоне адсялення:*
*Чарнобыль нематы — як аналой —*
*І перад ім дух рабскі на каленях…*

*Бязмоўе і бяспамяцце, — хіба*
*Такі народ народзіцца нанова?*

*І ўсё ж, і ўсё ж — гукаю я раба, —*
*Ёсць шанс: апошнім памірае слова.*

2005

***

*Усё жыццё стараўся я*
*Загадку разгадаць сусвету:*
*І ў блізкіх і ў чужых краях*
*Пытаў пра небыцця сакрэты.*

*І ні адзін мудрэц не знаў,*
*Што там, за той мяжой, чакае,*
*Ніхто наіўна не сказаў:*
*«Памрэш, тады і ўсё спазнаеш…».*

2005

***

*Калі душа заснула і натхнення*
*Кліч-не-даклічашся, не бэсці свет:*
*Не чуеш слоў, не бачыш дзіўных сненняў —*
*Нябёс сакрэт.*

*І зорны след*
*Не падуладны марнаму карпенню*
*Над аркушам.*
*Каб радасным свячэннем*
*Успыхнуў верш, забудзь, што ты паэт.*

2005

***

*Раздаюцца геніяў тытулы*
*І квіткі для праезду ў бяссмерце,*
*Плюс жытло, дзе клады закрытыя:*
*Метр-на-два, — па чыноўнай паперцы.*

*Вось і ўсё. А рэшта ўсім роўная…*
*І стаіць перад праўдай суровай*
*Абаронай безабароннаю,*
*Апраўданнем і сведкаю — Слова…*

2011

## Пытанне-просьба

***да надта «правільных» карэктараў***

*Сінтаксіс дыктатам адмысловым*
*Прагне пунктуацыю праславіць, —*
*Ну а што, як не між слоў, а сярод слова*
*Знак прыпынку іншы раз мне трэба ставіць?!.*

2011

## Перадкаляднае

*Гэтым прысвяткам посным*
*Пракляну ў цяжкай скрусе*
*Выпадковыя вёсны*
*І зіме памалюся.*

*Дай такія сумёты,*
*Як дарыла ў дзяцінстве,*
*Дзе з-пад неба я лётаў*
*З гор у санках — са свістам.*

*Замятай снегавеем*
*Палявое раздолле, —*
*Хай душа не гавее,*
*Хай іржышча не коле!..*

*Хай садзяцца на ўзлессі*
*Беласнежныя гусі, —*
*Як забытая песня…–*
*Гэтак я памалюся.*

*Гэтак мроя знікае*
*Ў безвыходнасць начную,*
*Гэтак сэрца гукае, —*
*Але хто ці пачуе?*

*Залачоныя вежы*
*Храм у неба ўзвышае.*
*Смехам чорным, бясснежным*
*Каляда пацяшае…*

2004

ТРЫБУНА

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА — ГАРАНТ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

## (ДАКЛАД НА ЧАРГОВЫМ XVI СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫМ З'ЕЗДЗЕ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»)

Алесь ПАШКЕВІЧ

Высокі З'езд!

Шаноўныя ўдзельнікі і госці нашага пісьменніцкага Форума!

Дарагія сябры і калегі!

Чарговы XVI справаздачна-выбарчы З'езд ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» адбываецца ў адметных умовах. Упершыню ў гісторыі Форум незалежных творцаў Беларусі выклікаў аграмадную ўвагу і салідарнасць нашых замежных калегаў. На адрас Аргкамітэта па падрыхтоўцы З'езда прыйшлі шэраг віншавальных тэлеграм і лістоў падтрымкі ад пісьменніцкіх саюзаў і аб'яднанняў Украіны, Расіі, Польшчы, Летувы, Швецыі, Славакіі, Чэхіі, Славеніі, Сербіі, Нямеччыны. Лепшыя творцы Еўропы — сярод іх дзве лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі па літаратуры Эльфрыда Элінэк і Герта Мюлер — не толькі падзяляюць нашую радасць ад мастацкіх наробкаў-здзяйсненняў, але і прасякнуты нашымі клопатамі і бедамі. <...>

На адрас З'езда, сярод іншых, прыйшлі Звароты Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады, Балтыйскай Пісьменніцкай Рады, ЗБС «Бацькаўшчына», Саюза шведскіх пісьменнікаў. <...>

У гэтым сардэчным гімне агульнапісьменніцкай салідарнасці сёння хочацца назваць і імёны нашых старэйшын — славутага беларуса свету Барыса Уладзіміравіча Кіта, які перадаў нашаму Форуму найсардэчныя правітанні і пажадаў плёну ў нашай агульнай дзейнасці, хочацца згадаць імёны Народных паэтаў Беларусі, якія з прычынаў нездароўя не змаглі сёння быць у гэтай зале — але звярнуліся да З'езда з «завочнымі» прамовамі ды выказалі сваю далучанасць да нашага Форума.

Упершыню ў гісторыі, паўтаруся, Форум незалежных літаратараў Беларусі выклікаў такую душэўную ўвагу і салідарнасць нашых замежных калегаў — і сардэчны клопат кроўных нам народных паэтаў Беларусі. І не ўпершыню — такую няўвагу да нас з боку дзяржаўных інстытуцый. Мы запрашалі ў гэтую залу — каб разам пагаварыць пра агульныя клопаты — і міністра культуры, і міністра інфармацыі, і міністра адукацыі. На жаль, іх — як бачым — няма, як не было на прыцягу пяці апошніх гадоў аніводнай прапановы ці хоць бы згадкі з тых дзяржаўніцкіх кабінетаў...



Фота А.Спрынчан

Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч і Стэфан Эрыксан

Зрэшты, пра нас згадвалі... У лютым 2010 года з подпісам аднаго з колішніх высокапастаўленых кіраўнікоў быў разасланы па ўсіх ідэалагічных упраўленнях адмысловы ліст — і распачалася беспрэцэдэнтная акцыя па шальмаванні і перасьледу членаў нашай афіцыйна зарэгістраванай творчай арганізацыі. Па ўсёй краіне беларускамоўных і рускамоўных паэтаў, празаікаў і крытыкаў пачалі выклікаць у дзяржаўныя інстанцыі ды ўльтыматыўна патрабаваць выйсці з СБП. Ганебныя і незаконныя «працэсы» мелі месца ў сталіцы і ўсіх рэгіёнах Беларусі.

Паводле нашага маніторынга, 83 літаратары патрапілі пад уладны прэсінг — і апынуліся перад выбарам: ці страчваць працу, ці выходзіць з «апальна-няскорнага» СБП. Хоць па Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (артыкул 36) «Кожны мае права на свабоду аб'яднанняў...», а Закон «Аб грамадскіх аб'яднаннях» (артыкул 6) запэўнівае: «Дзяржава гарантуе абарону правоў і законных інтарэсаў грамадскіх аб'яднанняў <...>. Умяшанне дзяржаўных органаў і службовых асобаў у дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў, саюзаў <...> не дапускаецца...».

Аднак паўтару зноў і зноў: гэта не Саюз беларускіх пісьменнікаў становіцца апазіцыйным сучаснай уладзе Беларусі. Сёння якраз улада вуснамі ды дзеямі дзясяткаў ці нават сотняў сваіх прадстаўнікоў актыўна супрацьстаіць Саюзу беларускіх пісьменнікаў.

Так, блізу 98% членаў нашай легальнай грамадскай старэйшай творчай арганізацыі гвалтам адарваныя ад дзяржаўных выданняў і выдавецтваў, радыё і тэлебачання — іх творы пісананяпісанымі «ўстаноўкамі» гадамі застаюцца забароненымі. А верныя традыцыям таварыша Бэндэ рэдактары «ЛіМа», «Полымя» ды іншых выданняў дзяржаўнага «холдынга» РВУ «Літаратура і мастацтва» апантана ідуць далей: толькі за два мінулыя гады «ўдарна» праігнаравалі і нават радком не згадалі пра юбілеі народных паэтаў Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча, пра юбілеі лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Генадзя Бураўкіна, Сяргея Законнікава, Анатоля Вярцінскага!.. А з апошняга — колішняга легендарнага галоўнага рэдактара «ЛіМа», насмеліліся, ап'янелыя беспакаранасцю, нават і публічна пакпіць-абразіць — назваць «злепленым геніем». <...>

Так, яны — услед за павадырамі — таксама ўжо становяцца не толькі бездакорнымі крытыкамі, але і пракурорамі, і суддзямі, «мякка кажучы». <...>

Шалеючы ад дотыкаў да ўладных лейцаў і ботаў, ад безгустоўнасці, усёдазволенасці ды элементарнай нявыхаванасці, яны — беларускія бэнды XXI стагоддзя — прыпадабняюцца да літпагромшчыкаў горкіх 30-х гадоў мінулага стагоддзя, і — як і іхнія папярэднікі — не ў стане, не ў сілах стварыць годнага нацыянальнага літпрадукта. Больш за тое: многія «правільныя» літаратары сваёй дзейнасцю ды нізкамастацкімі тэкстамі толькі дыскрэдытуюць сучасную беларускую літаратуру, адбіваюць і без таго слабую зацікаўленасць да яе чытача — бо найперш іх і прапагандуюць, і папулярызуюць, і закупляюць у беларускія бібліятэкі.

Згадаем і пра бібліятэкі, пра дзяржаўную падтрымку кнігавыдання... Паводле афіцыйнай інфармацыі, за 5 гадоў з дзяржбюджэта было выдаткавана звыш 16-ці млрд. рублёў на выпуск больш чым паўтысячы твораў агульным накладам у два мільёны асобнікаў. У гэтай зале сабраліся лепшыя пісьменнікі і не горшыя падаткаплацельшчыкі, — падніміце, калі ласка, руку, хто ўвайшоў у лік тых 500 згаданых у афіцыйнай статыстыцы аўтараў?! Ніхто...

Дык у каго найперш «рознагалоссе»: у нацыянальных незалежных творцаў з дзяржавай — ці ў дзяржавы з тымі творцамі? Ды і адкуль узрасло тое супрацьпастаўленне?

Прычынай таму — знак лёсу, прычынай таму — спрадвечная доля Беларусі, у якой сапраўдныя творцы-літаратары былі ды вымушаны заставацца яшчэ і дзяржаватворцамі, а ў літаратурным лоне ў вызначальныя часы нараджалася ды выспявала беларуская нацыянальная ідэя. <...>

Паважаныя сябры! Ужо 16-ы раз адбываецца агульны З'езд нашай творчай арганізацыі. І — як і большасць падобных папярэдніх форумаў — гэты З'езд — адметны. У гэтай зале нас сабрала неабходнасць пераканацца, што мы — разам. Пераканацца ў тым, што мы па-ранейшаму — адзінаверцы ў справе развіцця і захавання нацыянальнай культуры, — і, што б ні трызнілася нашым апанентам і недобразычліўцам, мы маем гонар быць у шэрагах найстарэйшай творчай арганізацыі Беларусі, якая — як і кожны сапраўдны літаратар паасобку — і сёння ў неспрыяльных, а часта і нечалавечых умовах працуе на карысць нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага грамадства, працуе дзеля яго дэмакратызацыі і культурнай прасветы. Саюз беларускіх пісьменнікаў, у шэрагах якога былі і застаюцца сотні найвыдатнейшых творцаў, на справе, а не — як тое робяць «больш правільныя за нас калегі» ў трыбунных запэўніваннях — трымаецца творчых і грамадзянскіх запаветаў сваіх колішніх чальцоў: Янкі Купалы і Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага і Уладзіміра Дубоўкі, Максіма Танка і Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі і Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча і Янкі Брыля, Васіля Быкава і Івана Шамякіна.

У гэтай зале мы сабраліся, каб кансалідаваць свае высілкі ў пабудове дэмакратычнай і незалежнай Беларусі, у якой не будзе месца дыктату, не будзе ганьбы над нацыянальнымі каштоўнасцямі (сімволікай, мовай і гістарычнай памяццю), не будзе непавагі да нацыянальных творцаў. Мы сабраліся, каб публічна адстойваць сваё права на свабоду творчасці, права на свабоду слова, свабоду думання — а таму найсімвалічна, што наш Форум адкрыўся ў Сусветны дзень праваў чалавека!

Урэшце, мы сабраліся, каб падзяліцца сваімі клопатамі і радасцямі, каб павесці размову аб сваіх здзяйсненнях, здабытках і недахопах — і ўласна пагаварыць пра Яе Вялікасць літаратуру.

### Магістральныя кірункі сучаснай беларускай літаратуры

З асноўных ідэйна-тэматычных магістралаў у развіцці сучаснага літпрацэсу грунтоўна вылучаецца — як і раней — пласт **нацыятворнай літаратуры.** Гэта ў абноўленых мастацкіх рэаліях працяг нацыянальных традыцый, працяг, які выяўляецца ў актыўнай спрычыненасці сучасных пісьменнікаў да пабудовы незалежнай еўрапейскай Беларусі. Сучасная нацыятворная літаратура адметная выразным грамадзянска-асветніцкім гучаннем, нацыянальна-патрыятычнай пафаснасцю. Яе сутнаснае ядро — нацыянальная ідэя, а выяўлялася яна ў апошнія пяць гадоў у розных жанрах гістарычнай прозы і драматургіі, а таксама грамадзянскай паэзіі, мемуарнай і дакументальнай літаратуры.

Найяскравае сведчанне таго — тысячы паэтычных публікацый: Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вярцінскага, Уладзіміра Някляева, Сяргея Законнікава, Васіля Зуёнка, Алеся Каско, Іны Снарскай і многіх іншых, — а таксама маладзейшых паэтаў: Ірыны Хадарэнкі, Усевалада Сцебуракі, Ірыны Бельскай, Алеся Емяльянава-Шыловіча...

Гістарычная проза вызначылася новымі каларытнымі публікацыямі: узнёсла-ваярскім раманам «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка» Леаніда Дайнекі, асветніцкім раманам «Знак Вялікага магістра» Вольгі Іпатавай, дэталёвым раманам пра мінуўшчыну Генрыха Далідовіча, «ньюкаркевічаўскімі» раманам-інструкцыяй «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» і раманам «Сутарэнні Ромула» Людмілы Рублеўскай, кранальнай аповесцю

«На вайне» Кастуся Тарасава, прыгодніцкім раманам «Воўчая выспа» Кастуся Цвіркі, раманам пра ўзаемаадносіны творцы і народа «Мастак і парабкі» Віктара Карамазава. Да згаданага рэчышча далучаецца і гісторыка-дакументальная проза: «віленскія штудыі» Леаніда Дранько-Майсюка, «Плошча» Барыса Пятровіча, дыпціх Валерыя Казакова «Крыж Еўфрасінні», а таксама гістарычныя п'есы Алеся Петрашкевіча (драма «Арліны лёт») і Сяргея Кавалёва, далучаюцца біяграфічныя нарысы-эсэ пра Купалу і Коласа Уладзіміра Някляева ды эсэістыка Сяргея Дубаўца, Міхася Скоблы, Алега Аблажэя, Сяргея Астраўца, Уладзіміра Сіўчыкава, новыя публікацыі пра «таямніцы гісторыі» Уладзіміра Арлова і Анатоля Бутэвіча, спавядальныя аповесці «Хроніка непрыкаянай душы» Генадзя Дзмітрыева, кніга «На выспе ўспамінаў» Валянціна Тараса, «Спроба заўчасных успамінаў» Аляксандра Лукашука, «Уваскрасенне ўчарашняга дня» Валянціна Блакіта, дакументальны нарыс пра спаленую вёску Дражна Віктара Хурсіка, «успамінныя хронікі» Ніла Гілевіча, Анатоля Кудраўца, Алеся Жука, Паўла Севярынца, Алеся Усені, Алеся Бяляцкага…

Паралельна з адзначаным нацыятворным магістралам — часта судакранаючыся ды перагукваючыся, распрацоўваецца **літаратура філасофіі быцця,** якая ў апошнія гады стала асноўнай. Яна акцэнтуе ўвагу на ўсведамленні катастрафізму чалавечага існавання, на глыбінных прыродных катаклізмах, нацыянальных, маральных, светапоглядных зрушэннях. Тут — хоць і прыціхлы ў часе — Чарнобыльскі боль. Тут — і аголена-метафарычныя прадчуванні Віктара Казько («Зазірнуць у вочы свайму «Я»», або «Сказ пра ката, каторы смяяўся», або нізка апавяданняў «Пра Моцю»), тут — і мройна-абстрактная кніга прозы Уладзіміра Някляева «Цэнтр Еўропы», і абстрактныя галасы-сведчанні герояў кніг Святланы Алексіевіч, і чуллівыя прыпавесці Франца Сіўко («Шула — мегаполіс», «Дзень бубна»), і «фрэскавыя заглыбленні» Барыса Пятровіча, і спавядальна-сімвалічныя аповесці Алеся Паплаўскага, і аповеды Міхася Андрасюка, і верлібравыя спасціжэнні Яна Чыквіна і Уладзіміра Арлова, і «Код адсутнасці» Валянціна Акудовіча, і раман «Партрэт мастака, нябачны ў сутонні» Ігара Бабкова, і футурыстычна-змрочныя аповесці Юрыя Станкевіча, і кнігі Данугы Бічэль і Славаміра Адамовіча, і раман «Гульня ў кахане» Алеся Масарэнкі, і аповеды Уладзіміра Дамашэвіча, Лідзіі Арабей, Вінцэся Мудрова, Лявона Вольскага, Ігара Сідарука, Віктара Ледзенева, Альгерда Бахарэвіча, Паўла Ляхновіча, Ігара Тумаша, Уладзіміра Міхно, Паўла Касцюкевіча, Алеся Аркуша, Дзмітрыя Падбярэзскага ды многіх іншых.

Асобна — годна і запамінальна — «крынічыць» у сучасным беларускім прыгожым пісьменстве яшчэ адзін ідэйна-тэматычны магістрал — **літаратура эстэтызму,** які дасягнуў у нашай нацыянальнай літаратуры свайго росквіту напрыканцы XX стагоддзя, а цяпер — спакойна радуецца тымі пладамі. Апяванню ідэалаў прыгожага, узнёслага і гарманічнага і надалей прысвячаюць свае творы — у паэзіі: Рыгор Барадулін, Валянціна Аксак, Эдуард Акулін, Аксана Данільчык, Юрась Пацюпа, Соф'я Шах, Аксана Спрынчан, Міхась Скобла, Галіна Тварановіч, Рыгор Сітніца, Алесь Дуброўскі, Валерыя Кустава, Васіль Жуковіч, Марыя Баравік, Лявон Валасюк, Алена Ігнацюк, Сяргей Панізнік, Ларыса Раманава ды іншыя, у прозе-эсэістыцы: Леанід Дранько-Майсюк, Віктар Карамазаў, Ала Сямёнава, Сяргей Астравец, Марыя Вайцяшонак, Мікола Касцюкевіч, Міраслава Навіш, Паліна Качаткова і многія іншыя.

Больш пашыраным, як і запатрабаваным, выглядае сёння і беларуская **літаратура эксперыменталізму,** якая — узрослая на авангарднасці — першай чуе новаеўрапейскія мастацкія павевы і, трэба прызнацца, першай і адаптуецца ў агульнаеўрапейскай літпрасторы (чаму сведчанні — і шматлікія пераклады, і многія супольныя паэтычныя выступленні ды фестывалі з удзелам Алеся Разанава, Вальжыны Морт, Віктара Слінкі, Веры Бурлак, Віктара Жыбуля, Андрэя Хадановіча, Дмітрыя Плакса, Зміцера Вішнёва, Віталя Рыжкова, Іллі Сіна, Алены Казловай (Анкі Упалы) ды дзясяткаў іншых — найперш маладзейшых — літаратараў).

Не зважаючы на складанасць апублікавання ды нізкую чытацкую запатрабаванасць за апошнія гады па-беларуску загучалі тысячы тэкстаў малых і вялікіх формаў сусветнай літаратуры: раманаў, аповесцяў, апавяданняў, эсэ, вершаў, п'есаў. Яны загучалі ў **перакладах** найперш дзякуючы працы Васіля Сёмухі, Рыгора Барадуліна, Лявона Баршчэўскага, Паўла Касцюкевіча, Валерыя Стралко, Галіны Дубянецкай, Уладзіміра Арлова, Алены Таболіч, Дмітрыя Плакса, Эдуарда Акуліна, Анатоля Бутэвіча, Андрэя Хадановіча, а таксама дзякуючы творчай актыўнасці суполкі інтэрнэт-часопіса перакладной літаратуры «Прайдзісвет», згуртаванай руплівай Юляй Цімафеевай. За апошнія гады без дзяржаўнай дапамогі мы маем па-беларуску анталогіі сучасных украінскай, літоўскай, аўстрыйскай, шведскай, польскай, амерыканскай, грузінскай літаратур, маем шыкоўныя выданні Сафокла, Эдгара По, Элізы Ажэшкі, Чэслава Мілаша, Рышарда Капусцінскага, Сільвіі Плат, Аляксандра Ірванца, Біруты Янушкайтэ ды многіх-многіх іншых вядомых за нашымі межамі аўтараў.

У галіне **крытыкі** і **літаратуразнаўства** ў апошнія гады найбольш актыўнічалі Леанід Галубовіч, Ала Сямёнава, Анатоль Сідарэвіч, Галіна Тычка, Маргарыта Аляшкевіч, Людміла Рублеўская, Ірына Шаўлякова, Алеся Лапіцкая, Ціхан Чарнякевіч, Сяргей Грышкевіч, Ігар Запрудскі, Павел Абрамовіч, Пятро Васючэнка ды іншыя.

## Арганізацыйна-асветніцкая дзейнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў

Дарагія сябры! Як большасць з вас памятае, асноўнымі даручэннямі мінулага З'езда новаабранаму кіраўніцтву СБП былі:

- стварэнне даступнай для грамадства інтэрнэт-бібліятэкі, дзе б маглі свабодна змяшчацца неапублікаваныя творы;
- выпуск уласнага бюлетэня-газеты;
- здабыццё ўласнага памяшкання і
- дапамога ў арганізацыі літаратурных святаў ды выступленняў.


Фота А.Спрынчан
Уладзімір Ягоўдзік і Алесь Каско


Фота www.budzma.org
Паэтэса Марыя Баравік

Што ж з акрэсленага пяць гадоў таму здзейснена?

Сёння існуе і стала найпапулярнай электронная бібліятэка «Камунікат», створаная і пры спрыянні СБП, электронная бібліятэка, дзе ў многіх беларускіх літаратараў змешчаны не толькі асобныя творы, але ёсць і асобныя «падсайты». Сама ж наша арганізацыя сёння мае свой сайт lit-bel.org, які сярод літаратурных сайтаў Беларусі стала займае па папулярнасці-наведвальнасці трэцяе месца.

З 2007 года пачало рыхтавацца і перыядычна выдавацца незалежнае выданне СБП «Літаратурная Беларусь» — дадатак да газеты «Новы час» (выходзіў накладам 3, затым 6 тысячаў асобнікаў фарматам А3, цяпер жа маем 7000 асобнікаў, што ўдвая пераўзыходзіць наклад сённяшняга «дзяржаўнага» «ЛіМа»). Усяго за гэты час выйшла 62 нумары «Літаратурнай Беларусі» (якія ва ўсім свеце даступныя ў электронных версіях), на старонках якой абнародаваны больш за тысячу твораў 180-ці сяброў нашага Саюза. І выданне ахвотна чакае як сталых, так і новых аўтараў — найперш з гэтае залы!

Ужо трэці год перыядычна укладаецца, выдаецца і распаўсюджваецца па бібліятэках Беларусі, па кнігарнях і беларусазнаўчых цэнтрах рэкламны бюлетэнь СБП і ЗБС «Бацькаўшчына» «Кнігаюша» (раз у два месяцы, фармат А4, 8 стар.) — з анатацыямі і вывамі вокладак беларускіх кніг незалежных выдавецтваў.

Саюзам беларускіх пісьменнікаў запачаткавана і выдаецца свая кніжная серыя «Кнігарня пісьменніка», — за апошнія 2 гады выйшла 17 кніг. <…>

Пры падтрымцы СБП выйшлі ў свет тры альманахі Брэсцкага абласнога аддзялення «Жырандоля».

Нельга аддзяліць сёння ад Саюза і два літаратурныя часопісы: «Дзеяслоў» і «Верасень», якія рэдагуюць намеснікі старшыні СБП.

Пад эгідай нашай арганізацыі ў бліжэйшыя месяцы пачне выдавацца альманах перакладной літаратуры «Прайдзісвет» ды распачне сваю працу новы праект «Літаратурнае Радыё».

Усё агучанае — чым не наш, незалежны «літаратурны холдынг»? Ці марылі мы аб тым пяць гадоў назад? <…>

Што яшчэ?

Праведзены дзясяткі семінараў, канферэнцый, конкурсаў: па дзіцячай літаратуры, па праблемах сучаснай крытыкі, па гендэрнай роўнасці, па пытаннях аўтарскага права — з прыцягненнем еўрапейскіх і айчынных спецыялістаў, выдаўцоў і літаратараў, <…> па святкаванні 100-годдзя Ларысы Геніюш (супольна з ЗБС «Бацькаўшчына» і ТБМ); <…> па ўшанаванні памяці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, <…> агульнарэспубліканскі літаратурны конкурс «Жанчына ў сучасным грамадстве», «Свята духоўнай паэзіі», літаратурныя чытанні «Бабіна лета Ніны Мацяш», якое штогод ладзіцца ў Белаазёрскім Доме культуры, а таксама паэтычныя чытанні на радзіме Анатоля Сыса ў дзень ягоных народзінаў, як і мерапрыемствы з нагоды пісьменніцкіх юбілеяў: 90-годдзя Івана Мележа і Івана Шамякіна, а таксама юбілеяў Тараса Шаўчэнкі і Лэсі Украінкі (Мінск і Брэст). <…>

Значнымі падзеямі сталі і нашыя літаратурныя конкурсы, сярод якіх: літаратурная прэмія імя М. Багдановіча «Дэбют» — у намінацыях паэзія, проза і пераклад (супольна з ПЭН-цэнтрам) і конкурс на лепшую другую кнігу (пераможцы атрымалі магчымасць выдаць яе пры спрыянні СБП бясплатна). <…>

Надзвычай плённай была нашая супраца з беларускімі літаратурнымі і культурніцкімі праектамі: «Дзеяслоў», «Верасень», «Прайдзісвет», «Галерэя Ў», а найперш — «Будзьма беларусамі!». У Мінску і ва ўсіх рэгіёнах Беларусі ў перыяд з лістапада 2008-га па лістапад 2011 года арганізавана і праведзена 810 сустрэч-выступленняў сяброў СБП — як арганізацыі-сузаснавальніцы згаданай грамадскай кампаніі «Будзьма беларусамі!». Заўважце, сустрэч рэальных, а не папяровых. Чым не адноўленае ў новым фармаце колішняе Бюро прапаганды СП? Колькасць жа ўсіх праведзеных за апошнія 5 гадоў літаратурных сустрэчаў сяброў нашага Саюза дасягае дзвюх тысяч! <…>

## Міжнародныя літаратурныя ўзаемадачыненні

За апошнія гады СБП годна і пачэсна інтэграваўся ў еўрапейскую пісьменніцкую прастору: нашая арганізацыя — адна з усіх пісьменніцкіх арганізацый СНД — стала паўнапраўным членам Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады (штаб-кватэра ЕПР — у Брусэлі, у названую міжнародную арганізацыю ўваходзяць 55 пісьменніцкіх аб'яднанняў Еўрапейскага Саюза). Акрамя таго, СБП ужо чацвёрты год — член Балтыйскай Пісьменніцкай Рады.

Найбольш плённымі і трывалымі застаюцца нашыя сяброўскія сувязі з Саюзам пісьменнікаў Летувы, Саюзам пісьменнікаў Масквы, Саюзам расійскіх пісьменнікаў, Саюзамі пісьменнікаў Швецыі, Украіны, Грузіі, Польшчы, ПЭН-цэнтрамі Славакіі і Расіі.

Як вынік — удзел у дзясятках літаратурных фестываляў і — цэлая «перакладная» бібліятэка беларускіх сучасных аўтараў на мовы свету, а менавіта: тры «польскамоўныя» анталогіі, «літоўская», «чэшская», «шведская», «французкая», «руская», тры сумесныя «літоўска-беларуска-польскія» альманахі.

Па-руску выйшаў часопіс «Сибирския огни», цалкам складзены з твораў беларускіх аўтараў, і кніга паэзіі Рыгора Барадуліна «Апракінутае-Перавёрнутое». Папольску выйшлі кнігі Уладзіміра Арлова, Святланы Алексіевіч, Наталкі Бабінай, Альгерда Бахарэвіча, Андрэя Хадановіча, Лявона Баршчэўскага. Па-ўкраінску — кнігі Алеся Пашкевіча, Андрэя Хадановіча, Наталкі Бабінай. У Нямеччыне апублікаваныя кнігі Алеся Разанава, Святланы Алексіевіч, Артура Клінава, Альгерда Бахарэвіча. Па-шведску выйшлі кнігі Барыса Пятровіча, Дзмітрыя Плакса, Андрэя Хадановіча, Артура Клінава. У Беларусі апублікаваная анталогія беларускіх паэтаў па-французску, а таксама зборнік перакладаў беларускай паэзіі па-руску Івана Бурсава, у перакладах на замежныя мовы з'явіўся зборнік паэзіі Сяргея Панізніка.

Значным застаецца ўдзел і прадстаўленне СБП у Міжнародным кангрэсе пісьменнікаў і літаратурных перакладчыкаў «WOLTIC» (Стакгольм, 2008, Стамбул, 2010); правядзенне літаратурнага конкурса, прысвечанага Ларысе Геніюш і «Месяца беларускай літаратуры ў Брно» (сумесна з ПЭН-цэнтрам); шматразовыя ўдзелы ў літоўска-беларуска-польска-грузінскіх паэтычных форумах (Летува), правядзенне ў Беларусі і ўдзел у сустрэчах (круглых сталах) з літаратарамі замежжа, а таксама распрацоўка прапановы і перамовы з НСПУ і ўкраінскімі ўладамі аб увекавечванні памяці і правядзенні ўрачыстых мерапрыемстваў з нагоды 80-годдзя Уладзіміра Караткевіча, хадайніцтвы і перамовы з Дзяржкамітэтам Украіны аб выданні выбраных твораў Васіля Быкава ў перакладзе паўкраінску; аб выданні выбранага Сяргея Грахоўскага ў перакладзе па-ўкраінску.

## Мова лічбаў і знак мовы

Паважаныя сябры! Ну а цяпер давайце на хвіліну адарвёмся ад нашых уласных клопатаў — і пабачым, што робіцца за сценамі нашых працоўных кабінетаў? За сценамі гэтае залы. Як і хто нас чытае? На якой мове і дзе набываюць нашыя кнігі?

Працяг на стар. 18 (10) ►

ТРЫБУНА

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА — ГАРАНТ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Працяг. Пачатак на стар. 8–9 (16–17).**

СБП адмыслова замовіў прафесійнае сацыялагічнае апытанне на гэты конт. Былі вывучаны думкі людзей розных узростаў (ад 18 да 70 гадоў) і сацыяльных груп з Мінска і ўсіх рэгіёнаў Беларусі.

Дык вось — увага! — на пытанне «На якой мове Вы чытаеце мастацкую літаратуру?» 82,5 % адказалі «На рускай», «Не чытаю наогул» — адказалі 17,3 %, і толькі 13,8% жыхароў Беларусі чытаюць мастацкую літаратуру па-беларуску!!! (Гэтыя статыстычныя дадзеныя агучваюцца ўпершыню — і, паверце, паўтарацць іх — не хочацца!)

На пытанне «Як часта вы чытаеце літаратуру на беларускай мове?» адказалі наступным чынам: «Раз у тыдзень» — 3,0%; «Раз у месяц» — 3,7%; «Раз у год» — 13,3%; і «Не чытаю наогул» — 80,0%...

Вось так!!! Такая рэальная жахлівая карціна… Беларускі народ перастаў, не можа, урэшце не ўмее і не хоча чытаць па-беларуску: ні Быкава, ні Караткевіча, ні нават новую замоўленую «Вайну і мір», бо на пытанне «Пры якой умове вы б аддалі перавагу твору аўтара на беларускай, а не рускай мове?» 68,4 % адказалі: «Ніколі»!.. Ці можаце ўявіць?!!

На пытанне «Каго з сучасных беларускіх пісьменнікаў вы ведаеце (ці чулі пра іх)?» нашыя суграмадзяне адказалі — да ведама — наступным чынам: «Не ведаю нікога» — 74,6 %!!! З усіх, хто нас чытае, прызналіся ў тым, што знаюць: Васіля Быкава — 6,5 %, Караткевіча — 3,8 %, Шамякіна — 3,2 %, Някляева і Алексіевіч — 2,8 %, Коласа — 2,4 %, Купалу — 2,2 %, Гілевіча — 1,9%, Барадуліна — 1,3%, Мележа — 1,1 %, Іпатаву — 0,8 %, Багдановіча і Брыля — 0,4 %, Генюш — 0,1 %!

Установа, якая праводзіла гэтае сацыялагічнае апытанне, вельмі кампетэнтная — і, на жаль, не верыць ёй няма падставаў…

Хто давёў народ-чытача да такога становішча?! Ці толькі адны мы — пісьменнікі — вінаваты ў тым?! 61,4 % тых жа рэспандэнтаў на пытанне «Як вы ацэньваеце дзейнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў?» адказалі: «Станоўча»!..

Таму закончыць я хачу тым, з чаго мы ўсе — як і наш народ — паўсталі і «ўскормлены суць па Бозе»: мовай, нашай роднай мовай, мовай тытульнай нацыі Беларусі. Правільней — неадчэпным моўным болем, ужо амаль невылечным, пасля якога — смерць…


Фота www.budzma.org
Галасаванне

Беларусь (раней — Літва, Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае) паступова перад паўстаннямі 1830 і 1863 гадоў падпала пад паланізацыю, а пасля трапіла пад уладу Расейскай імперыі. А беларуская мова — у пятлю Мураўёвых-вешальнікаў. З тых часоў аніяк не закончыцца барацьба за «душу» нашага народа. Асноўныя «баталіі» як распачалі некалі ў навучальных установах — так і не спыняюць, праз стагоддзі перакананыя: «то, что не сделал русский штык, доделает русский язык». І мала што змянілася ў высновах-інструкцыях нашым настаўнікам яшчэ з таго, 1863 года: «Учить на белорусском жаргоне — нелепость». *«ЛитератУры белорусской нет и не было, и создавать искусственным образом белорусский литературный язык представляется не чем другим, как пустым доктринёрством»,* — рэкаў-вяшчаў нейкі прысланы на нашыя землі з Пецярбурга чыноўнік-інспектар Шчабальскі (архівы ўсё захавалі). Рэкаў — у XIX стагоддзі, і да сёння яго ледзь не даслоўна паўтараюць ягоныя некаторыя надзвычай апантаныя нашчадкі. Хіба «інструкцыі» нядаўняга беларускага міністра адукацыі з забаронай на сустрэчы з беларускімі народнымі паэтамі, «высочайшие» «адкрыцці» аб тым, што на беларускай мове нічога высокага не створыш — не аднаго поля ягады?!

І сёння многім мёдам на вусны і дырэктывай на сэрца кладуцца «дзяржаўныя» словы колішняга генерал-губернатара Мураўёва (хай прагучаць у арыгінале): *«В Северо-Западном крае так называемую мову необходимо свести на ничто, потому что если этого не сделать, она постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этничную самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя»…*


Фота www.budzma.org
Алесь Разанаў

І не дапускалі. І — не дапускаюць!

*«У нас няма праблем з беларускай мовай. Не трэба хваляваца, ці не знікне беларуская мова і літаратура, таму што дзяржава падтрымлівала і падтрымлівае ўсё наша нацыянальнае, айчыннае, усё, што створана тут самае лепшае»,* — нядаўна заявіў на прэсавай канферэнцыі ў Гомелі намеснік міністра адукацыі Казімір Фарына. Сказаў, як у сук урэзаў, сказаў — пасля правядзення школьнай алімпіяды з паказальнай назвай «Расія і Беларусь: гістарычная і духоўная еднасць».

Еднасць — еднасцю, а праблема — праблемай. Як і боль — болем…

Беларуская мова — як найгалоўны складнік нашай нацыянальнай адметнасці — сёння становіцца апошнім гарантам і нашай незалежнасці. Так, так і толькі так! Бо ўжо ніштo — ні эканоміка, ні — як выглядае — палітыка не могуць гарантаваць нам — канкрэтным грамадзянам Рэспублікі Беларусь — незалежнасці. *«100%-ая зависимость по энергоресурсам. 85% энергетики Белоруссии — на российском газе. Вся нефтепереработка и нефтехимия — на российском сырье. Львиная доля машиностроения — кооперационная. Плюс рынок реализации российский <…> Экономика Беларуси на 100% зависит от России…»,* — таксама нядаўна выказаўся Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Аляксандр Сурыкаў. Уяўляеце: нават не на 80, не на 90%, а на ўсе 100, напоўніцу! І ягоным словам аніхто публічна з беларускіх чыноўнікаў не запярэчыў!

Дык у чым жа тады яна — наша незалежнасць? Дзе яна?! У сучаснай эканоміцы? Дзе?! У спорце? На жаль!.. Яна — нашая нацыянальная незалежнасць — палягае якраз у ёй — у беларускай мове!!! Бо анічога больш значнага, багацейшага ды каштоўнага мы, беларусы, у сусветным абшары не стварылі! Загіне яна, беларуская мова, — назаўтра будуць адпяваць і Рэспубліку Беларусь. Не стане мовы — і не стане на ўсходзе нашага краю асобнай беларускай мяжы…

І таму сёння ўсе носьбіты беларускай мовы — у тым ліку і мы, творцы, — мусім пачуваацца як на апошнім рубяжы абароны: і дзяржавы, і нацыянальнай незалежнасці, бо перад нашымі вачыма, бо за нашымі спінамі праводзяцца ўжо пункціры новай «Северо-западной губернии»… А калі і не так — дык усё роўна: што ж за Беларусь такая будзе — без беларускай мовы?! Ды і ці будзе яна?..

Высокі З'езд! Многае мы страцілі, аднак шмат і захавалі, прымножылі. І хай і надалей кожнага з нас мацуе вера ў значнасць нашай працы і вера ў сілу вольнага слова! Няхай і надалей гэтыя сіла і вера яднаюць нас у высакароднай справе служэння роднаму слову і народу! Няхай і надалей нас яднаюць любоў да сваёй нацыянальнай самабытнасці і прага да вольнага самавыражэння. Запарука нашага посьпеху, наша непераможная зброя — кніга. Будзе беларуская кніга — будзе Беларусь.

Шчыра заклікаю ўсіх вас, Скарынавых нашчадкаў, і надалей годна і няскорна працаваць — не зважаючы на песімістычнае ліхалецце. Працаваць так, каб і праз дзесяцігоддзі ў вачах будучых беларусаў не выглядаць прыстасаванцамі, здраднікамі, паслугачамі. Каб не было сорамна ні перад сабой, ні перад светам.

Будзем годнымі даравананага нам нябёсамі таленту і аказнасці — тварыць!

Паважаныя сябры! Дзевяць гадоў майго старшынства ў СБП — гэта для мяне сапраўдная і жыццёвая, і творчая акадэмія. Я ганаруся тым, што ў свае яшчэ 30 гадоў быў абраны кіраўніком старэйшай — тады яшчэ адзінай — творчай арганізацыі, у якой на той час былі Янка Брыль і Іван Навуменка, Васіль Быкаў і Іван Шамякін. Я сардэчна ўдзячны за супрацу і падтрымку сакратарыяту Саюза, маім намеснікам, паважанай Радзе СБП — і за паразуменне, і за агульную творчую і грамадзянскую волю. Я ганаруся тым, што наш Саюз ацалеў і пашырыў свой аўтарытэт як незалежнай і ўплывовай арганізацыі. Я радуюся, што, урэшце, многім з вышэйзгаданага ў маім дакладзе сёння можна пахваліцца.

Урэшце, я сёння магу спакойна глядзець усім вам у вочы — пасля публічнай кампаніі па маім ачарненні, інспіраванай Васілём Якавенкам. <…> Усё лета мы праходзілі праверкі — і ўсе адпаведныя інстанцыі злоўжыванняў ды іншых «грахоў» у нашай працы не выявілі!..

Я ўдзячны сваім паважаным калегам і за разуменне, і за падтрымку, і — нават — за прапановы зноў трэці раз балатавацца на пасаду старшыні. Аднак я — не прыхільнік зменаў канстытуцыі нашага Саюза — нашага Статута, паводле якога адна асоба не можа абірацца кіраўніком больш чым два разы запар. Урэшце, хочацца прыслухацца да некалі прысвечаных мне мудрым Рыгорам Барадуліным радкоў:

*Лезь, Алесь, на Алімпавы ўзроўні,*
*Як у неба цыган па драбінах.*
*На пасадзе патрэбна здароўе,*
*Каб застацца пасьля ва ўспамінах,*
*Каб было ня страшна ані*
*Жыць бяз тытулу старшыні…*

Такім чынам, мая прамова на гэтым З'ездзе — не толькі справаздачная, але і развітальная…

Новаабранаму ж кіраўніцтву СБП я жадаю і надалей упэўнена і мэтанакiравана ісці нашым агульным Беларускім Шляхам, быць актыўным і няскорным, быць годным памяці сваіх літаратурных першапачынальнікаў, аб'ядноўвацца вакол асноўных мэтаў і задачаў нашай арганізацыі. А яны ў нас былі і застаюцца непарушнымі: абарона творчых, прафесійных і сацыяльных правоў пісьменнікаў, адстойванне свабоды слова як першаснай перадумовы творчасці, клопат пра нацыянальную літаратурную спадчыну, развіццё і прапаганда беларускай літаратуры, умацаванне міжнародных літаратурных сувязяў, спрыянне перакладам нашых творцаў на замежныя мовы.

Жадаю ўсім духоўнай і фізічнай моцы, жадаю ўсім дабрабыту, лёсавага і нябеснага спрыяння!

Дзякуй за ўвагу.

Жыве беларуская літаратура — жыве Беларусь!!!

**Друкуецца ў скароце.**

АПАВЯДАННІ

# «ВАЙНА І МІР»

Лідзія АРАБЕЙ



Пісьменнік Алесь Недапечка прачнуўся ў вельмі кепскім настроі. Снілася нешта мутарнае, а што — дык і не ўспомніш, толькі мутарнасць засталася і тады, калі падняўся з ложка. Пайшоў у ванную, спаласнуў крыху твар, паставіў чайнік на пліту, адчыніў халадзільнік.

Халадзільнік разявіў пустое, як бяззубы рот, нутро, нічога ў ім не ляжала: ні кілбаскі, ні сыру, валяўся нейкі абсмоктаны кавалачак сала, што тыдзень таму прывезла цешча з вёскі.

Недапечка палэпаў па кішэнях, шукаючы грошай, каб схадзіць у магазін ды нешта купіць, але кішэні былі пустыя. Адчыніў шафку, куды жонка часам клала палучку, — і там было пуста. Ён хадзіў па пустой кватэры — дзеці былі ў школе, жонка на рабоце. Трэба было нешта рабіць, каб узбіцца на якія купюры.

Успомніў раптам, як прэзідэнт звяртаўся да пісьменнікаў: «Напішыце мне «Вайну і мір», і я вам грошай не пашкадую».

Недапечка спыніўся каля пустога халадзільніка.

«А што ты думаеш! — пачухаў ён за вухам. — Не святыя гаршкі лепяць»…

Гэта думка падбадзёрыла Недапечку. Ён пайшоў у свой кабінет, сеў за пісьмовы стол — свой аўтарскі варштат, з-пад якога даўно ўжо не выходзіла ніякай прадукцыі. Паклаў перад сабою стосік паперы, падумаў — і паклаў яшчэ стосік, пісаць дык пісаць, «Вайна і мір» вунь на колькі тамоў цягне. Я, брат Талстой, можа, не горш за цябе напішу, можа, яшчэ цябе пераплюну, — падумаў сам сабе Недапечка. Узяў ручку, задумаўся. Як жа пачаць? Як там у Талстога? Але як у Талстога, дакладна не памятаў.

«Не, трэба па-свойму пачынаць, — вырашыў Недапечка. — Вось зараз прыдумаю».

Але колькі ні думаў, не мог напісаць ніводнага радка. Вырашыў, што трэба прыняць нейкі допінг.

Успомніў, што ў адной бутэльцы заставалася крыху самагонкі, якую зноў-такі прывозіла цешча. Пачаў шукаць. Знайшоў у шафцы, на ніжняй паліцы. Узяў бутэльку. Ого! Дык тут жа амаль палавіна!

Наліў паўшклянкі, выпіў. Пайшоў да стала, прысеў, зноў задумаўся. Але ў галаву нічога не прыходзіла, акрамя нейкага глупства. Круціліся абрыўкі вершаў сябра-паэта, якога ў думках сам лічыў бездарам. У галаве ад самагонкі крыху закруцілася, але слаба, і Недапечка вырашыў дабавіць. Выліў у шклянку рэштку самагонкі, выпіў і зноў сеў за стол.

Аднак і допінг не памагаў: не мог прыдумаць, якімі словамі пачаць свой шэдэўр. Допінг дзейнічаў неяк наадварот, не праясняў мазгі, а затуманьваў, нават на сон пацягнула. І Недапечка сам не заўважыў, як схіліў галаву на чыстую, не кранутую чарнілам паперу, і заснуў. І бачыць ён у сне, як прыйшоў да яго сам Леў Талстой, з доўгай сівою барадой, у блузе, падперазанай паскам — тую блузу потым пачалі называць талстоўкаю; спыніўся геніяльны пісьменнік перад Недапечкам і пытаецца:

— Што ты тут робіш?

— Ды вось, пішу «Вайну і мір», — адказвае Недапечка.

— А навошта табе пісаць «Вайну і мір», калі яна ўжо напісана?

— Разумееце, — пачаў тлумачыць Недапечка, — грошы вельмі патрэбныя, а прэзідэнт абяцаў…

— Дык ты пра іншую вайну пішы, пра тую, што пры табе была, яна куды страшнейшая за Напалеонаўскую, там армія з арміяй ваявала, а ў гэтай вайне колькі народу мірнага загінула… Ды вы яшчэ ў іншыя войны лезлі, у Аўганістан… Вось пра Аўганістан і пішы.

— Што вы, Леў Мікалаевіч, пра Аўганістан наш пісьменніцкі начальнік піша, ён сам там ваяваў, як воін-інтэрнацыяналіст. Дзе мне да яго…

— Дык ты з ім баішся спаборнічаць, а мяне вырашыў пераплюнуць?

І здалося Недапечку, што вочы ў класіка загарэліся нядобрым агнём.

— Вельмі грошы патрэбны, Леў Мікалаевіч, — апраўдваўся Недапечка.

— Грошы, грошы, усё вы на грошы мераеце, — раззлаваўся Леў Талстой і пляснуў далонню Недапечку па карку. Пляснуў раз, і другі раз.

Прачнуўся Недапечка, падхапіўся, агледзеўся. А гэта жонка: у адной руцэ трымае пустую бутэльку ад самагонкі, а другою яго па карку пляскае ды прыгаварвае:

— Напіўся, як парсюк, а хто грошы зарабляць будзе, усё я ды я?

Недапечка адвёў яе руку.

— Ціха, ціха, скора зараблю… Вось, «Вайну і мір» напішу…

# ЛІСТЫ ДА КАХАНАЙ

Сяргей ВЕРАЦІЛА



**I.** Я доўга глядзеў на зоры, я нат спрабаваў лічыць іх, і я адчуў амаль фізічна, што нашая Зямля, уся наша Зямля — толькі маленькая выспа. І куды б я ні паехаў, нат за паўтысячы міляў, а два закаханых сэрцы будуць побач.

Штоноч, кладучыся спаць, я слухаю сваё сэрца, і за ягоным стукатам я разбіраю яшчэ адзін чароўны рытм: стукат твайго сэрца.

Але паспрабую заснуць.

**II.** Не запытвайся — чым жывы, бо калі адкажу, што жывы табою, гэта прагучыць фальшыва крыху і зусім ужо банальна.

Я — як усе. Жыву звычайна і за грошы. Крыху хварэю. Крыху сумую. Крыху пакутую. Крыху смяюся.

Усяго пакрысе. Дзень за днём крышыцца маё жыццё.

**III.** Сёння ўвечары я спрабаваў рэканструяваць мінулы дзень. Слова мне падалося даўжэйшым за яго. Пасміхнуўся.

Складаў падзеі адна да адной. Але ўсё сыпалася, адныя аскепкі. Раззлаваўся.

З гэтага занятку выбіўся са сну. Спачатку спрабаваў ляжаць з заплюшчанымі вачыма. Стаміўся.

Потым сядзеў на ложку і тупа лавіў рух стрэлак на цыферблаце. Ноч падалася даўжэйшаю за жыццё. Нарэшце вачыма злавіў тую стрэлку: палова на пятую. Адзначыў.

Лёг і адразу абрынуўся ў сон, альбо сон абрынуўся на мяне. Усё адно бездань. І на дне гэтай прорвы знаходжу тваю ўсмешку. Усміхаюся ў адказ. Рэканструкцыя.

**IV.**Назіраў за надвор'ем: вясна пачынаецца з галечы, вясна пачынаецца з вільгаці. Няўжо трава мае залёны колер? Пад газонам праходзіць цеплатраса і там снег сыйшоў у першую чаргу. І праўда, трава зялёная!

Назіраў за морам. Затока поўная крыгамі, а рака іх прыносіць і прыносіць. Маленькі ледакол трушчыць іх, трушчыць, а мне даспадобы ягоная працавітасць.

Я прыдумваю метафару: закаханае сэрца — гэта ледакол.

І ўсё ж вясна позніцца. Шэрае неба і шэрае мора нібыта просяць міласці. Затока поўная крыгамі. Неба абклалі хмары. А маё сэрца, яно зусім не ледакол, яно просіцца да кахання.

**V.** Лёг і ляжу. І не таму, што захацелася, а проста так.

Нікуды не спяшаюся. Не лічу нагамі прыступак. Не пазіраю на гадзіннік. Не мераю шляхоў. Не імкнуся заняць чаргу. Нічога не запамінаю.

Так шмат адмаўлення і не проста так, а таму што захацелася.

**VI.** Хачу глыток сапраўднага святла, хачу ў далонях цёплы вецер затрымаць. А дождж халодны б'е па твары і непрыемна-казытліва трапляе за каўнер.

Сушу галаву рушніком; як добра, што валасы кароткія, таму працэдура не аднімае шмат часу. І пакуль у кубку грэецца вада…

Вакно нямытае з вясны мінулай падслепавата сузірае, як прарастае калюжына новаю вадой: а дзеці ў лужыне нагамі ў чырвоных ботах зацята месяць гразь. Штурхаюць адзін другога ў грудзі і весела смяюцца, калі хто ўпадзе. Такая ў іх гульня. Ім весела. А я ўяўляў пра што павінна думаць ты ў той час, калі я ўвогуле ні пра што не думаў.

Вада закіпела…

**VII.** Два аркушы паперы. Капэрта. Марка. Пошта. Час разарваны звяжа. Думаю. Не, не варта было ехаць.

КАЛЯЛІТАРАТУРНЫЯ ФРАШКІ

# РАЯЦЦА РЫФМЫ

Міхась МІРАНОВІЧ

### Рыфма

*Такі ўжо дзіўны*
*Гэты свет:*
*Чамусь грашаць*
*Нярэдка:*
*Жаночай рыфмаю —*
*Паэт,*
*Мужчынскаю —*
*Паэтка.*

### Санеты і байкі

*Вершы пішуць, як вядома,*
*Не святыя.*
*Рэзюмірую,*
*Каб прыпыніць дэбаты я:*
*Да санетаў*
*Маюць схільнасць халастыя,*
*Што да баек —*
*Больш складаюць іх жанатыя.*

### Паэты

*Ёсць паэты-пачаткоўцы,*
*Ёсць масітыя,*
*Знакамітых кола,*
*Мо, наўмысна звужана.*
*Ёсць паэты,*
*Незаслужана забытыя,*
*Шмат і тых,*
*Каго мы помнім незаслужана.*

### Паэтамі нараджаюцца

*Асобныя са мною*
*Не згаджаюцца,*
*І што ні дзень —*
*То спрэчкі зноў адновяцца:*
*Паэтамі, вядома,*
*Нараджаюцца,*
*Вядомымі ж паэтамі —*
*Становяцца.*

### Многа паэтаў

*Паэтаў нешта*
*Многа стала ў нас,*
*І хтосьці з чыноў*
*Глядзіць на гэта коса.*
*А я скажу,*
*Як гаварыў не раз:*
*— ...Хай лепей вершы пішуць,*
*Чым даносы!..*

### Літаратурныя тытулы

*Будзе з бронзы*
*Манумент адліты*
*Тым, хто тытул*
*Пажыццёвы мае:*
*Той — масціты,*
*Гэты — знакаміты,*
*Той — без тытулаў,*
*Але яго чытаюць...*

### Раяцца рыфмы

*Цудоўна летам,*
*Што ні гавары,*
*На беразе рачулкі*
*Паваляцца!*
*Над галавой*
*Таўкуцца камары,*
*А ў той час рыфмы*
*Ў галаве раяцца...*

### Паэты пішуць для паэтаў

*Шмат у паэзіі*
*Сакрэтаў —*
*Спасцігнуць іх*
*Не ўсяк сумее.*
*Паэты пішуць*
*Для паэтаў —*
*Ніхто іх больш*
*Не разумее.*

### Запозненая любоў

*Растлумачце:*
*Якая ў тым мэта,*
*Адкажыце разумна:*
*Чаго*
*Мы любіць пачынаем*
*Паэта,*
*Як зжылі ўжо*
*Са свету яго?*

### Імя ў мастацтве

*Меціш у паэты,*
*Мастакі?*
*Дык надзейна*
*Для сябе зацям:*



*Празвішча*
*Даюць табе бацькі,*
*А імя —*
*Ты робіш сабе сам.*

### Высмактаны сюжэт

*Вядомы пладавітасцю*
*Паэт —*
*Ён можа з пальца*
*Высмактаць сюжэт.*
*І болей мог бы —*
*Што ўжо тут хаваца?!.*
*Ды толькі неахвота*
*Разуваца!..*

### Папулярнасць

*Паэта гэтага*
*Вазьмі ты —*
*Усюды ён*
*Вядомасць мае,*
*І ўжо ж настолькі*
*Знакаміты,*
*Што нават трасца*
*Яго знае!..*

### Літаратурны фронт

*Не кранаді мяне*
*Палітычныя буры,*
*Бо быў недаспадобы*
*Публічны афронт.*
*Я збіраўся адседзецца*
*Ў літаратуры —*
*Ды й па ёй ад нядаўна*
*Праходзіць стаў фронт.*

ФРЭСКІ

# ЦЕНЬ ЗАКАХАНЫ

Барыс ПЯТРОВІЧ


Фота www.budzma.org

## Да каміна дажыць

У кожнага чалавека ў любым узросце ёсць мара. Пэўная ці не пэўная, названая ці не названая, усвядомленая ці неўсвядомленая, таемная ці не таемная… Мары маюць асаблівасць з-бывацца і за-бывацца. Але і ў адным, і ў другім выпадку яны падмяняюцца іншымі. Чалавек не можа жыць без мары. Так, але часам бывае ў чалавека адна мара на ўсё жыццё.

Я ведаў такога чалавека.

Калі вы, прачытаўшы назоў, падумалі, што ён быў вяскоўцам, які ў юначыя годы пераехаў у горад, каб вучыцца, і застаўся ў ім назаўсёды, а цяпер настальгуе па печы і грубцы ды марыць замяніць іх камінам на лецішчы — дык вы памыліліся. Наадварот, ён быў гараджанінам у пятым калене, якіх у стольным Менску, разбухлым па вайне, не так і шмат. Вырас ён у хрушчоўцы амаль у цэнтры гораду і карову — жывую! — убачыў толькі, калі на першым курсе філфаку іх выправілі ў калгас на бульбу. Тады ўпершыню пабачыў ён і як расце ўласна бульба, дакладней, як яе капаюць — здабываюць, і там жа, у гэтай вёсцы, знобкім асеннім вечарам убачыў і распаленую грубку. Ну, хай грубка і не камін, але яна яго заваражыла. Сваім утульным, сухім цяплом, хатняй ласкавасцю, зыркімі языкамі полымя, патухаючымі вугалькамі, на якія можна глядзець бясконца — як на імпрэсіяністычную карціну, і ўвесь час знаходзіць нешта новае. Ён паспрабаваў нават намаляваць агонь у грубцы, але выйшла зусім не падобна, і вугельчыкі былі зусім не жывымі, дакладней — мёртвымі і халоднымі. І не ратавала нават — тое, што ён да шэрага попелу дадаваў і дадаваў чырвонага колеру… Ён падумаў, мусіць: таму мастакі і не любяць маляваць агонь, што дакладна перадаць гульню ягоных фарбаў амаль немагчыма.

Але грубка — гэта ўсё ж не камін. Яе задача больш празаічная: не столькі радаваць, колькі саграваць. Таму да дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя і не было ў нас, вечных прагматыкаў, моды на каміны. І таму жывы камін ён упершыню ўбачыў, калі быў на практыцы ў Германіі пасля чацвёртага курсу. Яго, як і яшчэ дзясятак студэнтаў, адправілі ў Берлін практыкавацца нямецкай мове. Жылі яны ў інтэрнаце, які знешне нічым не адрозніваўся ад менскіх, дзе ён бываў у сваіх аднакурснікаў — хіба што большай чысцінёй і дагледжанасцю ўнутры ды больш вольнымі норавамі жыхароў. У душавым пакоі, дзе было дзясятак кабінак, хлопцы і дзяўчаты мыліся разам зусім не саромеючыся адно аднаго. Калі ён упершыню зайшоў сюды, не ведаючы мясцовых звычак, яму здалося, што тут «жаночы» дзень, бо ўбачыў сярод голых целаў адных толькі жанчын. Аслупянеў на момант, але ягонае здзіўленне ніхто не заўважыў, а ён паспеў разгледзець сярод целаў і хлопцаў… Мыцца ён тады не пайшоў з фізіялагічных праблемаў — нашыя мужчыны не звыклыя да такога, і ёсць у іх мейсца, якое выдае іх хваляванне ад пачатку, але… размова не пра тое.

Каміна ў інтэрнаце, зразумела, не было. Аднак на адзін з выходных яго і яшчэ некалькіх беларускіх студэнтаў запрасіў да сябе дамоў універсітэцкі выкладчык — куратар. Не на вілу за горадам, а ў адзін з даўніх шматпавярховых дамоў амаль у цэнтры Берліна, якія цудам захавалі свае сцены падчас бамбёжак ды захопу саюзнікамі ў 1945 годзе і былі адрэстаўраваныя, адбудаваныя. Жыў выкладчык на апошнім паверсе, амаль у паддашку, і ў яго ў кватэры быў сапраўдны камін. Гэта асаблівая здзівіла ўсіх беларусаў, а яго — найбольш. Ні цуды тэле- і відэа-аўдыётэхнікі, ні суперлядоўня і мікрахвалёўка, што тады, на пачатку дзевяностых, былі для яшчэ савецкіх людзей верхам цывілізаванасці, а… звычайны, мінуластагоддзевы, так-так — дом быў пабудаваны ў XIX, а то і ў XVIII стагоддзі — камін.

Відаць было, што і гаспадар ім таксама даражыць. Як толькі прыйшлі і распрануліся — а была вясна і яшчэ халаднавата на берлінскай вуліцы, хоць снегу ўжо і не было, у адрозненне ад Менска, — гаспадар адразу адчыніў дзверцы ў каміне і расклаў цяпельца. І ажыў пакой, у надвячоркавай паўцемры зайгралі вобліскі полымя на сценах, гаспадар уключыў начнічок у адным з кутоў даволі вялікага пакою, які быў і кухняй і гасцёўняй разам, і стала яшчэ цямней і… утульней. Менавіта ўтульней і так хораша ды цёпла, так добра і весела, што смех і жарты адразу пасыпаліся з вуснаў. І шчаслівы гаспадар быў самым вясёлым і нястрымным.

Ён падсеў да бойкага агеньчыка, працягнуў да яго рукі — і шчасце расплылося па целе ад кончыкаў пальцаў да самага апошняга закуточка. Аж да дрыжыкаў захаплення. І такая любоў расцеклася па ім, што ён гатовы быў абдымаць і цалаваць усіх дзяўчат незалежна ад таго, падабаліся яны яму ці не… Але ён стрымаў сябе, падцягнуў пуфік, што стаяў побач, сеў — і нішто і ніхто напрацягу паўвечару, пакуль гаспадар гатаваў глінтвейн і нешта з ежыва, не адцягнула яго ад каміну. Ён абслугоўваў яго, падкладваў дровы — ласкава і кранальна — і радаваўся разам з агнём, калі той абуджаўся, прымаючы новы ласунак — адмысловае бярозавае бярвенца ці дубовую скепку…

Дамоў ён вярнуўся з адною мэтаю — займець сабе такі камін. Толькі не трэба адразу згадваць прыклады з класікі — расейскай ці сусветнай: Чэхава з агрэстам альбо Акутагаву з бататавай кашай, ці нават Гогаля з ягоным знакамітым шынэлкам (што праўда, усе мы выйшлі з гогалеўскага шыняля) і яшчэ дзясятак іншых класікаў, раскіданых па свеце, якія ўжо скарысталі «ў сваёй творчасці» нечым падобны сюжэт: мару маленькага чалавека, пры гэтым не важна, што прымушала яго хвалявацца, чаго ён хацеў і дзеля чаго жыў, каб атрымаўшы, нарэшце, сваё… супакоіцца… Не трэба. Як я ўжо не раз казаў — жыццё любіць паўтарацца аж да падрабязнасцяў на кожным новым сваім вітку, у кожнай новай краіне і кожным новым лёсе… І таму гэта не плагіят. А калі і плагіят, то самога жыцця, а не Гогаля з Чэхавым…

Дык вось — камін стаў ягонай марай. Лецішча ў ягоных бацькоў не было — жыла толькі памяць пра дзедава лецішча, якое ў 1937 разам з дзедам забрала дзяржава. І ў бабулі, якая выжыла, нягледзячы на тое, што стала ЧСІРам (ЧСЗР — для тых, каму незразумела), выпрацаваўся жорсткі імунітэт супраць лецішча, і яна ягоным бацькам не дазваляла ні будаваць яго, ні набываць… Не было жадання займець лецішча за горадам і ў яго — па генах перадалося ці што. А зрабіць камін у звычайнай панэльнай дзевяціпавярхоўцы, у якой ён жыў — было абсалютна нерэальна. І тым не менш, ён пачаў нешта рабіць, каб ажыццявіць мару.

Ён памяняў сваю кватэру на такую ж, у гэткім жа доме, але на ўскраіне горада, ля самага лесу, і на апошнім паверсе. Зрабіў у адным з пакояў камін, а трубу вывеў праз гаўбец наверх. Кожны вечар з нясцерпнай радасцю ён спяшаў дамоў, каб раскласці цяпельца і падсмажыць сабе кавалачак хлеба да кавы. Але пакарыстацца сваім шчасцем змог нядоўга. Суседзі ўбачылі лёгкі дымок над домам і выклікалі пажарных… І пайшло-паехала: камісіі, жэкі, скаргі, забароны, суды… Карацей, з камінам давялося развітацца, яшчэ і вялікі штраф заплаціўшы.

І засталося яму адно: набыць дамок у вёсцы. З печчу, якую ў нас часам называюць рускай, хоць ва ўсім свеце яна галандская, ды грубкай. І вярнуцца такім чынам да каранёў. Не кажу «сваіх». Бо не зусім дакладна гэта ў нашым выпадку. Хоць, пэўна ж, продкі нашага героя ў пакаленні дзясятым, а можа, і бліжэйшым, дакладна карысталіся печчу і грубкай. Але больш правільна, мабыць, усё ж — камінам. Бо адкуль інакш было ў яго таму жаданню, той мары ўзяцца, як не з генаў… Аднак радавод па нашым часе — справа цёмная… І няпэўная. Бо, каб выжыць пры камуністах, трэба было ўсім запісваць сабе рабоча-сялянскае паходжанне і ніколі нідзе ніякім чынам не згадваць пра дзядулю купца ці бацьку паліцмайстара…

Ягоны прадзед быў паводле сямейнай легенды беспрытульнікам і з беспрытульнікаў-дзетдомаўцаў выбіўся ў прафесары ўніверсітэта, дзед стаў вядомым урачом, а бацька выкладчыкам у прадзедавым універсітэце і таксама прафесарам. Яго ж паланілі яшчэ ў дзяцінстве музы, і ён стаў пісьменнікам. Пра тое, што і ягоныя прапрадзеды былі не з простых смяротных, ён даведаўся ад маці толькі стаўшы студэнтам. Але гэта, па вялікім рахунку, не важна для нашай гісторыі. Нас цікавіць толькі ягоная мара. Ён доўга ездзіў з сябрам (у яго не было машыны, і ён папрасіў калегу) па менскім наваколлі, аднак усе вёскі, у якіх прадаваліся хаты, яму не падабаліся. Яму хацелася, каб побач быў лес і возера ці хоць бы рачулка, а такія надзелы купляліся ў першую чаргу, і калі яны з сябрам прыязджалі па аб'яве, выяўлялася, што хата ўжо прададзеная…

Але — хто вельмі хоча, той знойдзе, што жадае. Урэшце рэшт ім пашанцавала стаць першымі пакупнікамі хаты ў невялікай вёсцы, з аднаго боку якой было возера, а з другога пачынаўся лес. Проста ідэальна, падумаў ён і не стаў збіваць кошт, а яшчэ трохі і пераплаціў, каб хутчэй аформіць дамок на сябе. Хата была старая — пабудаваная да вайны, але захавалася някепска. Былі ў ёй і печ, і грубка. І ён быў шчаслівы… пару тыдняў, пакуль да яго не прыйшоў сусед і не сказаў: «Дай колькі рублёў на пляшку — вып'ю за знаёмства». Ён даў. Сусед вярнуўся з пляшкай праз хвілінаў дваццаць. «Накрывай стол, — сказаў, — будзем знаёміцца». «Я не п'ю». «Нічога, я і за цябе вып'ю».

Сусед сядзеў да позняга вечара і абрыд сваімі размовамі. Спачатку яму падалося гэта цікавым: здабудзецца мо які сюжэт для аповеду, але сусед быў настолькі нецікавым і аднастайным, бубнеў сабе пад нос адно матамі і ніякіх цікавых гісторый не расказваў, таму, калі госць нарэшце пайшоў, ён адчуў палёгку. Да раніцы. Бо той зноў прыпоўз, калі яшчэ і сонца не ўзышло. На трэці дзень — ён паспрабаваў абурыцца і грошай сваю «на знаёмства» не даць. «З'едзеш адсюль у горад — спалю… — сказаў сусед, — хату спалю». Прагучала гэта будзённа, а таму пераканаўча і пераканальна. Але ён суседу грошай не даў, а стаў падумваць пра тое, што і тут яму спакою не будзе. Бо няма чалавеку, які шукае цішыні на гэтай зямлі, больш страшных ворагаў, чым ягоныя суседзі.

Падумаў ён так і зноў пачаў пытаць сабе дамок, але ўжо каб без аніякіх суседзяў. І знайшоў. Былую лесніччоўку, кіламетраў за пяць ад бліжэйшай вёскі яму саступілі амаль задарма.

Лесніччоўка стаяла на паляне, на беразе безыменай рачулкі — амаль ручаіны, бурлівай толькі ўвесну і спакойнай увесь астатні час, побач быў калодзеж, было падведзенае электрычнае святло… і… словам, мелася ўсё для жыцця, у тым ліку — печ і грубка.

Нарэшце ён адчуў сябе шчаслівым. Паўгода раскашаваў у поўнай адзіноце. А потым, паступова, у яго з'явіліся сябры — лось Яшка, заяц Цішка, вожык Рыгор…

А яшчэ — дуб Зміцер, тры бярозы Вера, Надзея, Любоў, і рабіна Рая, да якой ён прыходзіў, калі

асабліва цяжка было, каб параіцца, і заўсёды меў тут адказ на свой клопат ці чарговы непраходны ступар у развіцці сюжэту новага аповеду…

Цэлымі днямі ён сядзеў і пісаў — пісаў… асадкай на паперы, не прызнаючы ніякіх друкавальных машынак і тым больш кампутараў. Пісаў адначасова некалькі аповедаў, і таму на стале ягоным заўсёды быў прыемны яму бардак з пачаткаў, сярэдзінаў і проста накідаў да аповедаў. Творы свае ён нідзе не друкаваў, не дасылаў у нейкія часопісы ці газеты, а толькі калі было сонечнае, светлае надвор'е, выходзіў на ганак, сядаў і пачынаў чытаць услых — лесу, сонцу, хмаркам, што спыняліся над леснічоўкай… І сваім сябрам — дрэвам ды жывёлам: Яшку, Цішку і вожыку Рыгору, Зміцеру ды тром бярозкам... І ў нікога на ўсім белым свеце не было ніколі больш уважлівых і ўдзячных слухачоў.

На жаль, колькі часу таму я страціў сувязь з гэтым сваім знаёмцам, і калі паспрабаваў даехаць да ягонай леснічоўкі — збіўся з дарогі, заблукаў у лесе і ледзь выбіўся назад. І не дзіва — дарога, што вяла да ягонай хаты, не трывожаная нікім шмат гадоў, зусім зарасла гонкімі дрэўцамі і згубілася між кустоўя... Але я веру, што ўсё ў яго добра і жыве ён у сваёй хаціне (з печчу ды грубкай) у згодзе ды шчасці.

І апошняе —
я яму зайздрошчу.

## Паўночныя ночы

*Трыптых*

### 1. Салаўкі

хто ж ведаў, што пасля аўторка, у чацвер, будзе адразу панядзелак

хто ж ведаў, што белыя ночы не проста метафара ці аксюмарон, а светлая праўда, што сёння ўжо заўтра, і яму ад'язджаць далёка, бо застацца паблізу як назаўсёды не лёс, не лёс, не лёс…

начное летняе сонца поўняю вымыла неба да бела-блакітнага, хмаркі чытаюць ягоныя думкі і спяшаюць, спяшаюць — мкнуць дадому, дадому — туды, дзе яе не было ніколі і ніколі не будзе, бо ночы на ягонай радзіме — ночы, а не аксюмароны

марошка паспела паспець да белае ночы ягонага развітання з ёй: смачная, ліпкая, помная — няўжо ён больш не ўбачыць гэтую марошку і яе… і яна застанецца ў ім салодкая, а ён у ёй ніколі-ніколі не будзе… і тыдзень зліўся ў адзін дзень — у панядзелак: і дзень прыезду апынуўся днём вяртання

цыганскі дожджык — грыбны — ейных слёз падае яму на вусны і салоніць салодкасць марошкі

не плач… кажа ён… не плач — нам няма пра што шкадаваць, нам ёсць пра што радавацца: у нас быў тыдзень на моры белым (Белым!), як гэтая ноч, тыдзень, які да-ра-жэй (да-ў-жэй) за гады…

ці згадвае яна яго цяпер, як ён яе заўсёды?

### 2. Сундсваль

яна спытала: «усе беларускія мужчыны такія верныя сваім жонкам?»

«не ўсе, толькі імпатэнты», — адказаў ён, і яны пасмяяліся разам

сцяна недаверу і недамоўленага, што была між імі, рухнула ў адзін момант, разляцелася ў друз, у нішто, стала празрыстым ценем, і ім абоім зрабілася лёгка і вольна

ён быў удзячны ёй за пытанне — яна зрабіла тое, на што ніколі б не адважыўся ён: яна зрабіла крок насустрач… іхняму каханню, якое жыло ў кожным з іх ад першага позірку, ад першае хвілі, але цэлы тыдзень не магло прайсці самую кароткую сцяжынку ад сэрца да сэрца, спынялася на паўдарозе, блукала ў трох хвоях і клалася спаць на самоце, бо каханне толькі тады каханне, калі яно ўзаемнае і асвечанае жаданнем, прагай, жарсцю…

цяпер, калі яны сваім смехам разбурылі нябачны мур паміж імі, калі вочы перасталі баяцца глядзець у вочы і дзяліцца сваім агнём, прыйшоў час сустрэцца вуснам і… о, як салодка заныла ў грудзях — так салодка, што здавалася грудзі разарвуцца, расчыняцца насцеж і ўсё святло свету ўвойдзе ў іх…

яны сядзелі ў кавярні і не заўважалі людзей вакол, якія цяпер, відаць, бачылі толькі іх і… зайздросцілі ім той асаблівай бяскрыўднай зайздрасцю, якая бывае хіба да закаханых… але ім гэта было няважна, неістотна… да гэтай хвіліны, дакладней, да тога пытання, яны прабылі разам у падарожжы па ейнай краіне цэлы тыдзень — яна суправаджала яго ад імя сваёй арганізацыі, была перакладчыцай падчас ягоных выступаў, але вечары ў іх заставаліся вольнымі, а тым болей — ночы… вольнымі адно ад аднаго

да сённяшняй ночы

яна спадабалася яму адразу, яшчэ пры першай сустрэчы ў Менску год таму, і ён быў незвычайна рады, што менавіта яна стала суправаджаць яго ў гэтай вандроўцы, яму прыемна было думаць, прынамсі, хацелася лічыць, што невыдкова гэта, што калі ў Стакгольме паўстала пытанне, каму быць ягоным перакладчыкам, яна сама папрасіла прызначыць яе…

і, як ён, гэтаксама чакала толькі адной ночы

і, калі зразумела, што заўтра больш начэй у іх не будзе — сёння апошняя, задала сваё пытанне…

шоры былі адкінутыя, і пра тое, што было далей — лепш прамаўчаць, бо людзі… людзі пакуль яшчэ не навучыліся перадаваць свае пачуцці адно аднаму позіркам, думкамі, настроем… а літаркі, нават складзеныя ў слоўкі, у дадзеным выпадку не дапамогуць

можна толькі сказаць, што ночы гэтай не было — адразу прыйшла раніца, і яны яе не заўважылі б, калі б не пастаўлены ёй загадзя на 8.00 буднік, які заверашчаў так неспадзеўку

«нас у дзесяць гадзінаў чакаюць у Доме культуры», — сказала яна

аказваецца гэтак, па-савецку, у іх называецца ўстанова, якая і ў капіталістаў выконвае савецкія функцыі выхавання разумнага, добрага, вечнага…

«так, памятаю», — адказаў ён і заснуў

### 3. Жлобін

парк над Дняпром

рэдкія дубы і яшчэ больш рэдкія лаўкі пад імі, жоўта-вытаптаная трава, якая ніколі, відаць, тут не паспявала стаць зялёнай

шэры пясчаны пляж непадалёку, жанчыны, мужчыны, дзеці ў рознаколерных купальніках мітусяцца і ляжаць спакойна — шум галасоў далятаў да яго і не, але іх не трывожыў: ён быў проста тлом, як пошум дрэваў, як посвіст нябачных птушак, як шоргат праплываючых хмарак

яны не заўважалі нічога

прынамсі, ён —

ён бачыў і чуў толькі яе побач, але не дакранаўся да яе — не адважваўся, яму хапала ейнае прысутнасці тут, і нават ад гэтага ён ледзь не захлынаўся шчасцем — яму было добра, што яна ёсць, добра, што яны разам: сэрца трымціць, ледзь не выскокваючы з грудзей, ён не думае, што адчувае пры гэтым яна, ён загіпнатызаваны тым, што яна побач, і нават не разумее, не пускае ў галаву думку, што ёй можа быць абсалютна абыякава — ён з ёю ці нехта іншы, і ёй, можа быць, цяпер хочацца хутчэй развітацца і пайсці дамоў, а можа, проста хочацца ў прыбіральню, якой паблізу няма, і можа, ён ужо даўно надакучыў ёй сваім маўчаннем

але не — яны не маўчалі, яны размаўлялі пра нешта неістотнае, што не загрувашчвала мазгі, хоць гэта быў не флірт, а простая сяброўская размова, бо яны ведалі адно аднаго ўжо сто гадоў, і іхняя агульныя знаёмыя цяпер, як і яны, жылі ў розных гарадах і бачыліся рэдка

яго не пакідала адное жаданне — застацца з ёю назаўсёды, але ён разумеў, што гэта пакуль немагчыма

пакуль

значыць, надзея, якой яна яму ніколі не пакідала, нябачна заставалася з ім, жыла ў ім і цяпер назірала за імі аднекуль з птушынага палёту хмарак

але любое, нават самае чаканае, спатканне мае адную заўсёдную прыкрасць: яно заканчваецца, і хочаш не хочаш, трэба развітвацца… вечар туліўся да ночы, яна пазяхнула…

на адыход ён падарыў ёй сваю любімую кнігу, якая заўсёды была з ім, чыталася і перачытвалася ў цягніку, у аўтобусе, дома

яна задумалася ўслых: а што мне падарыць табе ў адказ? у яе з сабою анічога не было, апроч квадрацыка лейкапластыру, які яна набыла па дарозе ў аптэцы пра запас, каб наклеіць на нацёртую новымі басаножкамі пятку

яна напісала паверх інструкцыі па прымяненні пластыру: «… ад … на добрую памяць», — звычайныя словы, але як кранулі яны яго…

ён і не падумаў тады, што галоўным словам тут было «памяць», бо тая іхняя сустрэча стала апошняй і не паўтаралася праз тыдзень, як думалася, і праз месяц яны не ўбачыліся…

не, яна не загінула, яна проста знікла з ягонага жыцця — раптоўна выйшла замуж і з'ехала ў іншы далёкі горад

а яму засталася толькі памяць — той квадрацік лейкапластыру з надпісам, той вечаровы — велічны — Дняпро, парк са старымі дубамі, плямкі людзей на шэрым беразе, той посвіст птушак, пошум праплываючых хмарак і лёгкі ветрык, які гуляе з ейнай спаднічкай над каленямі, да якіх яму ніколі больш не дакрануцца

засталася толькі памяць

але — ён удзячны ёй за гэта, бо той наддняпроўскі жлобінскі вечар зацмявае сабой усё лепшае, што потым было ў ягоным жыцці.

## Цень закаханы

дзіўная істота — цень, думаў ён, гледзячы, як той кіруе да дрэваў, каб схавацца пад імі

схавацца — не праблема, а як потым вылучыцца сярод аднастайна шэрага і зноў стаць сабою?

ніяк… застанецца, хіба, яму самому зайсці пад дрэвы і вывесці з-пад іх свой цень

зрэшты, навошта: яму і без ценю жылося някепска, самае цікавае, што ніхто ніколі не заўважыў, што ён не адкідвае ценю — што ценю ў яго проста няма

ва ўсіх людзей ёсць, а ў яго — няма, бо ягоны цень займеў звычку гуляць сам па сабе, як тая котка з вядомай казкі

сыходзіць, калі яму хочацца, вяртаецца зусім неспадзявана, карацей — жыве сваім жыццём і абсалютна не думае пра яго — таго, каму ён належыць ад нараджэння, зусім не думае пра тое, што можа нашкодзіць яму сваім знікненнем у самы непадыходны для таго момант

не дай Бог, думаў ён, нехта ўбачыць, як ад яго сыходзіць цень, і стараўся ў сонечныя дні як найменш бываць у людных мясцінах

бо чалавек без ценю — як без душы — жыць не можа… бо чалавек без ценю — гэта проста страшна, гэта ненармальна, ненатуральна, калі не сказаць горш… і цень павінен гэта разумець…

дык — навошта пакідае яго цень? з якою мэтай? што яму трэба? — гэтага ён не ведаў

і таму вырашыў аднойчы прасачыць за сваім ценем… але як тут прасочыш, калі той зайшоў у цень дрэваў, і дзе цяпер выйдзе — невядома, прычым цень яго бачыць заўсёды, а ён яго, прынамсі цяпер, не бачыць зусім

і тады ён адмовіўся ад сваёй задумы: хай цень робіць што хоча, ходзіць куды хоча і калі хоча, карацей, даў ценю поўную волю жыць ягоным ценевым жыццём, прыдумаўшы сабе «прыгожую» версію, што ягоны цень збягае да сваёй каханкі — цені, якая таксама пакідае на час сваю гаспадыню

а што? каханне не падуладнае ні ўзросту, ні стану

кахаюць дрэвы і кветкі, жывёлы і жамяра, дык чаму цені не могуць кахацца?

ён быў нежанатым, болей за тое, не меў пакуль дзяўчыны, а таму падумаў, што цень проста апярэдзіў яго і знайшоў сабе каханку раней за яго

цікава, — думаў ён, — ці супадуць нашыя густы? а можа, цень якраз і падкажа мне маю мажлівую абранніцу? дакладней — адсутнасць ценю ў яе будзе азначаць, што той таксама збег — да майго ценю…

і ён пачаў уважлівей прыглядацца да сустрэчных дзяўчат — зважаць, ёсць у іх цень ці няма? прыглядацца, як паводзіць сябе ягоны цень, калі ён з ім, у прысутнасці іншых ценяў — жаночых, але нічога незвычайнага не заўважаў — усе дзяўчаты былі з ценямі, і ягоны цень абдымацца да іх не лез, болей за тое — якраз у гэты час звычайна ён быў з ім і нікуды ад яго не збягаў

але не заўсёды

таму прыдумка ягоная, пра якую, зразумела, цень не здагадваўся, урэшце рэшт усё ж спрацавала

было гэта ў кавярні, куды ён з сябрамі пайшоў адной суботы ўвечары проста пасядзець, папіць піва ды пагаманіць

у кавярні, у закутку, дзе яны сядзелі, была інтымныя паўцемра, але асвятлення хапала дзеля таго, каб ён бачыў, што ягоны цень пры ім; сябры ягоныя, прывыклыя не зважаць на свае цені, весела гаманілі, расказвалі показкі, і ён між іх нічым не вылучаўся

да пары да часу

бо раптам заўважыў, што ўзнятая ім рука на сцяне, на стале, на талерцы, на куфлі піва... ценю не пакідае…

зноў кудысьці збег? ці, можа, ён недзе тут?

дарэчы, кажучы «сябры», забыўся паведаміць вам, што гэтае ёмістае слова ўмяшчала ў сябе і сяброўак — так, кампанія, што прыйшла ў кавярню, была змешаная: трое хлопцаў і трое дзяўчат — проста знаёмых і непракаханых між сабою, хоць і зацікаўленых у сяброўстве — чаму і сабраліся разам

ён ціхенька, незаўважна глянуў на Аксану, якая з прысутных падабалася яму найбольш; не, галава Аксаны, уся ейная постаць адкідвалі на сцяну хай і не зусім выразны, але сапраўдны цень — пачварны, трэба сказаць, цень

ён перавёў вочы на Алесю, якая весела смяялася на жарт Анатоля, і цень ейны скакаў са стала на сцяну, а калі адкідвалася на спінку крэсла, то і на столь — і ў гэты цень, непрыгожы і выродлівы, ён таксама закахацца не мог

заставалася Арына — яна сядзела паводдаль, з краю, сядзела ціха, адстаронена і… ценю яе ён не бачыў

сэрца ягонае ёкнула, ён адчуў, што пачаў чырванець, пацець, і ўвагнуў шыю ў плечы, каб трохі размяць млоснасць, што раптам ахапіла яго: няўжо? няўжо Арына і ёсць тая, каго абраў ягоны цень?

тут да іх падышоў афіцыянт, спытаў: вам не цёмна тут? — паставіў на стол свечку, пстрыкнуў запальнічкай і трапяткой кветачкай расцвіў над свечкай агеньчык: ля стала стала святлей, а цемра перабралася ў куты — і недзе там схаваліся цені, якія ад свечкі толькі павялічыліся і зліліся з паўзмрокам

ён глядзеў на Арыну і думаў: чаму я яе раней не заўважаў? файная, сціплая, разумная дзяўчына… і прыгожая: светла-русыя валасы, якія спадаюць на плечы, вялікія вочы, якія яна не падводзіць фарбай, пульхныя вусны і міленькі, маленькі носік — найлепшы на ёй… у яе… такія ж маленькія вушкі, якіх амаль не відаць з-пад валасоў…

раптам ён убачыў, што і яна на яго паглядае, і, заўважыўшы позірк у адказ — усміхаецца яму такой вабнай і прыязнай усмешкай

зайграла музыка, ён устаў і запрасіў Арыну на танец

танцаваў і не зводзіў сваіх вачэй з ейных, танцаваў і не жадаў адпусціць свой позірк на сцяну, на падлогу, бо баяўся ўбачыць там цень…

дзяўчына раптам прыхінулася да яго, паклала галаву на плячо, і ён, абдымаючы яе шчыльней, мімволі заўважыў, як прабег па ейным плячы, а потым па падлозе доўгі цень ад ягонай рукі — ён быў тут…

РЭХА

# ДЗЁННІК ПІСЬМЕННІКА: ПРОЗА ПАЭЗІІ

Сяргей АСТРАЎЦОЎ,
www.svaboda.org

**Што такое, дапусцім, дзвесце паэтаў і пісьменнікаў разам, у адным памяшканні? Гэта згустак жыццёвай энергіі надзвычайнай моцы. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі Сарамага ў адным рамане напісаў, як герой збірае душы памерлых: трэба паспець, нябачная субстанцыя лёгкай хмаркай пакідае цела праз рот…**



Мне ўяўлялася: колькі пісьменнікі прынеслі на свой з'езд рэштак амбіцый, славалюбства, прысак былых вогнішчаў. Так, жыццё беларускае не стараецца раздзьмухаць, як у ветранае надвор'е, у душах пісьменніцкіх агні, каб гарэлі роўным надзейным полымем, нібы ў грубках, як калісьці ў нашых хатах. Жыццё, якое само апынулася птушкай у клетцы, адчувае сябе прыціснутым пад ботам улады, што ўжо казаць пра змесціва — саміх беларусаў? Б'е па руках такое жыццё нашага літаратара, але ён, хлопцы, не сыходзіць у запой у савецкіх традыцыях, ён трымае, можна сказаць, хвост пісталетам. Сам пераканаўся.

## У прадчуванні буры

Люблю апынуцца ў залі раней, назіраць, чуць, як у аркестравай яме музыканты спраўджваюць інструменты, рыхтуюцца абрынуць на публіку рэзкі посвіст скрыпічных гукаў, нібы хмары стрэлаў, саступіць месца медным поклічам духавых, даць барабанам магчымасць задаць атакуючы рытм для пяхоты і баявых сланоў…

З літаратарамі зусім інакш, нельга размежаваць іх, скажам, на скрыпачоў-паэтаў, барабаншчыкаў і кантрабасістаў-празаікаў ды крытыкаў, якія ўпіваюцца джаламі ў мазгі рэзкімі, істэрычнымі гукамі сваіх трубаў, якія раняць душы, ірвуць сэрцы пісьменніцкія на кавалкі сваімі атручанымі стрэламі з разрыўнымі боегалоўкамі. Не, зусім не, усе перамяшаліся, ніякага кучкавання я не заўважыў. Празаікі сябравалі з паэтамі і наадварот. Крытыкі, што натуральна, былі ў маргінальнай ролі, напэўна чуліся абражанымі, але хай, яшчэ іх калі шкадаваць, то калі працаваць?

Хацелася кворуму, а Беларусь вялікая, пачатак крыху зацягваўся. Паасобныя пачалі пляскаць — «пачынайце», але вяла, непераканаўча для саміх сябе. Напругі амаль не адчувалася. Усе спакойна трымалі сваю зброю, свае інструменты пры сабе. Існавала, папраўдзе, прадчуванне магчымай буры, але не было вядома: ці паваліць яна дрэвы на праезную частку, на дахі аўтамабіляў, ці абмяжуецца сарванымі афішамі.

Хтосьці побач, заўважыўшы літаратара мажнога целаскладу, што мае дачыненне да выпуску моцных напояў, сцісла пракаментаваў: «Добра закусвае». Ці пахваліў, ці зганіў, незразумела. «А гэты напэўна зусім не п'е, толькі закусвае, але стрымана, выглядае як гурок, а гадкі-то ў яго пенсійныя…» Ці пазайздросціў, ці асудзіў, невядома.



Фота www.budzma.org

Галасаванне

## Дваццаць год на месцы

Абмалёўка палітычнай сітуацыі — перадусім. Нават калі пісьменнік залезе на гарышча, нават калі вежу збудуе, палітыка ўсё роўна прыедзе да яго са штурмавымі драбінамі, з пажарнай машынай з сігналам. Тым больш, калі ў яго бел-чырвона-белы сцяг зверху. Словам, трыбуна рэжа праўду-матку: рэжым наступае, прасуе нашы акопы цяжкімі танкамі «Іосіф Сталін», палівае свінцом, наша чарговая спроба атакі спляжана, мы загнаныя ў лес! Гучаць адшуканыя ў шуфлядах даклады дваццацігадовай вытрымкі: нічога не памянялася сёння, толькі горш, хлопцы!

Успомнілася міжволі, што сам напісаў калісьці ў апавяданні ад імя героя, які ціке ў лес са сваёй друкаркай, але мусіць утапіць яе ў рацэ (у старым фільме пра партызанаў, калі спрабавалі адарвацца ад фрыцаў, давялося ў балоце пакінуць таксама зброю): «Схапіў за раму друкарку. Адхон. Сумёты. Закутая лёдам рака. Тоўсты лёд, непрабівальны. Цёмнае месца. Тут танчэй. Удар, яшчэ. Чорны вундэрвуд — у чорную ваду. Да таго берагу. Хутчэй! Тамака чарнеў лес».

Герою вельмі хочацца адарвацца ад пагоні, ён пакуль не задумваецца аб тым, як будзе ў замарожаным лесе. Адно думка пульсуе: «Быць ім, беларусам, заўжды ў сваёй хаце партызанамі. Партызанамі, якія адседжваюцца ў лесе. Пакуль не скончыцца самагонка з салам. А яны не скончацца ніколі… У Акінчыца таксама іншага выйсця не было, але ён не стрываў і да часу выйшаў з лесу». Атрымалася, і я маю «ўклад»: напісана нібы пра наш дзень, але напісана менавіта ў 1991 годзе. Але да трыбуны прарывацца бадай не буду, я аддаю перавагу літарам, друкаванаму словам.

## У шклянцы з вадой

«Песні жальбы» — наш улюбёны жанр. Прамоўцы будуць то ўзнімаць мікрафон, то апускаць. Але гэта ў межах нормы. Аднак доўга такі адносны штыль захоўвацца не мог. Як сказаў удзельнік з'езду ў гадох: пісьменнікі заўжды сварацца, заўжды спрачаюцца, заўжды не могуць нагаварыцца, калі на трыбуне апынаюцца, парушаюць рэгламент, не рэагуюць на пляканне і галёканне.

Неўзабаве ўражанне такое, што мэта галоўная не выбары новага старшыні, а скандал з удзелам былога члена арганізацыі, які змагаўся за справядлівасць унутры яе з дапамогай пракурорскай прэсы і карных органаў, у якіх яшчэ нядаўна свярбелі рукі забараніць наш саюз. Выключылі напярэдадні і — арывэдэрчы. Дык жа не — дайце яму слова! Большасць супраць. Але меншасць таксама супраць, супраць большасці, яна патрабуе даць слова! І дзеля гэтага я пакінуў сцэны свайго ўтульнага каралеўскага гораду, трыста кіламетраў нудзіўся?

Але раптам бачу знаёмы твар: выбягае паэт, былы зямляк, герой за выключанага члена! На галовы большасці сыплюцца гарачыя з'едлівыя стрэлы. Нават прыгнуцца міжволі захацелася… Вы горшыя за «героя нашага часу», слова праўды не даяце сказаць! Але ж здзівіў: амаль дзесяць мільёнаў за яго горшыя, бо — «вышэй за Бога», як добра вядома.

Не люблю балагану. А па-за дзвярыма кава, аказваецца, чакае, гэта люблю.

Усе навіны ў кулуарах, якіх яшчэ няма, але вось-вось. Мне расплюшчваюць вочы: паэт — зяць выключанага, зацікаўлены бок, словам. Зяць, хіба? Ну так, трэцяя жонка ў яго. Але ж паэты — сэрцаеды! Толькі звонку ціхія. Бывае, ідзе міма, ніколі не павітаецца, не заўважае, нібыта пагружаны ў думкі-мары, лунае дзесь у царстве паэзіі. Гэта мы, празаікі, па зямлі ходзім, сказы, абзацы ў галаве, не перарывістыя ланцужкі салаўіных спеваў.

Мне падумалася: а ці можна параўнаць нас усіх аднолькава з пчоламі? Пра якіх, ясна, наш першадрукар некалі гэтак чулліва напісаў. Празаікаў таксама, як паэтаў, у зборшчыкаў мёду запісаць? Яны, прыкладам, травеньскі прыносяць першы, мы — жніўеньскі, цёмны. Але хтосьці знаходзіць і гаркавы, ведае месцы… А прыёмшчыкаў-кантралёраў нямашака. Хаця ў гэтай краіне перавага штучнаму, мёду таксама. Менавіта яго спажывае краіна, ёй сапраўднага не трэба. На сапраўдны алергія. Так што і пісьменнікі беларускай мовы, і чытачы, усё больш робяцца rare avis — «рэдкай птушкай» сярод груганоў.


Фота www.budzma.org

«Спартанцы»

## Дзвесце спартанцаў

Пяць апошніх гадоў: амаль кожны месяц на аднаго пісьменніка менш. Ушанавалі памяць хвілінай маўчання. З чатырохсот крыху больш за палову было на з'ездзе. Яны трымаюцца, яны не здаюцца. Пастава адважная, але драматычная. Вось-вось лічэбнае персідскае войска перакрочыць цераз Тэрмапілы, дратуючы ацалелых сваёй слановай кавалерыяй, каб замоўк апошні голас, каб заходнюю мову скасавала ўсходняя гаворка.

Так, мы не забываемся, што на суседняй вуліцы быў з'езд іншых пісьменнікаў, якія паставілі на лічбу, якія пераплюнулі нас. Мы ўстаем, калі грае «Пагоня», яны — пад свой савецкі гімн, дзе Сталіна, Леніна, Палітбюро замянілі на іншыя словы, але вусы па-ранейшаму праступаюць вадзянымі знакамі на гербавай паперы.

Шчаслівыя, пестуны лёсу, усё ў іх ладзіцца: улада іх любіць, яны ўладу. Нават калі яна лянуецца музыку замаўляць, ці забываецца, з галавой у сваёй нястомнай працы, яны ўсё роўна выконваюць і чакаюць вопляскаў, брава чакаюць, букетаў і матэрыяльнага ўзнагароджання за эксплуатацыю сваёй паслухмянай музы.

Яны цешыліся, што атрымалі віншаванне ажно з Сірыі. А што гэта такое, хто ведае?.. Мы слухалі віншаванні ад пісьменнікаў з усяе Еўропы. Мы сябе ад Еўропы не адразаем, адтуль прыйшла наша першая кніга.

Хай нас толькі два разы па дзвесце, але мы ёсць. Дух нашых пачынальнікаў не знік, Сарамага меў рацыю. Кожны з нас адчувае ў сэрцы стрэмку з крыжа, на якім трымае беларускую мову пачальства. Для большай пераканаўчасці побач — цяжкавагавы «Іосіф Сталін» на ходу. Якраз саляркі падкінулі з Усходу.

ЛЕКТОРЫЙ

# ПОШУКІ АСНОВЕДЗІ Ў МІЖЧАССІ

## ШТУДЫІ З КАНТРАСТЫЎНАЙ ПАЭТЫКІ ЯНКІ ЮХНАЎЦА

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

**Карціна свету ў беларускай савецкай паэзіі другой паловы XX стагоддзя не песціць вока багаццем каларыту з прычыны транслявання аўтарамі толькі адной формы традыцыі.**

Паэзія Янкі Юхнаўца (якому ў мінулым месяцы споўнілася б 90 гадоў. — *Рэд.*) уяўляе сабой канцэптуальна іншы тып вершатворчасці. Разгорнуты паэтам у другой палове XX стагоддзя, каранямі ён сыходзіць у 1910-20-ыя гады і, зразумела, не з'яўляецца для нашай паэзіі чымсьці чужародным альбо «дзікім». Агульнавядома, што сам Юхнавец перадусім звяртаў увагу на гэтыя часы нашай лірыкі, а таксама на фальклор і заходнееўрапейскую паэтычную традыцыю. Гэты другі прынцып вершавання можна акрэсліць у значэнні разумення паэзіі як славеснага мастацтва, як маўленчага акту, здабыцця эстэтычнай эмоцыі эстэтычнымі ж сродкамі, дзе «ідэйная задума» выяўляецца не закладзеным паведамленнем, але высноўваецца выключна з ходу самога верша…

Застаўшыся па волі лёсу на маргінэсе (прастораваму) нацыянальнага культурнага жыцця і «будаўніцтва», беларуская эміграцыя (і паэты — як складнікі яе духоўнай перспектывы) змушана была ўкараняцца ў новым быцці і, паводле ўласнага перакanання, быць апірышчам, захавальнікам і правапераемнікам нацыянальна-культурнай традыцыі (усяго несавецкага — «нашаніўства» і «ўзвышэнства», як прыклад). У сувязі з гэтым паўстала праблема незамглёнай перадачы гэтай традыцыі, а таксама годнага яе развіцця. Паэзія прагнула абнаўлення, і ў выніку вызначыліся дзве яркія тэндэнцыі — неакласічная (найяскравейшым яе выразнікам быў Алесь Салавей) і мадэрністычная (тут асобай нумар адзін справядліва лічыцца Янка Юхнавец).

Салавей абсалютна не прыняў творчасці Юхнаўца і нават прысвяціў таму верш-пародыю «Тысяча дзевяцьсот…» (напісаную строгім памерам і дакладнай рыфмай). Так ці інакш, кожная з тэндэнцый мела на мэце адшукаць анталагічны субстракт, на якім паўстала б новая беларуская паэзія, бо з метрапаліяй былі парушаны ўсякія сувязі і — здавалася тады эмігрантам — назаўсёды…

Адна з адметнасцяў паэта Янкі Юхнаўца палягае ў актуалізацыі ім фальклорнай спадчыны. Юхнавец быў, пасля Багдановіча і Дубоўкі, прыхільнікам фальклору як унутранай формы верша. Пра стылізацыю тут не можа быць і гаворкі. Часам, як справядліва адзначаў У. Конан, паэт абрынаўся ў самыя прадонні фальклору: у архаічныя формы замоваў. Але зноў жа трэба разумець, што пагрозлівай і архаічнай паэтычная мова выглядае звонку, ды насамрэч гэта пэўным чынам зашыфраваная гаворка пра ўсё тое ж: Беларусь, прыроду, чалавека — самотнага, але шчаслівага фактам свайго існавання. Вось толькі энергія суб'екту цяпер зусім інакшая: сам характар лірычнага героя, суб'екта ў Юхнаўца надзвычай… аб'ектываваны. Гэта не рамантычны тып, як у Алеся Салаўя: герой Юхнаўца больш спакойны і цэласны. Сусвет як быццам круціцца вакол яго, а ён знаходзіцца ў пастаянным стане сузіральніка, фіксатара разmaітых карцін і эмоцый — знаходзіцца ў цэнтры, нібыта ў знакамітым малюнку «квадратуры круга».

Бадай што вельмі важным з'яўляецца падобнае асэнсаванне паэзіі Юхнаўца як пошуку анталагічнай асноведзі. З улікам гэтага яго штудыі пераходзяць з празмерна суб'ектыўных, «зацемненых» у зусім іншы разрад. Аб'ектываванасць эмоцыі Юхнаўца не ператтваралася, зразумела, у аднавобразную «яснасць паведамлення» падсавецкай лірыкі і, таксама безумоўна, не транслявала сабою ідэю нівелявання асобы. Суб'ект, «Я» для Янкі Юхнаўца застаюцца важнымі, але — толькі ў злучэнні з іншым: дэталлю, уражаннем і г.д. Гэта адчужэнне «я» на карысць таго, каб прамаўляла сама карціна прыроды — ветру, дажджу, месяцовага святла..

Увага да фальклору, міфапаэтыка, своеасаблівы пантэізм, дыялектная мова Юхнаўца ў гэтым сэнсе набываюць тады іншае гучанне, іншыя перадумовы ўзнікнення…

Наогул, дыяспарны (эміграцкі і беластоцкі) слой беларускай паэзіі заўжды вылучаліся: асноўнае адрозненне між метраполіяй і за-межжам — у моўна-стылістычным плане. Нават у публіцыстыцы адчувалася наўмыснасць, нешараговасць слова. У сітуацыі адрыву кожны радок ствараецца «з нічога», але ў той жа час — з ясна ўсвядомленай мэтай. Усведамляецца перадусім важлівасць прамоўленага слова. Падсвядома — гэта яшчэ і імкненне да архаікі, трызненне непарыўнай беларускай паэтычнай традыцыяй — ад часаў Торвальда-вандроўніка і Скарыны да нашых дзён.

*Складаю рыбу мёртвую.*
*На самым светлым дне —*
*між небам і зямлёй.*
*Дзяўчыны спеў вясёлы за ўзгоркам радзіцца*
*із сонцам, із хвалямі, із асакой,*
*як невад збытаны рукамі й*
*багатым ловам.*
*І вецер, бы зналуску, сяўбіт размашысты,*
*Кранае лоб таемнасцю думак усяляkіх.*

*Не ведаю, хто вялікім ёсць:*
*ці раб замучаны, ці правадыр дзяржаўны.*
*Я толькі ведаю: я — раб бязмежнага узлёту*
*дум сваіх, што святасцю*
*пакорніцкай лятуць*
*у мір маіх сумніваў, у мір маіх жаданняў,*
*быць існасцю Айчыннай.*

Развіваючы ідэі пецярбургскіх фармалістаў 1910-1920-х гг. пра размежаванне практычнай і паэтычнай мовы, Юрый Лотман у апошняй сваёй кнізе «Непрадказальныя механізмы культуры» пісаў: «Для таго, каб незмастацкае маўленне стала мастацкім на той жа мове, трэба яго нібы разбурыць і стварыць нанова. Маўленне выводзіцца з свайго натуральнага стану, з'ядноўваючыся з пэўнай рытмічнай формай, а пасля вяртаецца назад ужо ў новым, пераўвасобленым выглядзе». Думаецца, гэтыя словы сугучныя творчаму метаду Янкі Юхнаўца. Ён выходзіць з ідэі неўзнаўляльнасці самой паэтычнай эмоцыі. Сапраўды, нельга не пазнаць Юхнаўца з двух радкоў, але ў той жа час немагчыма знайсці аднолькавыя вершы. Знойдзеш матывы, сюжэты — урыўкі, якія выпінаюцца найчасцей, але непасрэдна агульным паўсюль застаецца бадай што толькі прага выказвання, прага тлумачэння, прычым у вершы мы застаем паэта ў роздуме, які яшчэ не аформіўся: пытаючыся, ён прапаноўвае нам варыянты адказаў, сярод якіх сам пакуль што не вылучыў адзіна правільнага.

Шукаючы апірышча, Юхнавец даследуе аб'ектыўнае. Адначасова ягонае ўласнае, суб'ектыўнае, выяўляецца ў самой форме верша. Нельга не абмінуць кожнаму чытачу паэзіі Юхнаўца такой частай у яго з'явы, як збой рытму.

*Намер праклёнаў ёсць адзін:*
*зраўнаць Душу у векавеччах,*
*вярнуць туды, дзе ход пачаўся*
*па мастох з крыхкога вецця.*

У гэтым прыкладзе звычайны ямбічны ход парушаецца спачатку правалам у рыфме, а адразу пасля той «яміны» мы бачым збой у стапе: разбураецца сам ямб. Падобная сінкапіраванасць лірыкі, бясспрэчна, угрунтаваная ў светасузіранні аўтара і сведчыць, відаць, пра неўпарадкаванасць унутранага свету. У той жа час — гэта яшчэ і свядомы мастацкі прыём, скіраваны на «запаволенне радка»; гэта бар'ер для скорачытання. А адвечны двухкроп'і Юхнаўца выконваюць і іншую функцыю — ствараюць нелінейнасць: ва ўяўнай зацемненасці лірыкі аўтар змушае да ўспрымання прычынна-выніковых сувязяў.



*Жадаю сніць я на чужыне сны,*
*а ў снох:*
*вясны зялёныя абрусы,*
*званіцы гонкія Святой Сафіі,*
*спрадвечны шум палескіх пушчаў.*

Наогул тут навідавоку поўнае тэлеалагічнае адзінства ўсіх элементаў верша. Тая адсутнасць рыфмы і рытму, якая зазвычай тлумачылася падкрэсленай «хатаытычнасцю» і «дзікасцю», апынаецца пры разглядзе не такой простай. Верш Юхнаўца пачынаецца ў цвёрда вызначаным памеры (ямбе, анапесце, дактылі), але за першым радком ідуць наступныя, у якіх абсякаюцца стопы (пяцістопны верш становіцца 2–3-стопным), пропускі складоў радок за радком утвараюць новае страфічнае адзінства, а рыфма (яна ёсць амаль у кожным паэтычным творы Юхнаўца) становіцца падкрэслена недакладнай, прыблізнай, часта — і ўнутранай. Такім чынам, нельга сказаць, што гэта класічны верлібр. Хутчэй гэта дэфармаваная сілаба-тоніка:

*Лета, лета на зямлі ўсёй.*
*Вясна-прамежак, крывёю адцвіцела*
*Але ж ізноў у садзе пустазелле*
*Расцярушыла сваё семя.*

*І прынадлівым сям'і пчалінай воскам*
*на пустазеллі краскі вырастаюць,*
*і соты поўныя — жыцця пр ыталіны*
*налівающца атрутным сокам.*

*А лета, лета на зямлі ўсёй.*
*Вясна-прамежак, крывёю адцвіцела,*
*Але смяецца, млынар смяецца —*
*не ўзойдзе болей пустазелле.*

Насуперак агульнаму погляду большая частка лірыкі Юхнаўца — сілаба-тоніка падобнага кшталту. Вельмі частыя і строфы-катрэны. Гэта, зрэшты, зусім не адмяняе юхнаўцоўскага верлібру ў чыстым выглядзе, ён часта выступае ўжо проста як усплёск эмоцыі, маленькі ціхі выбух.

*Я маленькую браў цябе на рукі.*
*Уздымаў пад неба*
*на вышыню рук сваіх.*

*Тваё вочы*
*сонцам былі мне,*
*і радасць галосная,*
*ад цябе маленькай,*
*была небам*
*над табой і мной.*

Такім чынам, нават у такога яўнага «мадэрністага», як Юхнавец, можна размежаваць класічную і некласічную пазіцыю.

Запамінаецца Юхнавец і надзвычай частым выкарыстаннем метафары. Кантамінаванае мысленне паэта, расцятае і ў той жа час прагнае да аб'ектыўнага — як тая статычна-дынамічная Прырода, выкарыстоўвае метафару для самазапаўнення паэта ў злучальнасці незлучальнага. Праз метафару, праз адухаўленне, пераносныя значэнні Юхнавец стварае сапраўдную слоўную карціну, дзе элементы знаходзяцца ва ўзаемадзеянні і ў той жа час разасобленыя — яны нібыта ніякавеюць ад дужа новага і нязвычнага спалучэння.

*Хваляй збуялай*
*сувеі цісноцца,*
*перашкоды ўзвысіць і задзьмуць.*
*Разбеглася неба*
*да зямлі прыпалае —*
*дарога заблуканая*
*у бель-каламуць.*

*Прытулак на зямлі завірусе ёсць.*
*Людзі не ўсе дадому вернуцца.*
*Дзе-небудзь іхны заснежыць лёс,*
*Жыццём звярыным звер…*

Тое, што Юхнавец выкарыстоўваў як новае і нечуванае для беларускага пісьменства, сёння стала нормай паэзіі. Старая тэндэнцыя «паведамлення» пакрысе становіцца маргінальнай, дзякуючы здрабненню асобы ў пашыраным і раздзьмутым інфармасвеце. Але, на жаль, і торная дарога эстэцтва і чыстай красы засмечваецца маўленчым пластыкам, што дазваляе ўспомніць прыказку пра шыла і мыла.

Як заўсёды — мы на раздарожжы. Мінулыя выбухі народзяць новыя выбухі. Ці адчуем мы іх?.. Не раз, блукаючы па калідорах запыленых музеяў былых гарадоў, я вывозіў з вандроўкі жаданне неадменна знайсці імя таго мастака, раней невядомага мне, які раптам, вымкнуўшы з паварота залы, дапамог зрабіць унутры сябе адкрыццё непадступнай дзівоснай краіны. Пад час падарожных мітрэнгаў імя забывалася, і цяпер агнязздзілася ў душы толькі памятнае ўражанне ад сустрэчы, захоўваецца толькі яно — бо імя сцерлася. Чытаючы дзесяткі і ледзь не сотні паэтаў, быццам прамінаеш тыя самыя залы, і як добра калі імя не трэба запамінаць, бо яго ўжо проста немагчыма забыць…

Для Юхнаўца тое, што ён жадаў вымавіць — было сапраўды важным. Ягоныя пошукі трывалага для сябе апірышча і практычная параза ў гэтым намаганні, ягонае змаганне з мовай, ягонае адпрэчванне штампаў і ў той жа час яднанне з пантэістычнай беларускай паэтычнай традыцыяй, адухоўленым матэрыялізмам, ягоная замкнёнасць і адкрытасць усяму свету, вечнае імкненне разбэрсанай душы да статыкі — надзвычай павучальныя.

Хацелася б, каб будучае новае выданне твораў Янкі Юхнаўца было прачытанае як след. Тады, акрамя іншага, паўстане і больш яснае разуменне паэтыкі гэтага творцы, які дагэтуль пастаянна правакаваў на размову, не аб'явіўшыся да астатку ў выглядзе літаратурнага факту — дбайна выверанага, вычарпальнага тому выбранага. А таму — безупынна спараджаў міфы.

Друкуецца ў скароце

РЭЦЭНЗІЯ

# PROFESSOR.BY: ЛІТПРАГНОЗ ДЛЯ МЕТЭАЗАЛЕЖНЫХ — TUT

## АРНОЛЬД МАКМІЛІН. ПІСЬМЕНСТВА Ў ХАЛОДНЫМ КЛІМАЦЕ. — БЕЛАСТОК, 2011

Ірына ШАЎЛЯКОВА

**Хто паверыць, што беларускае літаратуразнаўства сёння паперадзе планеты ўсёй? Як той казаў, не жылі багата — не варта і пачынаць.**




Будзьма традыцыйна стрыманымі — і рашуча паверым, што хоць на нейкі «момант» лёсіла і нам апынуцца на адзіноце пад трыумфальнай аркай сусветнага літаратуразнаўства. Паводле прароцтва незабыўнага Астапа Бэндара, дапамагло якраз замежжа: дзякуючы прафесару Лонданскага ўніверсітэта Арнольду Макміліну маем (а іншыя — даруй, агульналітаратурная салідарнасць! — можа, і не маюць) «аўтарскую» гісторыю беларускай літаратуры апошніх чатырох дзесяцігоддзяў, (адмыслова) фундаментальную і (без агаворак) арыгінальную.

Гэты праект А. Макміліна мэту меў, па вялікім рахунку, не пафасную: **«пазнаёміць** (вылучана намі. — *І.Ш.*) англамоўных чытачоў з малавядомай і несправядліва абыдзенай увагай літаратурай». Сціплыя (паводле айчынных сацыякультурных «стандартаў») намеры знайшлі ўрэчаўленне ў важкім (ва ўсіх адносінах!) выданні — «Writing in a Cold Climate: Belarusian Literature from the 1970s to the Present Day» (Лондан, 2010), беларуская версія якога — «Пісьменства ў халодным клімаце: Беларуская літаратура ад 70-х гг. ХХ ст. да нашых дзён» — пабачыла свет у 2011 годзе ў Беластоку.

Кніга брытанскага прафесара ў першых жа водгуках на яе ўдзячнага беларускага чытача атрымала званне «энцыклапедыі сённяшняга літаратурнага жыцця Беларусі». Пры гэтым прысваенне звання (нават цень якога не лунаў над айчыннымі гісторыка-літаратурнымі даследаваннямі апошняга часу, безуважна да ступені іх фундаментальнасці) абгрунтоўвалася аргументамі не толькі якаснага (змястоўнага), але і колькаснага (700 іменаў, спіс бібліяграфічных крыніц на 40 старонак) кшталту (Алег Жывень. «Арнольд МакМілін пра беларускую літаратуру», n-europe.eu, 8.11.2011).

Тутэйшага чытача, асабліва таго, што мае дачыненне да літаратурных штудый, праца А. Макміліна насамрэч уразіць, прычым шматвектарна. У першым набліжэнні — выразна нетутэйшым падыходам да «тэхналогіі» асэнсавання набыткаў мастацтва слова за пэўны прамежак часу. Выдатна абазнаны ў колішніх і сённяшніх пошуках-наробках беларускіх літаратуразнаўцаў і крытыкаў, аўтар «Пісьменства ў халодным клімаце» з аднымі палемізуе, другіх ушчувае (улюбёны апанент — складальнікі акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя»), да меркавання іншых раіць прыслухацца, але свае агледзіны сучаснай беларускай літаратуры свядома ладзіць паводле логікі, як бы табуіраванай для айчыннага літаратуразнаўчага «фундаменталізму». Адмысловасць гэтай логікі падчас похапкава-павярхоўнага прагляду кнігі толькі прадчуваецца: 16 раздзелаў працы густоўна аточаныя «Прадмовай», «Уводзінамі», «Бібліяграфіяй», «Паказальнікам іменаў», а таксама ўпрыгожаныя «Падзякай» і дэкараваныя «Скаротамі» (з трох пазіцый). У кароткай прадмове, без агляду тэндэнцый развіцця сусветнай літаратуры (ад шумераў да постмадэрну), без высвятлення шанцаў беларускай літаратуры ў эпоху «глаКалізацыі» (а гэта вам ужо не эпоха «глаБалізацыі» і г.д., і да т.п.), без нефункцыянальнай сентыментальнасці, але з прафесійнай скрупулёзнасцю аўтар пазначае мэту і (ускосна) матывы сваёй працы над кнігай, коратка тлумачыць асаблівасці кампазіцыйнай будовы і правапісу (некаторых тапонімаў, цытат), выказвае падзякі «пісьменнікам, крытыкам, іншым калегам і сябрам». І тут важна даверыцца альбо ўласнай інтуіцыі, альбо ўласнай жа кваліфікацыі — і ад прагляду перайсці непасрэдна да чытання, бо з першай старонкі ўводзін становіцца зразумела, што на гэты раз трапіў туды, куды запрашалі: менавіта на агледзіны, а не (як сёння найчасцей здараецца) на «імпэтныя хаўтуры» па беларускай літаратуры.

А. Макмілін стварае асобасную гісторыю беларускага нацыянальнага пісьменства апошніх чатырох дзесяцігоддзяў (паняцці «асабістая», «прыватная», «персанальная», «аўтарская» і да т. п. падаюцца яшчэ менш прыдатнымі дзеля атрыбуцыі вынайдзенай ім непаўтаральнай жанравай стратэгіі). Прычым стварае не ў сцёртаметафарычным, а ў літаральным сэнсе. Напрыклад, прапануе ўласную версію расстаноўкі дзейных асоб унутры багатага на дзівосы тутэйшага жыццятворчага хранатопу: «Прыгоды й фантастыка: Васіль Гігевіч, Сяргей Рублеўскі, Юры Станкевіч», «Імпульс Формы: Казімір Камейша і Соф'я Шах», «Вольга Куртаніч, Алесь Бадак, Тодар Кашкурэвіч, Павал Змітрук», «Андрэй Хадановіч і чатыры паэткі будучыні» і інш. Побач з вядомымі ці хаця б пазнавальнымі дзейнымі асобамі літаратурнага працэсу без ваганняў дае перажыць свае «пяць хвілін славы» на авансцэне літбыцця персанажам… нечаканым (прынамсі, у пэўным кантэксце): так, аўтар «змрочнай паэзіі» Сяргей Патаранскі «хоць на час напісання гэтага даследу не належыць да ніводнага саюзу пісьменнікаў, але ў нейкай ступені ўяўляе грамадскую цікавасць»… Кіруючыся не варыятыўнай «праўдай» сённяшняга літаратурнага жыцця (патэнт на якую імкнуцца сёння аформіць самыя розныя суб'екты літпрацэсу, і «аднаасобныя», і «групавыя»), а сапраўднай захопленасцю беларускай літаратурай, аўтар «Пісьменства ў халодным клімаце» без літаратуразнаўчых страху і дакору выштукоўвае сваю (насамрэч індывідуальна-аўтарскую) іерархію пісьменніцкіх талентаў. Робіць ён гэта без эківокаў: «Георгій Марчук і Алесь Жук — значныя фігуры сярод старэйшага пакалення беларускіх пісьменнікаў. Напрыклад, А. Жуку адведзены цэлы раздзел у акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя» (Гніламёдаў, Лаўшук, 2003, 542–567). Хоць можна сцвярджаць, што Уладзіслаў Рубанаў больш таленавіты за іх абодвух, ён за свае нават карацейшае, чым у Міхася Стральцова, жыццё ледзь заслужыў згадкі ў гэтым шаноўным выданні» («Уладзіслаў Рубанаў»). Тутэйшы літаратуразнаўца градацыйны ланцужок «таленавіты — больш таленавіты — самы таленавіты — (патэнцыяльны) лаўрэат Нобелеўскай прэміі» без варыянтаў прамяняў бы на ўніверсальную формулу «адзін з самых таленавітых». Прафесар Макмілін, як правіла, аддае перавагу ацэнкам незавуаляваным: Віктар Казько — «сур'ёзны, нават цяжкі пісьменнік, які ставіць пытанні, а не прапануе адказы…» («Віктар Казько»); Міхась Башлакоў — «невыбітны, але палымяны паэт» («Міхась Башлакоў»), Генадзь Пашкоў — «таленавіты, досыць традыцыйны, нават кансерватыўны паэт, які заслугоўвае прызнамсі некаторага прызнання, якімі б ні былі ягоныя палітычныя погляды» («Генадзь Пашкоў») і г.д. Аднак дзеля справядлівасці варта зазначыць, што ў асобных выпадках аўтар аддае даніну павагі і рытарычным традыцыям «эзопавага» літаратуразнаўства: «Юры Станкевіч — надзвычай цікавы, часам цяжкі аўтар. Яго трывога за сваю нацыю можа выклікаць занепакоенасць у прыхільнікаў ліберальных каштоўнасцяў, але, безумоўна, ён прынёс на старонкі беларускай літаратуры новую манеру пісьма і новы светапогляд» («Юры Станкевіч»).

Кнігу А. Макміліна, якую складаюць пераважна невялікія артыкулы манаграфічнага кшталту, можна чытаць як мастацкі гіпертэкст, накшталт рамана-красворда ці рамана-клепсідры Міларада Павіча. Рух па розных траекторыях чытання, праўда, не прыводзіць да радыкальна адрозных высноў («фіналаў»), але дае выдатную магчымасць убачыць таго ці іншага творцу ў розных калажавых камбінацыях, выпадковасць, адвольнасць якіх спрыяе ўзмацненню стэрэаскапічнасці ўспрымання асобы літаратара і яго твораў.

Аднак сама наяўнасць згаданага стэрэаскапічнага эфекту не залежыць ад тэхнікі чытання. Ён, хутчэй, з'яўляецца вынікам дасканалага супадзення (у большасці артыкулаў кнігі) шэрагу «стратэгічных» чыннікаў індывідуальна-творчага стылю даследчыка. Маецца на ўвазе супадзенне: мэты (гл. прадмову); кампазіцыі («выбіральна-дазіраваныя» аўтабіяграфічныя звесткі, зварот да якіх матываваны перадусім творчасцю літаратара; падмацаваны шчодрым і заўсёды ўдалым цытаваннем бліц-аналіз найбольш важных, на думку аўтара кнігі, твораў, асноўная ўвага надаецца сюжэту і дамінантным рысам стылю пісьменніка; высновы, дзе рэзюмуюцца папярэднія набыткі таго ці іншага літаратара і выказваюцца больш ці менш аптымістычныя спадзяванні на плённасць далейшага шляху); стылю выкладання (празрыстага, але без ценю легкаважнасці; эмацыйна-экспрэсіўнага, але без манументальнага пафасу ці груvасткай іроніі).

Зусім не выпадковая сустрэча згаданых чыннікаў у артыкулах, прысвечаных хрэстаматыйным тэкстам і постацям беларускай літаратуры ХХ стагоддзя, дазваляе расчытваць «без ценю саладжавасці і аніводнай фальшывай ноты» («Міхась Стральцоў») не толькі творы, але і лёсы.

«Пісьменства ў халодным клімаце» нельга наўпрост суаднесці (ідэнтыфікаваць) ні з кананічнымі ў нас гісторыка-літаратурнымі даследаваннямі, ні з белетрызаваным літаратуразнаўствам, ні з публіцыстычнай ды культурасофскай эсэістыкай на вакалітаратурныя тэмы. І разам з тым, іх адзнакі (элементы) без асаблівых цяжкасцяў адшукваюцца ў межах аднаго артыкула. Набываючы веер выгодаў, аўтар мусіць быць падрыхтаваны да таго, што як мінімум утрая можа павялічыцца колькасць хібаў (наяўных і ўяўных) — у залежнасці ад таго, чытач якой «спецыялізацыі» блукае па кнізе.

Так, «літаратурны журналіст» не будзе шнарыць па бібліяграфічным спісе, каб у экстазе вышукаць сярод твораў Андрэя Федарэнкі «Літоўскага ваўка» Алеся Наварыча, а ў артыкуле «Алесь Наварыч» — памылку ў сапраўдным прозвішчы законнага гаспадара «…ваўка» (дзе той, дарэчы, займае належнае месца). Ён па-хуткаму будзе раскручваць тэму «Леанід Галубовіч — жанчынаненавіснік», ігнаруючы аўтарскі кантэкст і правілы карэктнага цытавання (унікаючы гэтага, раім наўпрост звярнуцца да артыкула «Леанід Галубовіч»). У сваю чаргу, прыхільнік літаратуразнаўчага традыцыяналізму будзе скептычна ўзважваць «лёгкую інтанацыю» ў «Баладзе пра стайню» Міхася Скоблы, высочваць, якім шляхам Уладзімір Карызна трапіў у «барды» («Эдуард Акулін і іншыя Барды»), вохкаць над «тэмай смалення свініны», да якой, паводле А. Макміліна, «звярталася шмат беларускіх пісьменнікаў і паэтаў» («Міхась Стральцоў»). Урэшце, цікава свята паразумення прычакае і ён — напрыклад, у раздзеле «Рыгор Барадулін: паэт на ўсе часы», дзе аўтар апелюе да шырокага кола літаратуразнаўчых прац ды крытычных публікацый, няспешна аглядае набыткі «творцы надзвычай размаітага, насамрэч неверагодна шматбаковага, з велізарным наробкам».

Увогуле ж, шанец паразумецца на грунце кнігі А. Макміліна «Пісьменства ў халодным клімаце» маюць практычна ўсе чытачы, неабыякавыя да беларускай літаратуры як квінтэсэнцыі беларушчыны, незалежна ад ступені «кваліфікаванасці» і грамадска-палітычнага тэмпераменту. У адрозненне ад істотнай часткі прадстаўнікоў сённяшняй беларускай літаратурнай супольнасці, А. Макмілін на пытанне: «Ці вартая чаго-небудзь беларуская літаратура?», якое яму шмат хто задае за межамі Беларусі, «заўсёды адказвае перакананым «так». Умова ўсяго адна — дачытаць кнігу да апошняй старонкі, дзе фінальная ода маладым беларускім пісьменнікам пераходзіць у гімн усёй беларускай літаратуры, якая «на пачатку ХХІ ст. можа з годнасцю вытрымаць параўнанне з любой іншай». Узнагародай будзе кароткатэрміновае, але шчасце, хісткага, але поўнага ўзаемаразумення.

Ёсць, аднак, катэгорыя тытачоў, якім «Пісьменства ў халодным клімаце» рашуча супрацьпаказанае. Калі ад упэўненасці прафесара Лонданскага ўніверсітэта ў годнай будучыні беларускага мастацтва слова кепска будзе (накрые хвала раздражнення, здарыцца выкід вербальнай жоўці ці нават метафізічныя канвульсіі і да т.п.), прыміце неадкладныя меры — дарма (!) перадайце кнігу каму-небудзь іншаму.

І выздараўлівайце...

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 1 СТУДЗЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ




### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.25** Мультфільмы («Беларусьфільм»).
**08.05** Сямейная камедыя «Элвін і бурундукі-2» (ЗША).
**09.25** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма аб турызме.
**09.55** Да цешчы на бліны.
**10.25** Камедыя «Джэнтльмены поспеху» (СССР).
**12.00, 15.00** Навіны.
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**14.10** Выпадковая навагодняя сувязь.
**15.10** Тэлефільм АТН «Дзіцячае Еўрабачанне-2011. за кадрам».
**15.40** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна). 3-я і 4-я серыі.
**17.45** Суперлато.
**18.35** «Песня года-2011». Частка 1-я.
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.45** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**21.55** «Песня года-2011». Частка 2-я.
**00.15** Камедыя «Пацалунак праз сцяну» (Расія).

### ОНТ

**08.00** Камедыя «Аперацыя «З новым годам!».
**09.50** Мультфільм «Шчаўкунок».
**10.15** Фільм «Марозка».
**11.50** Камедыя «Іван Васільевіч змяняе прафесію».
**13.35** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга. Фінал.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Камедыя «Джэнтльмены поспеху».
**17.50** Фільм «Іронія лёсу. Працяг».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Вялікая розніца». Навагодні выпуск.
**22.45** Прэм'ера. Камедыя «Елкі».
**00.25** Прэм'ера. «20 лепшых песень года».

### СТВ

**06.55** Музычная камедыя «Нябесныя ластаўкі». СССР, 1976 г. 2 серыі.
**09.10** «Салдаты. Новы год, твой дывізіон». 2 серыі.
**10.45** «Вялікі сняданак». Навагодні выпуск.
**11.25** Фільм «Шукайце жанчыну». СССР, 1982 г. 2 серыі.
**14.10** «Добры дзень, доктар».
**14.45** Фільм «Елкі». Расія, 2010г.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Зорны рынг».
**19.00** «Аўтапанарама». Навагодні выпуск.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Прадаецца дача». Расія.
**22.30** Кубак чэмпіёнаў Міжнароднага Звяза КВЗ.
**01.20** «Дванаццаць месяцаў». Тэлевізійны музычны фільм.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.05** «Губка Боб - Квадратныя штаны». Мультфільм (ЗША).
**09.30** Камедыя «Адзін дома-4» (ЗША).
**10.55** Тэлебарометр.
**11.00** Музычна-забаўляльная праграма.
**11.30** Ясі і худзей.
**11.55** Школа рамонту.
**12.50** Інтуіцыя.
**13.45** «Маша і Мядзведзь». Мультфільм.
**14.40** Фантастычная анімацыйная камедыя «Шрэк» (ЗША).
**16.20** Фантастычная анімацыйная камедыя «Шрэк-2» (ЗША).
**18.00** Кінаспробы.
**18.30** Лірычная камедыя «Той самы Мюнхгаўзен» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Камедыйны баявік «Адпетыя ашуканцы» (Францыя).
**23.30** Інтуіцыя.

### РОССИЯ

**05.30** «Гарадок».
**06.15** «Лепшыя песні». Святочны канцэрт.
**08.00** Камедыя «Добры дзень, я ваша цётка!».
**09.45** Мультфільмы.
**10.10** Навагодні каляндар.
**10.15** Фільм «Вусаты нянь».
**11.35** Музычны фільм «Кажан».
**14.00** Весткі.
**14.10** Камедыя «Крок насустрач».
**15.40** Фільм «Стылягі». 2008 г.
**18.15** Прэм'ера. «Гумар года».
**20.05** Прэм'ера. «Песня года». Частка першая.
**22.35** Прэм'ера. «Першы Навагодні вечар».
**00.05** «Навагодняя Сваты».

### НТВ

**05.50** «Незвычайны канцэрт».
**06.45** Дэтэктыўны серыял «Шпікі».
**08.20** Камедыя «Дрэсіроўшчыца тыграў».
**10.00** Музычная камедыя «Чарадзеі».
**12.30** Дэтэктыўны серыял «Павуцінне- 2».
**15.45** Дэтэктыўны серыял «Павуцінне-2».
**19.00** Сёння.
**19.30** Дэтэктыўны серыял «Павуцінне- 2».
**22.50** Прэм'ера. «Эххх, Разгуляй!» Усенародная танцавальная пляцоўка.
**01.15** «Эпоха застолля».

### EUROSPORT

**10.30** Ралі. Ралі рэйд. «Маршрут Дакара». Часопіс.
**11.00** Ралі. Ралі рэйд. «Курс на Дакар». Часопіс.
**11.30** Вось дык так!!!
**12.30** Хакей. Давос (Швейцарыя). Фінал.
**13.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Турнэ 4-х трамплінаў. Кваліфікацыя. HS 140.
**14.30** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Мужчыны/жанчыны. Оберсдорф (Германія).
**15.00** Live. Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Мужчыны. Оберсдорф (Германія).
**15.45** Live. Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Турнэ 4-х трамплінаў. HS 140.
**17.45** Live. Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Жанчыны. Гонка пераследу. Оберсдорф (Германія).
**18.45** Live. Горныя лыжы. Кубак свету. Мюнхен (Германія).
**20.00** Футбол.
**21.00** Футбол.
**22.00** Бокс. Турнір Bigger's Better. Лісабон (Партугалія). Фінал.
**23.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Турнэ 4-х трамплінаў. HS 140.
**00.00** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Мужчыны. Гонка пераследу. Оберсдорф (Германія).
**00.30** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Тур дэ Скі. Жанчыны. Гонка пераследу. Оберсдорф (Германія).
**01.00** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. 1-ы этап.
**01.45** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Турнэ 4-х трамплінаў. HS 140.
**02.45** Ралі. Ралі рэйд. Дакар. 1-ы этап.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Агнём і мячом», серыял: 1 серыя.
**08.50** Калыханка для самых маленькіх.
**09.35** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**10.00** «Снежны завулак 10», навагодні канцэрт.
**11.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.15** «Агнём і мячом», серыял: 1 серыя.
**12.10** «Снежны завулак», навагодні канцэрт.
**12.35** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.00** Калыханка для самых маленькіх.
**14.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**14.10** «Восень у Нью-Йорку», маст. фільм, 2000 г., ЗША.
**15.55** МакраФон: «Канцэрт гурта «N.R.M.»: ч. 1.
**17.15** «Кніга рэкордаў Шуткі», дак. фільм, 2005 г., Сербія і Чарнагорыя–Чэхія–Славакія.
**18.40** «Таямніцы Ватыкану», дакументальны серыял: 3 серыя.
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.20** Калыханка для самых маленькіх.
**19.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**19.55** «Агнём і мячом», серыял: 2 серыя.
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.45** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.10** Фільматэка майстроў: «Каралева», маст. фільм, 2006 г., Францыя–Вялікабрытанія–Італія.
**23.45** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**23.55** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.30** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль газету «Новы час» не магчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанк», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый.
Бабруйск:(8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк 8-044 755 66 48 Марына

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 750 руб. аднаго месяца — 3000 руб.

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня

Кассир Всего

ЭПОХА

# ПЕРШЫ ЧАЛАВЕК ПЛАНЕТЫ

Іван БІЧ

**Адной з інтрыг кожнага года з'яўляецца апошні снежаньскі выпуск часопісу «Time», на вокладцы якой змяшчаецца выява персоны года.**



Барак Абама



Рычард Стэнгел



Джуліан Асанж



Пратэстуючы чалавек

Як вядома, персонай 2011 года абраны «чалавек пратэстуючы» — калектыўны зборны вобраз удзельніка адной са шматлікіх маніфестацый. Выбар цалкам слушны. 2011 год запомніўся перш за ўсё як год вулічных рэвалюцый і пратэстаў, якія змянілі палітычную мапу свету. Язмінавая рэвалюцыя ў Тунісе, пратэсты нязгодных у Іспаніі, мітынгі ў Ізраілі, рэвалюцыя ў Лівіі, маўклівая рэвалюцыя ў Беларусі, акцыя «Occupy...» у ЗША, т. зв. «белая рэвалюцыя» ў Расіі пасля думскіх выбараў, хваляванні ў Казахстане…

Увогуле, традыцыя вызначаць чалавека года ўзнікла ў 1927 годзе. Спачатку рэдакцыя «Time» ніякіх глабальных планаў не будавала. Проста хацела ўзгадаць пра славутага авіятара Чарльза Ліндэнберга, які загінуў падчас трансатлантычнага пералёту ў тым самым годзе. Шукалі нагоду — і знайшлі. Вырашылі, што яго выяву на вокладцы можна падаць пад назвай «Чалавек года».

Ідэя спадабалася чытачам. Напачатку 1930-х гадоў з'яўленне партрэта на першай старонцы «Time» становіцца важнай падзеяй. У прынцыпе, 1930–1940-я гады былі зоркавым часам для выдання. Трэба згадаць, што часопіс, які быў заснаваны ў 1923-м, і так быў першым штотыднёвікам у краіне. Не проста першым, а піянерам жанру. Практычна ўсё штотыднёвікі, які з'явіліся пазней, эксплуатавалі ідэі Брытана Хадэна і Генры Люс — заснавальнікаў «Time». Ідэя простая — распавядаць пра сур'ёзныя падзеі простай мовай.

Таму не дзіўны і поспех рубрыкі «Чалавек года». Так, дарэчы, яна называлася да 1999 года, калі яе перайменавалі ў «Персону года». Папросту «Чалавек года» гучаў неяк не адпаведна эпохсе гендэрнай роўнасці. Па-англійску «Man of the year» можна перакласці як «Чалавек года» або «Мужчына года».

Хаця і раней, да 1999 года, на вокладцы «Time» з'яўляліся кабеты. Першай стала Уоліс Сімпсан, жонка былога караля Эдуарда VIII. Менавіта жаданне караля ажаніцца з двойчы разведзенай Уоліс Сімпсан стала прычынай яго адрачэння ад кароны ў снежні 1936 года.

У наступным годзе разам са сваім мужам Чан Кай Шы стала пераможцай кітайка Сун Мейлін. У той час у 1936–1938 гадах яна была міністрам авіяцыі гаміндана ўскага ўраду і ў той жа год вызваліла свайго мужа, якога ўзялі ў палон кітайскія генералы.

Наступнага разу кабетам давялося чакаць 15 год. У 1952-м персонай года была абраная Елізавета Другая, якая тады каранавалася. У 1975-м персонай года сталі аж 12 амерыканскіх жанчын. Большасць з іх імёнаўрад нам нешта скажуць. Хіба што Беці Форд — жонка тагачаснага прэзідэнта ЗША Джэральда Форда.

Кабеты яшчэ два разы з'яўляліся на вокладцы «Time», аднак таксама ў кампаніі. У 2002-м галоўны прыз дастаўся тром кабетам, якія раскрылі шэраг злачынстваў у тым ліку махінацыі ў карпарацыі Enron. У 2005-м лаўрэатам стала жонка Біла Гейтса Мелінда. Яе ўзнагародзілі за філантропію.

Перакос пры выбары назіраецца не толькі ў гендэрным пытанні. Абсалютная большасць герояў года — амерыканцы. Прычым далёка не самыя вядомыя. Сярэднестатыстычнаму еўрапейцу мала што скажа прозвішча Уільяма Уэстморленда (англ. William Childs Westmoreland), які красаваўся на вокладцы «Time» у 1965 годзе . Хіба толькі гісторыкі згадаюць, што Уэстморленд быў камандуючы войскамі ЗША ў В'етнаме. Можа, трошкі больш скажа прозвішча Джэймса Бірнса.

У 1946 годзе адзначылі тагачаснага дзяржаўнага сакратара Штатаў. Лічыцца, што гэта ён прымусіў Трумена кінуць атамныя фугасы на Японію.

Не дзіўна, што ў спісе персонаў года сярод палітыкаў дамініруюць амерыканскія прэзідэнты. Больш за ўсіх намінантам быў Франклін Рузвельт — у 1932, 1934 і 1941 гадах. Два разы на вокладцы фігуравалі Рональд Рэйган, Дуайт Эйзенхаўэр, Лінда Джонсан, Рычард Ніксан і Джордж Буш-малодшы. Сярод іншаземцаў двойчы атрымліваў першы прыз толькі Уінстан Чэрчыль, Сталін і Міхаіл Гарбачоў. Сярод іншых палітыкаў СНД і СССР пераможцамі былі Мікіта Хрушчоў, Юрый Андропаў і Уладзімір Пуцін.

Самі рэдактары «Time» не згодныя з тым, што яны занадта сімпатызуюць амерыканцам. Як прыклад узгадваюць выпуск 1979 года. Тады форзац часопісу ўпрыгожваў аятала Хамейні — лідар ісламскай рэвалюцыі і перакананы праціўнік амерыканскай гегемоніі ў свеце.

Аднак крытыкі лічаць, што гэта лухта. Пры гэтым згадваецца выбар 2001 года. Тады ўвесь свет жыў падзеямі 11-га верасня і, натуральна, выбар мусіў быць канцэптуальна звязаны з атакай на вежы-блізняты. У рэдакцыі «Time» абралі чалавекам года Рудольфа Джуліяні, мэра Нью-Ёрка, які сапраўды шмат папрацаваў над ліквідацыяй наступстваў трагедыі. Аднак, кажучы шчыра, Джуліяні моцна прайграе маньяку Асаме бен Ладэну, імя якога было на вуснах усіх людзей.

Таксама шмат каму не спадабаўся прынцып адбору персоны XX стагоддзя, які рэдакцыя правадзіла ў 1999 годзе. У конкурсе перамог Альберт Энштэйн. Срэбра дасталася Махатму Гандзі, а бронза — Франкліну Рузвельту. Праблема заключалася ў тым, што да конкурснай праграмы не быў дапушчаны Адольф Гітлер, чый уплыў, хаця і вельмі адмоўны, на ход гісторыі мінулага стагоддзя відавочны. Выдаўцы апраўдваліся тым, што яны хацелі абраць асобу, якая найбольш паўплывала на будучыню чалавецтва. Між іншым, дарэчы, Гітлер па версіі «Time» быў персонай года ў 1938 годзе.

Не менш дасталася рэдакцыі «Time» за выбар 2006 года. Асобай года быў абраны «ты». Пад «ты» разумеўся звычайны карыстальнік сацыяльных сетаў, які, на думку рэдакцыі, дазваляе кантраляваць усё. Вокладка, дарэчы, была зроблена на люстэркавай паперы, каб чытач мог пабачыць сябе. У 2006 годзе такую ідэю не зразумелі, палічылі, што рознага кшталту Facebook і vkontakte — гэта забава тынейджараў. Аднак з улікам рэвалюцый мінулага года, выкліканых праз інтэрнэт, тая крытыка здаецца памылковай.

Калі ўжо гаворка пра калектыўных «персонаў года», то варта згадаць іншых пераможцаў. Гэта амерыканскі салдат — удзельнік вайны ў Карэі (1950), удзельнік венгерскага паўстання 1956 года і персанальны кампутар — 2006-м. У 1998 першае месца дасталося планеце Зямля. Такім чынам выданне жадала прыцягнуць увагу да праблемы глабальнага пацяплення.

Як было сказана вышэй, у гэтым годзе лаўрэатам зноў стаў ананім — чалавек пратэстуючы. Аднак на гэта раз выбар не выклікаў вялікіх заўваг. Больш таго, як смяецца прэса з палітычнай напружанасці ў Расіі і новай фазы глабальнага эканамічнага крызісу ў наступным годзе, «чалавек пратэстуючы» можа зрабіць дубль — другі запар стаць персонай года. Пачакаем да канца 2012-га.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Без дэмакратыі Беларусь ніколі не стане паўнавартаснай незалежнай дзяржавай і будзе заставацца ў цені расійскай геапалітыкі. У той жа час без суверэнітэту ў Беларусі не сфармуецца дэмакратычная сістэма, бо аўтарытарызм утрымлівае рэспубліку ў сферы ўплыву Расіі. Адзіным пытаннем з'яўляецца, ці хопіць у нацыянальных сіл краіны на гэта часу. Імкненне Масквы рэалізаваць такі геапалітычны праект, як Еўразійскі саюз, няздольнасць Лукашэнкі гэтаму процідзейнічаць ствараюць рэальную пагрозу страты суверэнітэту Беларусі, што на доўгі час затармозіць не толькі развіццё дэмакратыі ў рэспубліцы, але і нацыянальнае адраджэнне.

**Gazeta.ru (Расія)**

Шэраг аналітыкаў называе Расію новым гульцом у барацьбе за палітычныя прыхільнасці беларусаў — асабліва пасля таго, як кіраўніцтва карпарацыі «Газпрам» паабяцала ўдвая падняць зарплату беларускім працоўным набытага ёй «Белтрансгаза». Але прэзідэнт Лукашэнка з падобнымі ўплывамі будзе змагацца. Гэты год быў цяжкім для ўлады, і менавіта ў сілу эканамічных цяжкасцяў улады давялося ўмацоўваць сілавы складнік рэжыму. Вобразна кажучы, цяпер улада ў Беларусі сядзіць на іголках. Нязручна, але мае намер уседзець.

**BBC (Вялікабрытанія)**

Кангрэс Злучаных Штатаў Амерыкі мае намер прыняць адмысловы закон, закліканы ўзмацніць ціск на афіцыйны Мінск, каб дамагчыся ад улад Беларусі вызвалення палітвязняў. Адным з рычагоў ціску на Аляксандра Лукашэнка, па меркаванні амерыканскіх сенатараў, павінен стаць хуткі ў 2014 года чэмпіянат свету па хакеі.

**Delfi (Літва)**

Ёсць дзве акалічнасці, якія тлумачаць кантраст паміж цвёрдай рыторыкай ЕС у стаўленні да Лукашэнкі і мяккасцю рэальных мер. Адна з іх — гістарычная. Еўропа не прызвычаілася гуляць мускуламі. За рэдкімі выключэннямі, яна не любіць жорсткія санкцыі і сілавыя рашэнні, а калі ўдзельнічае ў санкцыях, то ўслед за амерыканцамі. Другое — кан'юктурнае. Цяжкая фаза эканамічнага крызісу — не лепшы час заклікаць еўрапейскія дзелавыя колы да згортвання рашэння бізнэсу. Адна справа — далёкая Сірыя, іншае — бліжэйшы сусед. Некантралюемы выбух і хаос у Беларусі з разрухай і лавінай уцекачоў могуць сасніцца еўрапейцам толькі ў страшным сне.

**«Новая газета» (Расія)**

Эксперты канстатуюць, што ў 2011 годзе ў беларускім грамадстве адбыліся значныя змены, узмацнілася расчараванне ва ўладзе. Але гэта не прывяло да росту колькасці прыхільнікаў іструцыянальнай апазіцыі.

**Deutche Welle (Германія)**

А ў Беларусі была плошча Незалежнасці 19-га снежня 2010 года. Плошча бязлітасна разагнаная, рэпрэсаваная, перасаджаная. Гэта быў удзюбёны расійскі слоган часоў «каляровых» рэвалюцый — даць рэвалюцыі ў пысу! Вось Лукашэнка і даў — яшчэ не рэвалюцыі, яшчэ маніфестацыі, якая пратэставала супраць дэманстратыўнай фальсіфікацыі вынікаў выбараў прэзідэнта краіны. Першых за шматлікія гады выбараў, якія магліб стаць сапраўдным палітычным змаганнем. І завяршыцца калі не паразай Лукашэнкі, то хоць бы сур'ёзнай дыскусіяй пра будучыню краіны, магчымай у выпадку правядзення другога тура галасавання. А можа, і не было б другога тура — можа, усё і скончылася б у першым. Але толькі мы пераканаліся б у тым, што беларускія апазіцыянеры — не маргіналы, а палітыкі, якіх падтрымліваюць сотні тысяч, калі не мільёны людзей. З такімі канкурэнтамі давялося б лічыцца, іх бы не атрымалася проста не заўважаць, як гэта звычайна адбывалася з любімі апанентамі «бацькі». І апынулася, што для Лукашэнка значна прасцей знішчыць гэтых людзей, чым размаўляць з імі і ведаць пра іх існаванне, іх падтрымцы, іх аўтарытэт.

**«Новая Газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. ФРАНЦУЗСКАЯ МОВА ЯК КАМПРАМАТ

Незвычайны кампрамат знайшлі на рэспубліканца Уіларда Міта Ромні, які хоча стаць кандыдатам у прэзідэнты ЗША, яго праціўнікі з Партыі дэмакратаў. Яны знайшлі запіс, у якім Ромні свабодна размаўляе на французскай мове, і выклалі яго ў інтэрнэце. Разлік зроблены на тое, што амерыканскі кансерватыўны выбаршчык не любіць французаў з часоў вайны ў Іраку, калі Парыж адмовіўся дапамагаць янкі ў вайне супраць Садама Хусейна. Праўда, магчыма стужка выклікае адваротную рэакцыю. Першыя праймерыз наконт будучага кандыдата ад рэспубліканцаў пройдуць у лютым у штатах Нью-Гемпшыр і Аёва. Менавіта на мясцовую аўдыторыю разлічаныя кампраметуючыя Ромні ролікі. Праблема, аднак, у тым, што ў штаце Нью-Гемпшыр, які знаходзіцца на мяжы з франкамоўнай канадскай правінцыяй Квебек, кожны чацвёрты размаўляе па-французску. У гэтым плане свабоднае веданне французскай мовы можа наадварот стаць козырам для Ромні.

**Паводле французскай прэсы**




### УЗБЕКІСТАН. ФІЛЬМ ПРА ВЫСОЦКАГА – ЗАМАХ НА ГОДНАСЦЬ УЗБЕКАЎ

Хваля пратэстаў культурных дзеячаў супраць фільма «Высоцкі. Дзякуй, што жывы» дасягнула Узбекістана. З аднаго боку, гэта не выпадкова. Фрагментарна падзеі ў фільме адбываюцца ў Ташкенце, куды Высоцкі прыязджае з «левымі «гастролямі». Аднак узбекскія культуролагі крытыкуюць не фабулу і ідэю фільма і не чарнуху (як вядома, у фільме Высоцкі прымае наркотыкі і бухае), а адзін эпізод. У тым эпізодзе ўзбекскі таксіст, які вязе ў Бухару сяброўку Высоцкага, спрабуе яе згвалціць. Гэта сцэна выклікала выбух пратэсту сярод узбекскай інтэлігенцыі. Адзін з мясцовых кінакрытыкаў піша: «Хоць забіце, не паверу ў такое. Хто заўгодна, толькі не ўзбек пачне пры такіх акалічнасцях прыставаць да прыезджай! Лічы — да госці. Каб выдумаць падобнае, трэба валодаць ужо вельмі перакручанай фантазіяй». Дарэчы, «антыўзбекскі фільм» рыкашэтам ударыў па пазіцыях улады. Адным са спонсараў карціны быў фонд дачкі прэзідэнта Гульнары Карымавай.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### БЕЛЬГІЯ. АМНІСТЫЯ ЎСІХ НАЦЫСТАЎ?

У Бельгіі пасля 1,5 гадоў урадавага крызісу нарэшце сфармаваны ўрад. І адным з першых яго крокаў стала скандальная прапанова міністра юстыцыі Стэфана Дэ Клерка. Ён выступіў з ініцыятывай надаць амністыю ўсім бельгійцам, якія падчас Другой сусветнай вайны супрацоўнічалі з нацыстамі. Па словах міністра, такая мера дазволіць краіне назаўжды перагарнуць старонку гісторыі. Варта адзначыць, што Дэ Клерк належыць да правай фламандскай партыі, а ў часы акупацыі Бельгіі гітлераўцамі менавіта фламандцы, у адрозненне ад валонцаў, складалі касцяк акупацыйнай адміністрацыі. Яўрэйскія арганізацыі ўжо дружна запатрабавалі выключэння Дэ Клерка са складу ўраду. Дэ Клерк у адказ заявіў, што не будзе мінімізаваць маштабы ахвяраў Халакосту. Праўда, пра свой намер надаць амністыю для калабарантаў ён прамаўчаў.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. САСІСКІ СУПРАЦЬ ЯНУКОВІЧА



Нават гастранамічныя прадукты пачалі набываць ва Украіне палітычны падтэкст. Усё пачалося з таго, што на днях прэм'ер-міністр Мікола Азараў заявіў пра тое, што адмаўляецца ад «кілбасы і сасісак» з-за іх кепскай якасці і пераходзіць на натуральныя прадукты. Пры гэтым ён дадаў, што «ў тых прадуктах можа быць усё што заўгодна. Таму мы разам пазмагаемся за якасць прадуктаў». Адразу ж па камандзе апазіцыя пачала выкарыстоўваць сасіскі як сімвал пратэсту. Так, 14 снежня, на дзень нараджэння Юрыя Луцэнкі, былога лідара аранжавай рэвалюцыі, які сядзіць у турме, родныя падаравалі яму вялікую партыю баварскіх сасісак. Увогуле, заява Азарава яўна не дабавіла яму пунктаў папулярнасці. «Як Азараў можа вырашаць глабальныя праблемы, калі ён не здольныя навесці парадак у вытворчасці сасісак. Горка і смешна», — піша вядучы апазіцыйны медыярэсурс «Украінская праўда».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

ЦІКАВА

# ЯК СМЯЯЦЦА ПРЫ ДЫКТАТУРЫ

*Алег НОВІКАЎ*

**Польшча адзначае 30-я ўгодкі ўвядзення вайсковага становішча. Перамагчы дыктатуру Ярузельскага палякам у той час дапамог таксама гумар.**




Кожны юбілей увядзення васковага становішча — гэта заўсёды спрэчкі гісторыкаў. Безумоўнай фішкай цяперашніх гістарычных дэбатаў ёсць вялікая ўвага да паўсядзённага жыцця ў часы вайсковага становішча. Тое жыццё рэдка складалася з маніфестацый або сутычак з паліцыяй. У курылках, у чэргах, на прыпынках ішоў працэс дэлегітымізацыі ўлады, якая ў выніку дасягнула такога маштабу, што прымусіла рэжым пагадзіцца і на круглы стол. І, безумоўна, вялікую ролю адыграў гумар, які падрываў усе спробы афіцыйных прапагандыстаў нармалізаваць сітуацыю.

Дзіўна, аднак тагачасны кіраўнік рэжыму Войцех Ярузельскі не выступае галоўным героем жартаў. Хаця, натуральна, і яму перапала: «Чаму ў тэатры Ярузельскі заўсёды сядзіць у першым шэрагу? — Хоць такім чынам ён можа мець за сабою народ».

Пальма першынства тут належыць міліцыянерам. Думаецца, што ў Польшчы і раней міліцыянеры былі аб'ектамі жартаў. Аднак у 1980-я мы назіраем папросту каскад анекдотаў наконт людзей у пагонах. Міліцыянер, відавочна, выступае як ніжняе звяно дыктатуры, служыць якой, на думку людзей, могуць поўныя ідыёты. Адсюль анекдоты накшталт гэтага: «Чаму міліцыянер складвае газеты ў халадзільнік? — Ён хоча, каб яны заставаліся як мага даўжэй свежымі». Або «На аўтобусным прыпынку стаяць два міліцыянера. Адзін пытае другога: «Які нумар чакаеш?» — «Адзінку, а ты?» — «Двойку». Падыходзіць аўтобус нумар 12 і абодва ў яго садзяцца». З той жа оперы: «Кіраўнік аднаго з міліцэйскіх аддзелаў збірае асабовы склад і кажа: «Ёсць інфармацыя пра тое, што апошнім часам пра міліцыю пачалі складаць шмат анекдотаў. Аднак вы не хвалюйцеся, 99 працэнтаў з тых анекдотаў незразумелыя». Нарэшце, такі: «Міліцыянер піша калегу: «Франэк, пішу павольна, паколькі ведаю, што ты не можаш хутка чытаць».

Дарэчы, калі чытаеш польскія анекдоты пра міліцыянераў, кідаецца ў вочы, што месцам дзеяння анекдота служыць кнігарня. «Міліцыянер у кнігарні пытаецца ў гандляра: «Хацеў бы пачытаць нешта інтэлектуальнае». — «Можа, Кафку?» — прапануе гандляр. — «Дзякуй, кавку я ўжо яе сёння піў». Таксама пра кнігарню і міліцыянераў: «Міліцыянеры заходзяць у кнігарню. «Матка Боска, няўжо на вуліцы дождж?» — кажа, калі бачыць іх, гандляр». Яшчэ адзін: «Міліцыянер прыходзіць у кнігарню і кажа, што кіраўніцтва загадала яму нешта пачытаць. Гандляр: «Я знайду для вас нешта лёгкае». Міліцыянер: «Не хвалюйцеся — я на машыне».

Наступны па папулярнасці герой анекдотаў часоў вайсковага становішча — жаўнер атрадаў ZOMO (нешта накшталт нашага спецназу). ZOMO непасрэдна займалася вельмі брутальнымі разгонамі дэманстрацый і арыштамі апазіцыянераў. Таму анекдоты пра ZOMO больш злыя, часам нават на мяжы этыкі. «Дзе жаўнер ZOMO павінен насіць нож? — Лепш за ўсё ў спіне». Або: «Сцэна падчас споведзі ў Касцёле. Вернік: «Ойча, я забіў жаўнера з ZOMO». Ксёндз: «Перш за ўсё ты павінны распавядаць пра грахі, а не хваліцца».

Калі мы кажам пра паўсядзённае жыццё, нельга не згадаць тэму эканомікі. Спадарожнікамі жыцця пры дыктатуры былі карткі, талоны. Інтэр'ерам вулічных сцэн — вялізарныя чэргі ў крамах. Стоячы ў іх, людзі распавядалі анекдоты. Напрыклад, такі: «Чаму ў Польшчы ўвялі ваеннае становішча? — Таму што з-за дэфіцыту немагчыма было ўвесці пераддваеннае». Таксама: «Сустракаюцца двое. Першы: «Чуў, на партыйным з'ездзе Ярузельскі распавядаў пра поспехі польскай эканомікі. Нават Рымскі папа звярнуў на гэта ўвагу ў сваёй апошняй прамове». — «А што сказаў Рымскі папа? — Езус Марыя!». Нарэшце: «Чаму Польшча падзеленая на 49 ваяводстваў? — Таму што ў гульні «Тоталота» (польскі аналаг Спортлато) таксама 49 шароў, і такім жа метадам, як у «Тоталота», можна справядліва высветліць, якое ваяводства атрымае на гэтым тыдні мяса».

Асобны накірунак анекдотаў — смех з палітыкі закручвання гаек. Двое стаяць на вуліцы. Адзін кажа: «Давай арыштуем таго мінака за парушэнне камендацкай гадзіны». — «Аднак да камендацкай гадзіны яшчэ 10 хвілін». — «Не хвалюйся. Я яго ведаю. Ён жыве на другім канцы гораду. Дакладна за 10 хвілін не паспее дабрацца». Яшчэ адзін анекдот: «Двое палякаў — гэта несанкцыянаваны пікет, чатыры — нелегальная дэманстрацыя, а дзесяць мільёнаў — купка экстрэмістаў».

У фокус смеху трапіла мілітарызацыя грамадства. «Размова ў сям'і: «Мама, чаму па тэлебачанню больш не паказваюць мультфільм пра пчолку Маю?» — «Напэўна, не знайшлі такога малога мундзіра».

Новае дыханне атрымалі ў той час анекдоты пра Кавальскага — стэрэатыпнага сярэднята паляка. «Кавальскі набыў набор пазлаў, склаў іх і кажа жонцы: «Мне спатрэбілася ўсяго тры дні!» — «Ну і што з гэтага? Некаторыя складаюць пазлы яшчэ хутчэй», — кажа жонка. — «Не скажы. На каробцы напісана: ад трох да пяці гадоў».

Дасталася ад прыкольшчыкаў партыі і органам улады. Як вядома, 14 снежня, на наступны дзень пасля ўвядзення вайсковага становішча, шмат людзей падалі заявы пра выхад з афіцыйнай Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Пра гэта быў складзены анекдот. Кавальскі прыносіць заяву пра выхад з партыі: «Нашто вы гэта робіце?» — пытае сакратар. Кавальскі: «У мяне дзве падставы. Па-першае, калі нешта зменіцца, то мне давядзецца за гэта адказваць». — «Я гарантую, што нічога не зменіцца». — «Бачыце, таварыш, а гэта другая прычына».

Тады ж прыдумалі запаветы сапраўднага камуніста, сярод якіх ёсць перлы: «У вольную суботу хадзі на работу», «Не пажадай маёмасці блізкага свайго. Таму што ў яго і так нічога няма», «Не забі класавага ворага. Для гэтага ёсць байцы ZOMO».

Асобная тэма прапаганды — дзяржаўныя СМІ. Анекдот пра газеты: «Адзіная праўдзівая інфармацыя ў газетах, гэта дата». Або «Мужчына нясе тэлевізар. «У рамонт?» — пытае знаёмы. — «Не, у Касцёл. Увесь час брэша і брэша. Час ужо пакаяцца».

Цікава, што шматлікія тагачасныя польскія анекдоты дасюль актуальны. Усё дзякуючы аўтарытарным рэжымам СНД. Нашы людзі імпартавалі польскія жарты часоў дыктатуры з-за Бугу і трошкі перапрацавалі адпаведна нашым рэаліям. Да прыкладу анекдот пра сустрэчу Гітлера і Ярузельскага. Ярузельскі кажа: «Калі б меў такое войска, як у цябе, то за два б дні пакончыў з «Салідарнасцю». — «А калі б я меў тваё тэлебачанне, то свет дасюль бы не даведаўся, што я прайграў вайну». Гэты анекдот, з некаторымі папраўкамі на асобы, распавядаюць у Казахстане, Беларусі і Расіі.

Так што ў пэўным сэнсе «Салідарнасць» дасюль смяецца.

**КАМЕНТАР**

# «ПАДАРУНАК» ДА ЮБІЛЕЮ

**20 снежня Казахстан адзначыў 20-годдзе незалежнасці. Своеасаблівым падарункам казахскага народа на адрас улады сталі хваляванні працоўных у Жанаазене. Пра іх прычыны, рэакцыю грамадства і ўплыў на хуткія парламенцкія выбары журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з праваабаронцам Андрэем Грышыным з Алма-Аты.**



***— Хто ж стаяў за беспарадкамі? Спачатку хваляванні звязвалі са страйкам нафтавікоў. Афіцыйная федэрацыя прафсаюзаў нават асудзіла працоўных, якія падаліся на правакацыі. Аднак апошнім часам у афіцыёзе актыўна мусіруецца тэма хуліганаў. «Казахстанская праўда» піша: «З матэрыялаў папярэдняга расследавання, прадстаўленых Генпракуратурай, відавочна, што нафтавікі ў пагромах і падпалах удзелу не прымалі».***

— Усё проста. Паколькі сама з'ява бунтуючага працоўнага люду не ўпісваецца ў каноны прапаганды, пастолькі ўлады прыдумалі нейкіх хуліганаў. Аднак калі прачытаць, як характарызуюць тых хуліганаў, то разумееш, што гэта тыя ж звычайныя працаўнікі. Па словах афіцыёза, іх адрознівае ад звычайных нафтавікоў тое, што яны ўжо некалькі месяцаў патрабуюць падвышэння саваёй і без таго немаленькай зарплаты, адмаўляюцца прыслухацца да голасу розуму і адпрэчваюць любую дапамогу ў працаўладкаванні і г.д. Але нават калі і хуліганы, якія і сапраўды зламалі елку на галоўнай плошчы, сарвалі канцэрт. Аднак у якой з краін у хуліганаў страляюць на паражэнне? Хіба толькі ў Казахстане.

***— Сярод тых, хто асуджае беспарадкі на старонках афіцыёзу, шмат прадстаўнікоў так званых оралманаў — групоўкі этнічных казахаў-рэпатрыянтаў. Што гэта азначае?***

— Неабходна прызнаць наяўнасць праблемы оралманаў у рэгіёне, аднак яна не перавышае сярэдні фонавы ўзровень па рэспубліцы. Для параўнання: у Алма-Аце оралманы былі вялікай праблемай падчас сутыкненняў з паліцыяй з-за захопленых імі тэрыторый. Наогул, як паказвае практыка, оралманы мірна працуюць (ці, наадварот, пратэстуюць), рэагуючы на мясцовую сітуацыю. Таму праблема оралманаў у Мангістаўскай вобласці існуе выключна ў рамках праблемы перанаселенасці рэгіёна. Проста тэма оралманаў вельмі зручная. Абарыгены іх не вельмі любяць і часам улады выкарыстоўваюць гэта на сваю карысць.

***— Ермухамет Ертысбаеў, дарадчык прэзідэнта Казахстана, не сумняваецца ў тым, што за паўстаннем сталі нейкія цэнтры. Цытую: «Мяркуючы па вельмі выразнай арганізацыі, жалезнай дысцыпліне, гэта, па-за ўсякім сумневам, старанна спланаваная і добра прафінансаваная, акцыя, да якой маглі прыкласці руку вонкавыя сілы».***

— Якія вонкавыя сілы, калі Казахстан адзін з лідараў па аб'ёме знешняга інвеставання? Дзеля гарантый бізнэсу Захад заўсёды зачыняў вочы на палітыку. З нафтавікамі кантактавала апазіцыя, аднак рэсурсу для арганізацыі такога ўзроўню акцыі ў яе няма. Проста сітуацыя ўзарвалася. Усё лета і восень адносіны паміж бастуючымі працоўнымі і нафтавай кампаніяй абвастраліся. На шэсць гадоў турмы была асуджана юрыст прафсаюзу нафтавікоў Наталля Сакалова — па абсурдным артыкуле — распальванне сацыяльнай нянавісці. Пасля былі забіты два прафсаюзных актывіста. Абодва злачынствы дагэтуль не раскрыты. У паліцыі нават няма падазраваных! Супрацьстаянне перарасло ў адкрытую нянавісць, калі аб перамовах ужо не магло быць і гаворкі. Паўплывалі і мясцовыя асаблівасці. У вобласці сапраўды нізкая якасць жыцця, перанаселенасць, малая колькасць зялёных зонаў у населеных пунктах. Адгэтуль вялікі стрэс, агрэсіўнасць. Нездарма шматлікія эксперты параўноўвалі гэтыя падзеі з паўстаннем у Тэміртаў, дзе ў 1959 годзе тры дні панавала анархія. Мяцеж лакалізавалі масавымі расстрэламі. Загінула 11 чалавек, а тысячы збеглі ў стэп. Цікава, што праз год у Тэміртаў прыехаў на працу малады металург Нурсултан Назарбаеў. Ён напэўна чуў пра паўстанне і ведаў, што яго чыннікамі былі не хуліганы, а сістэматычныя перабоі з забеспячэннем пітной вадой і прадуктамі, адсутнасць звычайнага жылля, дрэнныя ўмовы працы.

***— Літаральна напярэдадні Жанаазена Казахстан сканалунула серыя вайсковых сутычак з ісламістамі. Паміж гэтымі падзеямі няма сувязі?***

— Адным з фактараў, якія стрымліваюць распаўсюд рэлігійнага экстрэмізму, з'яўляецца адасобленае становішча казахскіх родаў Мангістаўскай вобласці і вынікаючы адгэтуль трайбалізм. Аднак сувязь паміж Жанаазенам і Акцюбе (горад дзе мелі месца самыя буйныя вылазкі ісламістаў), безумоўна, ёсць. З пачаткам крызісу сацыяльная несправядлівасць, пагаршэнне матэрыяльнага становішча насельніцтва, адсутнасць у вярхоў імкнення да прагрэсіўных змен сталі больш прыкметнымі. Паўстаў пратэстны рух разнастайных афарбовак. У сваю чаргу казахстанскія ўлады не змаглі стварыць эфектыўных механізмаў нейтралізацыі сацыяльных канфліктаў. Таму і хапіла аднаго толькі буйнога выступу наёмных работнікаў, каб урад паііўшоў на масавае забойства.

***— Якая на сёння сітуацыя ў горадзе нафтавікоў?***

— Пакуль рэгіён практычна закрыты. Але журналісты, што там пабывалі, малююць проста сюррэалістычную карціну. Горад цалкам акупаваны часткамі спецыяльнага прызначэння. На вуліцах наогул нябачна мужчын. Яны ўсё хаваюцца, бо з'яўленне на вуліцах пагражае ім немінучым арыштам — усе падазраюцца ў беспарадках. Арыштаваных адвозяць у невядомым кірунку. Ходзяць чуткі, што ў мясцовых турмах катуюць. Рэдкага мужчыну на вуліцы суправаджаюць звычайна як мінімум дзве жанчыны, намёртва ўчапіўшыся ў яго адзенне, каб калі што адбіць ад магчымага арышту. Па першым часе з-за блакады выраслі кошты. Яйка быццам каштавала амаль два долара. Але я пераказваю толькі чуткі, якія даходзяць з-за паліцэйскага кардона.

***— Афіцыёзная прэса перапоўнена лістамі і тэлеграмамі простых грамадзян, якія кляймяць пагромшчыкаў, сцвярджаюць сваё яднанне вакол лідара. Якая насамрэч рэакцыя насельніцтва?***

— Акрамя кампаніі ў прэсе папулярная практыка правядзення ў духу савецкіх часоў мітынгаў і сходаў, на якіх прымаюцца рэзалюцыі з асуджэннем беспарадкаў. Аднак большасць удзельнікаў гэтых мерапрыемстваў відавочна ўсё да лямпачкі. Тым больш, што на вуліцы холадна і стаяць на мітынгах не вельмі прыемна. У блогасферы вядома шмат эмоцый і чутак. Тая ж інфармацыя, што ў Жанаазен едзе Мінскі АМАП. Што да незалежнай аналітыкі, то яна звяртае ўвагу на сімвалічнасць падзеі. Пагромы адбыліся роўна ў 20-я ўгодкі незалежнасці Казахстана. Мімаволі ўзнікае пытанне: «Што ж сапраўды дасягнуў Казахстан за 20 гадоў з таго, што дэкларуецца ўладамі?» Сапраўды стаў краінай, дзе ўсё так добра? Дзе пануе сацыяльная справядлівасць? Дзе эканамічныя поспехі настолькі ўражваюць, што ім зайздросцяць усе астатнія краіны? Усё гэта аказалася блефам. Такі канфуз безумоўна накладзе адбітак на выбарчую кампанію ў парламент, якая днямі стартавала.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ВІКТАР ОРБАН



Прэм'ер Венгрыі, старшыня правай кансерватыўнай партыі Fidesz пачаў незвычайную вайну з сацыяльнымі работнікамі за немэтанакіраванае выкарыстанне кантэйнераў для смецця. Усё з-за прынятага на днях з ініцыятывы яго партыі закону, які забараняе венграм жыць на вуліцы. Першы раз бамжа чакае папярэджанне. Калі зловяць у другі раз на працягу паўгода, ён мусіць заплаціць штраф на фантастычную суму — 490 еўра (для даведкі: сярэдні заробак у Венгрыі складае 320 еўра). Зараз толькі ў Будапешце налічваецца каля 8000 бамжоў, з якіх палова спіць дзе давядзецца. На думку прэм'ера, новы закон прымусіць жабракоў шукаць працу і інтэгравацца ў грамадства. У супрацоўнікаў сацыяльных службаў іншае меркаванне. Яны, у прыватнасці, лічаць неабходным дазволіць няшчасным начаваць хаця б у смеццевых кантэйнерах (новым законам гэта катэгарычна забараняе). Увосень супрацоўнікі сацыяльных службаў правялі флеш-моб «Захапі кантэйнера пад начлег». Яго арганізатару далі тры гады турмы. Паказальна, што паляваннем на бамжоў будзе займацца спецыяльны аддзел у МУС.

### АЛЯКСЕЙ НАВАЛЬНЫ



Вядомы апазіцыйны блогер, аўтар тэрмін «партыя жулікаў і злодзеяў», які выкарыстоўваецца ў якасці мянушкі партыі «Адзіная Расія», выйшаў з турмы, куды трапіў 6 снежня за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў у Думу. Выхад на свабоду стаў падставай для публікацый пра Навальнага на старонках шматлікіх заходніх выданняў. Лейтматыў артыкулаў аднолькавы: Навальны — гэта новы твар расійскай апазіцыі. Такая раскрутка плюс вялікая падтрымка ў інтэрнэце дазваляе Навальнаму паўплываць на фармат антыпуцінскіх пратэстаў падчас будучых прэзідэнцкіх выбараў. Аляксей Венедыктаў, галоўны рэдактар незалежнай радыёстанцыі «Рэха Масквы», напісаў у «Твітары»: «Арышт Навальнага — палітычная памылка. Пасадка Навальнага — вывад лідара з анлайну ў афлайн». Аднак перашкодай Навальнаму — нежаданне старой ліберальнай апазіцыі прыймаць блогера за свайго. Як вядома, Навальны выступае не толькі супраць карупцыі і аўтарытарызму Пуціна, але таксама і за правы этнічных рускіх. Ён быў адным з аўтараў нацыяналістычнай маніфестацыі «Рускі марш». Акрамя таго, шмат каго сярод дысідэнтаў пужае папуліцкая рыторыка блогера. Валерыя Навадворская ўжо назвала Навальнага новым Лукашэнкам.

### ЭЙДАН БАРЛІ



Лічылася, што адзін з самых маладых дэпутатаў (яму 31 год) брытанскага парламента ад кансерватыўнай партыі, мае някепскую палітычную будучыню. Аднак гэта ўжо ў мінулым. Кар'ера Эйдана Барлі можна лічыць ляснулася з-за таго, што ён наведаў сяброўскую вечарыну, усе ўдзельнікі якой былі апранутыя ў касцюмы нацыстаў. Прысутная былі настолькі п'яныя, што аддавалі адзін аднаму нацысцкі салют і пілі за справу Трэцяга Рэйху. Спачатку скандал з вечарынай не выйшаў за рамкі некалькі артыкулаў у жоўтай прэсе і публічнага прабачэння Эйдана на адрас яўрэйскай камуны. Аднак пасля ў справу ўмяшалася французская паліцыя, паколькі ў Францыі нашэнне нацысцкай уніформы забаронена. Стала вядома, што адзін пратэст ведаў пра канцэпцыю вечарыны і нават апладзіў яе. Больш таго, ён п'яны крычаў: «Гімлер — ты мой фюрэр». Прэм'ер Кэмеран у кантэксце апошніх навін зняў Барлі з пасады аднаго з урадавых сакратароў. Супраць парламентарыя распачата ўнутрыпартыйнае расследаванне.





ПОСТАЦІ

# ЛАРЫСА ГЕНІЮШ І ЖЫРОВІЧЫ

Сяргей ЧЫГРЫН

*Жыровічы, славутая мясціна,*
*Здаўна пралажаны для нас дзядамі шлях.*
*Малітвы боль у нялёгкаю хвіліну*
*Мы на тваіх складаем алтарах.*

Гэтыя радкі з верша Ларысы Геніюш, напісаным паэткай на схіле жыцця, не толькі аб Жыровічах, але і аб яе ўласным шляху — пакутлівым і светлым. Нарадзілася яна ў 1910 годзе ў фальварку Жлобаўцы на Ваўкавышчыне. Вучылася ў Гудзевіцкай школе, закончыла Ваўкавыскую польскую гімназію.

У 1935 годзе ў Воўпенскай царкве на Ваўкавышчыне ўзяла шлюб са студэнтам медыцынскага факультэта Карлавага універсітэта з Прагі Янкам Геніюшам. Спачатку сям'я жыла ў Зэльве, а потым Ларыса Геніюш з сынам Юркам перабралася да мужа ў Прагу, дзе ён працаваў лекарам.

У 1943 годзе ў Празе выходзіць першы паэтычны зборнік паэткі «Ад родных ніў». Дарэчы, факсімільнае выданне гэтага зборніка пабачыла свет у Слонімскай узбуйненай друкарні ў 1995 годзе.

У Празе Ларыса Геніюш актыўна займалася літаратурай і грамадскай дзейнасцю, уваходзіла ў Беларускі камітэт самапомачы, была сакратаром Беларускай Народнай Рэспублікі.

5 сакавіка 1948 года Ларыса Геніюш разам з мужам была арыштаваная ў Чэхаславакіі і пазбаўлена чэшскага грамадзянства. Геніюшаў выдалі савецкім спецслужбам і пад канвоем даставілі ў Мінск. Яе асабіста дапытваў тагачасны міністр МГБ БССР Лаўрэнцій Цанава.

7 лютага 1949 года Вярхоўны суд БССР прыгаварыў Ларысу і Янку Геніюшаў да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Пакаранне паэтка адбывала на Поўначы ў Комі АССР, Мардоўскай ССР і ў іншых раёнах. У сталінскіх лагерах паэтка адбыла 7 гадоў. У 1956 годзе яе разам з мужам вызвалілі паводле пастановы ААН. Геніюшы прыехалі ў Зэльву, дзе і пражылі да канца свайго жыцця. На вуліцы Савецкай, 7а, былой Царкоўнай. Насупраць іх дома стаяла і па сёння стаіць Троіцкая царква, верніцай якой была Ларыса Антонаўна. У царкве цяпер знаходзіцца невялічкі пакой-музей, прысвечаны ёй, мемарыяльная шыльда, а побач з царквой — помнік. «Божа, барані Беларусь» — гэтыя тры словы адліты ў метале.

Пры жыцці і пасля смерці паэткі з друку выйшлі каля 20 кніг яе вершаў, прозы і эпісталярнай спадчыны. Тысячы паэтычных радкоў і пісем паэткі яшчэ знаходзяцца ў розных архівах і прыватных бібліятэках.

* * *

Жывучы ў Зэльве на былой Царкоўнай вуліцы (сказаць на Савецкай, у мяне не паварочваецца язык), Ларыса Антонаўна амаль штодня бывала ў Троіцкай царкве. Але самымі шчаслівымі момантамі ў яе жыцці быў той час, калі паэтка наведвала Жыровічы. Жырава — як яна казала і як заўсёды казалі і кажуць старэйшыя людзі Слонімскага, Івацэвіцкага, Пружанскага і Зэльвенскага раёнаў-суседзяў. Жырава Ларыса Геніюш любіла, любіла, як і Беларусь, — моцна і шчыра, заўсёды спяшалася туды, асабліва 20 мая, калі адзначаецца свята Жыровіцкага абраза Маці Божай.

Упершыню Ларыса, яшчэ Міклашэвіч, даведалася пра Жыровічы, калі яе родны брат Расціслаў вучыўся ў Жыровіцкай сельскагаспадарчай школе. Гэта быў, як згадвае ў сваёй «Споведзі» Ларыса Геніюш, высокі, прыгожы і паслухмяны хлопец. Пазней ён загіне на фронце Другой сусветнай вайны. Паэтка прысвяціць яму некалькі сваіх вершаў. У адным з іх яна напіша:



Ларыса і Янка Геніюшы

*Ты казаў калісьці: не сумуй, сястронка,*
*Над пакутным Краем злітуецца Бог.*
*Барані і цеш ты родную старонку,*
*А я буду бацькаў сцерагчы парог.*

Дзед Ларысы Геніюш Павел Міклашэвіч быў родам з Крынак з Беласточчыны. Ён ажаніўся ў 18 гадоў на 16-гадовай Марфе з вёскі Чамяры Слонімскага павета. Юная Ларыса вельмі часта бывала ў Чамярах, якія побач са Слонімам. Ну а быць у бабулінай вёсцы і не завітаць у Жыровічы быў бы для яе грэх. Таму дзяўчынка разам з бабуляй Марфай і з маці спяшалыся на вялікія святы ў Жыровічы.

Ці не Успенскі сабор і Крыжаўзвіжанская царква натхнялі паэтку на вершы, многія з якіх прысвечаны рэлігійным падзеям, а духоўнасць скразною лініяй праходзіць праз яе паэзію. У сваіх вершах паэтка пастаянна звяртаецца да Бога, просіць у яго дапамогі, бласлаўлення, дазволу.

А верш «Святы вечар» — калядная беларуская класіка, гімн Калядам. Ну, скажыце, калі ласка, хто ў беларускай літаратуры мацней і прыгажэй напісаў пра Каляды за Ларысу Геніюш? Ды ніхто. Бо многія нават ведаюць альбо часта чулі яе калядныя радкі:

*Каляда, Каляда, на зямлі — Святы Вечар,*
*Нарадзіўся у яслях Збавіцель і Бог.*
*І пасталі бярозаў танклявыя свечкі*
*Паабапал заснежаных, белых дарог…*
*Каляда, Каляда… Нават зорам трывожна.*
*Па заблытаных сцежках крутога жыцця*
*Да сваіх ў гэты вечар спяшаецца кожны,*
*Дзе ў сям'і за сталом нас чакае куцця…*

* * *

У 2008 годзе, калі творчая інтэлігенцыя Беларусі сабралася ў Троіцкай царкве ў Зэльве адзначыць 98 гадоў з дня нараджэння Ларысы Антонаўны, святар царквы, які праводзіў службу, сказаў аб тым, што ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі яны вывучалі творчасць і вершы Ларысы Геніюш. А яшчэ святар нагадаў, што Жыровічам Ларыса Геніюш прысвяціла адзін верш. Святар памыліўся. Жыровічам Ларыса Геніюш пры жыцці прысвяціла два вершы. Адзін з іх пачынаецца радкамі:

*Жыровічы — святы для нас куточак,*
*Дзе цэрквы ў неба вежы узнялі.*
*На дрэве Маці Божай абразочак —*
*Благаславенне для маёй зямлі…*

Упершыню гэты верш апублікавала газета «Звязда» 6 красавіка 1993 года. Публікацыю верша да 10-годдзя смерці паэткі падрыхтаваў пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік. Дарэчы, пазней верш пра Жыровічы паэткі друкаваўся ў многіх выданнях, у тым ліку і на старонках буклета «Свято-Успенский Жировичский Ставропигиальный мужской монастырь» (Мн., 2006). І хоць буклет выйшаў з друку на рускай мове, на яго старонках знайшлося месца і для чатырох строф выдатнага верша Ларысы Геніюш пра Жыровічы.

Другі верш пра Жыровічы, які апублікаваны ў «Зборы твораў у 2 тамах» (Мн., 2010) Ларысы Геніюш, адшукаў у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ф.31, воп.1, спр.16) пісьменнік Міхась Скобла. Верш складаецца з 9 строф па 4 радкі:

*Прыехаць у Жырава лёс мне выпаў,*
*Дождж хрысціць голаў грэшную маю.*
*І я пад голлем шматвяковай ліпы*
*Пілігрымам сціплым сцішана стаю.*

*Святыні побач белыя, як дзіва,*
*Ў абдымках хмараў і высокіх дрэў.*
*Ідзе святар, як галубочак сівы,*
*Стаміўшыся, на лаўку хтось прысеў.*

*Сюды травой, аброшанай і мяккай,*
*На цудатворны праможны кліч*
*Прыходзяць людзі з горам і падзякай.*
*Людскія душы ачышчае зніч.*

*Перада мной зямля мая святая,*
*Тут у паклоне дрэвы над вадой,*
*Дзе галубы бясшумна пралятаюць,*
*Ступала Маці Божая па ёй.*

*Не знатныя, а пастушкі віталі.*
*Да нас прыйшла ў вясняны дзень знарок*
*І Краю міламу, каб лепшымі мы сталі,*
*Пакінула на дрэве абразок.*

*Над намі храм, туманныя нябёсы.*
*Крынічанька пад храмам б'е з зямлі.*
*Як пастушок у світцы белай, босы,*
*Стаю, і слёзы твар мой залілі.*

*Адданасцю стукочуць нашы сэрцы*
*З крыніц благаслаўленных праўду піць.*
*Мінуласці святой з зямлі не сцерці*
*І веры ў Бога ў сэрцы не спыніць.*

*Жыровічы, славутая мясціна,*
*Здаўна пралажаны для нас дзядамі шлях.*
*Малітвы боль ў нялёгкую хвіліну*
*Мы на тваіх складаем алтарах.*

*Хай будзе мір, і згода будзе ўсюды.*
*Ды калі грозьбай азарыцца сінь, —*
*Нашай зямлі, дастойнай Тваіх цудаў,*
*Ў сваёй апецы, Божа, не пакінь!*

* * *

Гэты верш нібы з'яўляецца працягам папярэдняга верша пра Жыровічы. Усе яны былі напісаны паэткай у 1981 годзе. У тым годзе зэльвенскі святар Васіль Чыкіда, з якім Ларыса Антонаўна шчыра сябравала, узяў яе з сабой у Жыровічы на свята Жыровіцкага абраза Маці Божай. Ад той паездкі паэтка атрымала вялікае задавальненне. Яна так была ўзрушана і шчаслівая паездкай у Жырава, што пра гэта ў пісьмах пісала многім сваім сябрам. 23 чэрвеня 1981 года паэтка паведамляла Язэпу Найдзюку ў Польшчу: «Жывецца мне па-ранейшаму. Справа кніжкі нейк заглохла. Не вельмі гэтым праймаюся. Усё пакідаю часу. Тым часам наш святар узяў мяне з сабою ў Жыровічы. Быў дождж, але белыя вежы святыняў аж свяціліся на цемені хмараў і зелені дрэў. Пастаяла каля шырачэзнай ліпы, якой, кажуць, што ўжо многа соцень гадоў. Барадатыя Айцы паказалі мне святыні і іх цудоўныя скарбы. Сярод гэтай, духоўнай нейкай, цішыні я адчувала сябе, як у сярэднявеччы. І яшчэ я пад гэтым уражаннем.

*Доля мая ў Яго Божых руках,*
*Мілей за харомы, карону,*
*Пакутны, цярнёвы жыцця Яго шлях*
*І храм, гдзе прыбытак ягоны».*

Пра паездку ў Жырава 29 чэрвеня 1981 года Ларыса Антонаўна напісала таксама Лілеі і Ігару Чарняўскім: «Дні маі то паўзуць, то ляцяць. Айцец Васіль завёз мяне днямі ў Жыровічы. Некалькі стагоддзяў, як там з'явіўся пастушкам абразок Маці Божай на грушы. Кажуць, што аддалі яны пану той абразочак, і ён схаваў яго ў куфар. Але абразочак знік з куфра. Яго знайшлі на той самай грушы, на якой ён з'явіўся. На тым самым месцы выпырснула з зямлі крынічка, і цяпер стаяць там храмы з белымі, натхнёна выцягнутымі ў неба вежамі. Ёсць там велічэзная старая ліпа…»

І Алесю Белакозу ў Гудзевічы пра паездку ў Жыровічы таксама згадала 30 чэрвеня 1981 года: «Нядаўна завезлі мяне ў Жыровічы. Там — храмы белыя, натхнёныя і звонку, і ў сярэдзіне. Ёсць там шырачэзная ліпа, некалькі стагоддзяў ёй, і тая цудоўная легенда-быль. Усё гэта робіць уражанне на беларускую душу».

* * *

Ларыса і Янка Геніюшы любілі ў Зэльве сустракаць гасцей. У іх доме былі беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, палітыкі. Вядома, не забывалі паэтку і праваслаўныя святары. А ў верасні 1982 года Ларыса Геніюш пісала Валянціне Трыгубовіч, што да яе «ў госці прыйшлі тры маладыя, харошыя манашанькі з Жырава. Яшчэ паслушніцы, дык апранутыя больш-менш нармальна. Як птушаняты, нешта ўсё шчабяталі. Добра, што было пудэлка цукеркаў у хаце. Хварэла, дык спечанага не было нічога. Папрасілі мой «Чабарок» (маецца на ўвазе зборнік вершаў паэткі «На чабары настоена — С.Ч.). Для манахаў».

Летам 2010 года, да 100-годдзя з дня нараджэння слыннай беларускай паэткі, інак Мікалай (Бембель) з Жыровіцкага манастыра выдаў у Слонімскай друкарні накладам 300 асобнікаў паштоўку-партрэт маладой Ларысы Геніюш. З другога боку паштоўкі брат Мікалай надрукаваў свае паэтычныя радкі, прысвечаныя ёй:

*… не паланілі хімеры…*
*І не скарыў цябе час…*
*… чайка, спаведніца веры, —*
*Вымалі ў Госпада нас!..*

Калі я прыязджаю ў Жыровічы, каля Успенскага сабора мне заўсёды ўяўляецца постаць гэтай мужнай і таленавітай беларускі і прыгадваюцца яе вялікія радкі:

*Мудрасць спелую сівых вякоў*
*П'ю з народных жывых крыніцаў.*
*Паважаю чужых багоў,*
*Ды прывыкла сваім маліцца.*

РОК–2011

# КРАХ «ЧОРНЫХ СПІСАЎ» НЕПАЗБЕЖНЫ

## АГЛЯД МУЗЫЧНЫХ ПАДЗЕЙ ГОДА

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Колькі ў СМІ не вялося дыскусій пра такую агідную з'яву, як «чорныя спісы» для айчынных выканаўцаў, сітуацыя пакуль што засталася нязменнай. Быццам ініцыятары забаронаў не ведаюць, што самі спрыяюць росту папулярнасць «чорнаспісных» артыстаў і гуртоў.**



Зміцер Вайцюшкевіч, Лявон Вольскі, Аляксандр Кулінковіч — імёны гэтых беларускіх выканаўцаў усё больш асацыяваліся з нацыянальным культурніцкім падполлем. Хоць не так даўно іх канцэрты былі нярэдкімі на нацыянальным тэлебачанні, радыё і ў канцэртных залах, прытым, што выступленні на палітычных акцыях, кшталту «Песні Свабоды», даўно адышлі ў мінулае.

Упартасць чыноўнікаў ад культуры мяжуе з бязглуздзіцай, бо іх дзеянні па паглыбленні «чорных спісаў» нясуць разбурэнне нацыянальнай культурнай прасторы, абядняючы і пазбаўляючы яе частку канкурэнцыі з выканаўцамі нацыянальнага кірунку, а з ёй — і моўнага, меладычнага каларыту.

### «Нацыянальная музычная прэмія»

Ну ці не культурны парадокс, што ў незалежнай краіне «Нацыянальная музычная прэмія», якая не так даўно з помпай уручана прадстаўнікам так званага «беларускага шоў-бізнэсу», была заснавана і ў намінацыі «Лучшая песня на белорусском языке»?

А як жа астатнія намінанты на «Нацыянальную музычную прэмію»? Відавочна, спяваць «на белорусском» у прадстаўнікоў дзяржаўнай эстрады застаецца непрэстыжна, бо большасць з іх пазіцыянуюць сябе ў якасці прадстаўнікоў каланіяльнай культуры на тэрыторыі Беларусі. Толькі з дапамогай больш лаяльных аргументаў, маўляў, «у нас двуязычие», «на русском больше понимают».

І калі дазваляецца нешта беларускае, то гэта абавязкова фальклорнае. Вось і ў гэтым годзе «Нацыянальная музычная прэмія» была аддадзена энтатрыа «ТРОІЦА», якое, папраўдзе, даўно трэба было ўшанаваць ганаровым артыстычным званнем ці дзяржаўнай прэміяй больш высокага рангу. Узровень гэтых музыкантаў нельга нават параўноўваць з іншымі «трыумфатарамі» так званай «Нацыянальнай музычнай прэміі», кшталту гуртоў «ТЕО», «Litesound» і іншых.

### Халодны душ для прыхільнікаў «Ляпіса Трубяцкога»

Цікава, што цэтлік «забароненага» стаў вельмі жаданым для некаторых артыстаў, якія ўбачылі ў гэтым прывабны маркетынгавы ход: а ці не магчыма чыноўніцкую недальнабачнасць паставіць сабе на карысць і зрабіць яе асновай камерцыйнага поспеху?

Так, гэта магчыма. Напрыклад, у выпадку гурта «Ляпіс Трубяцкой», музыканты якога, седзячы ў Маскве, апошнім часам раздавалі гучныя інтэрв'ю, ладзілі масавыя канцэрты пад лэйблам «забароненых», здымалі палітычна афарбаваныя кліпы. Апошні з іх — на верш Янкі Купалы «Не быць скотам».

Безумоўна, у мастацтве выяўлення сваёй музыкі відэа-сродкамі музыкантам гурта «Ляпіс Трубяцкой» няма роўных на беларускім эстрадным небасхіле. Вобразы беларускіх рабочых, сялян і прадстаўнікоў інтэлігенцыі «нашаніўскага» перыяду на фоне бел-чырвона-белага сцяга са святой Пагоняй, пад жорсткія і гімнападобныя рокавыя рыфы зрабілі твор сенсацыяй гэтага года. А таксама далі многім падставы для таго, каб называць гурт лідарам айчыннай рок-музыкі.

Але іх чакаў халодны душ: падчас выбарчых хваляванняў у Маскве «Ляпіс Трубяцкой» не аднойчы запрашалі выступіць на Балотнай плошчы для прадстаўнікоў расійскай апазіцыі. Але «ляпісы» адмовіліся, спасылаўшыся на тое, што ў гэты час будуць даваць канцэрт у іншым горадзе. Так статус «забароненых змагароў» гурта «Ляпіс Трубяцкой» быў зніжаны да крытычнага ўзроўню.

Хаця на самай справе, у інтарэсах беларускіх слухачоў, каб музыканты гурту «Ляпіс Трубяцкой» вярнуліся ў лона айчыннага рок-руху. Для гэтага патрэбна, каб выканаўцы не проста дэкларавалі сваю пазіцыю ці цытавалі класікаў беларускай паэзіі. Патрэбны беларускамоўны альбом! Толькі ён будзе дастатковым доказам беларускасці музыкантаў. Будзем спадзявацца, што наступны год будзе пераломным у творчасці гурта «Ляпіс Трубяцкой», і тады зможам сказаць, што гурт у поўнай ступені стаў беларускім, і ўсе дыскусіі на гэтую тэму скончацца.

### Пераадолець беларускую сціпласць

Праўда, не заўсёды беларускамоўны альбом у творчасці таго ці іншага гурта сведчыць пра нацыянальную пазіцыю выканаўцаў. Напрыклад, гурту «J Морс», відавочна, аднаго альбома «Беларускае золата» было замала, каб напоўніцу асэнсаваць сябе нацыянальнымі артыстамі. Як і ўдзельнікам барысаўскага гурта «Без билета» дзеля гэтага не дастаткова адной песні «Мая краіна Беларусь».

Цяпер гэтыя таленавітыя поп-рок-калектывы выкарыстоўваюцца ў якасці тарана, якім падрываецца стан непадцэнзурнага рок-руху, выстаўлюцца як альтэрнатыва забароненым гуртам і выканаўцам. Добра тое ці дрэнна, няхай вырашыць час. Але сам факт, што згаданыя выканаўцы збіраюць поўныя канцэртныя залы сталіцы, наводзіць на думку, што на беларускай музычнай дзялянцы знойдзецца места ўсім. Важна навучыцца карыстацца шанцам, быць больш смелымі, крэатыўнымі для больш шчыльнага кантакту менавіта з беларускай публікай.

Неаднойчы даводзілася бываць на клубных канцэртах гуртоў «:B:N», «Akute», «IQ48», «Mauzer», «Спрат» і іншых таленавітых беларускіх каманд. Адзначу, што гэтыя выканаўцы ўжо сёння вырастаюць з клубных «штонікаў» і гатовы для штурму вялікіх канцэртных залаў. Справа засталася за больш прадуманай рэкламай, канцэртным сінтэзам цікавай музыкі і яркага рок-шоу, узаемадапамогай беларускіх выканаўцаў.

Да таго ж, нашым выканаўцам не хапае актыўнасці на міжнароднай фестывальнай арэне. Не многія са згаданых гуртоў цяперашнім летам выпраўляліся на фэсты і open-air'ы. Тлумачылі сваю пасіўнасць фінансавым крызісам і адсутнасцю сродкаў для музычных падарожжаў. А ўдзел у аўтарытэтных музычных дзеях з'яўляецца лепшай рэкламай для выканаўцаў. Прыклад таму — сёлетні поспех берасцейскага гурта «Sciana», які стаў лаўрэатам прэстыжнага рок-фестываля ў Польшчы, атрымаў з перамогай салідную грашовую прэмію на запіс новага альбома, а таксама некалькі перспектыўных прапаноў на гастрольныя паездкі па еўрапейскім канцэртным пляцоўкам. Адзначу, што гэта падзея выглядае абсалютна справядлівай. Бо «Sciana» — адзін з лепшых канцэртных калектываў Беларусі, які мае свой непаўторны саунд, валодае ўнікальнай выканаўчай тэхнікай і арыгінальным рэпертуарам.

### Новыя праекты — новыя далягляды

Год 2011 стаў вельмі важным для многіх маладых каманд, а таксама для музычных праектаў, якія прэтэндавалі на лідарства на айчыннай рок-сцэне. Свой статус «узыходзячых зорак» маладыя музыканты падмацоўвалі новымі альбомамі. Напрыклад, перспектыўная каманда «Re1ikt» прыцягнула ўвагу крытыкаў сваім дэбютнікам «Рэкі прабілі лёд», які вылучаецца сярод аналагічных рэлізаў стылістычнай навізной музычнай канвы і шчырымі тэкстамі.

Тое ж можна казаць і пра праект «PAWA», якім кіруе вядомы беларускі дудар і майстар, лідар гурта сярэднявечнай музыкі «TESTAMENTUM TERRAE» Юрась Панкевіч. Тут сітуацыя больш складаная: музыканты праекта прапанавалі слухачам электронныя версіі кампазіцый альбому ТТ «Angleza», чым высунулі праект у лідары айчыннай фолк-электронікі. Цяпер слухачы будуць чакаць ад «PAWA» і Юрася Панкевіча новых нефармальных падыходаў да апрацовак беларускага фальклору на аснове электронна-танцавальнага гучання. Галоўнае, каб імкненні да сучасных электронных трэндаў на забівалі душу народных спеваў, а эксперыменты не знішчалі мелодыю і рытміку шматвяковых спеваў беларусаў.

### На FM спадзявайся, але і сам не тармазі!

Добра было б для творчасці маладых выканаўцаў і іх рэлізаў, пра якія ішла размова, каб яны часцей гучалі ў беларускім FM-эфіры. Колькі б новых слухачоў улілася ў шэрагі прыхільнікаў айчыннай рок- і электроннай музыкі! Але гэткі цуд пакуль не для пачаткоўцаў, бо нават ветэраны айчыннай сучаснай папулярнай музыкі і іх творы мала цікавяць дыджэяў FM-станцый. Бо ў іх зусім іншыя прыярытэты: у асноўным расійская папса, з дапамогай якой паўсюдна запаўняюцца музычна-эфірныя прагаліны, якія ўтварыліся пад ціскам «чорных спісаў».

Цяпер можна казаць, што нацыянальны FM-эфір зусім знік з закрыццём знакамітага «Аўтарадыё». А вядучыя іншых радыёстанцый не маюць патрэбы звяртаць увагу на нацыянальную музычную культуру, тлумачачы сваю пазіцыю наяўнасцю гэтых сумнавядомых забарон, «чорных спісаў».

Зрэшты, усё залежыць ад асабістых прыхільнасцяў. І ў нашым «безнацыянальным» эфіры можна пачуць класічныя беларускамоўныя рэчы. Так «Радыё-Мінск» мае сантыменты да першых альбомаў гурта «Уліс», а «Радыё Мелодыі Века» часцяком аддае перавагу беларускамоўнаму каверу Юрыя Несцярэнкі і Пятра Ялфімава «Мару ўбачыць гэты дождж» на знакаміты хіт гурта «Creedence Clearwater Revival» «Have You Even Seen The Rain».

Трансляцыі гэтых беларускіх кампазіцый, безумоўна, граюць вялікую ролю ў папулярызацыі таго ці іншага выканаўцы. Але і самі артысты цяпер імкнуцца надаць штуршок цікаўнасці да сваёй творчасці.

Дзеля гэтага яны самі бяруцца распаўсюджваць наклады сваіх дыскаў, а тыя, хто не мае такой магчымасці, давяраецца прыватным распаўсюджвальнікам. Тыя гандлююць музычнай прадукцыяй і таксама папулярызуюць творчасць айчынных зорак: распавядаюць пра стылістычныя асаблівасці кампазіцый, гісторыю ўзнікнення забаронаў і забароненых гуртоў.

А каб падтрымаць цікаўнасць да «жывых» канцэртаў, арганізуюцца «кватэрнікі» і невялікія open-air-фэсты на прыватных тэрыторыях, слухачамі якіх становяцца ўсё больш беларусаў, як гараджан, так і маладых сельскіх жыхароў. А гэта тлусты цвік у труну «чорных спісаў», якія яшчэ практыкуюцца ў нашай краіне. Наступны год, я веру, павінен прынесці айчынным выканаўцам доўгачаканую творчую свабоду, за якую яны ўпарта змагаюцца вось ужо некалькі гадоў.

**Новы Час**
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284—85—11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1284

Падпісана да друку 23.12.2011. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.